# Беларускія землі ў XI ст.



# Гарады і прырода беларускіх зямель




| | |
|---|---|
| ПОЛОТЕСК | Назвы цэнтраў княстваў-зямель на старажытнарускай мове |
| Менеск | Назвы цэнтраў княстваў-валасцей на старажытнарускай мове |
| *Лукомль* | Назвы іншых гарадоў на старажытнарускай мове |
| *[Слонім]* | Гарады, якія існавалі паводле археалагічных звестак |
| *(Полацк)* | Сучасная беларуская назва населеных пунктаў *(не пазначаны, калі назвы супадаюць)* |
| 862 | Даты першага ўпамінання населеных пунктаў у пісьмовых крыніцах |
| 988 | Даты першага ўпамінання ў гарадах уласных князёў |
| — · — | Граніцы дзяржаў і княстваў-зямель у сярэдзіне XI ст. |
| ········ | Межы далучаных тэрыторый, княстваў-валасцей у другой палове XI—XII ст. |
| | Сучасная граніца Беларусі |
| *яцвягі* | Плямёны Усходняй Прыбалтыкі |
| | Найбольш буйныя лясы |
| | Балоты |
| | Важныя водныя шляхі |
| | Волакі |

Ю. М. Бохан
С. М. Цемушаў

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ са старажытных часоў да канца XV ст.

**Вучэбны дапаможнік**
**для 6 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі**
**з беларускай мовай навучання**

Пад рэдакцыяй доктара гістарычных навук Ю. М. Бохана

У дзвюх частках
Частка 1

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

Мінск
Выдавецкі цэнтр БДУ
2016

УДК 94(476)"…/14"(075.8)
ББК 63.3(4Беи)я73-1
Б86

Аўтары:
*Ю. М. Бохан* — § 1—14 часткі 2, абагульненні, слоўнік;
*С. М. Цемушаў* — «Слова да вучняў», «Уводзіны», § 1—16 часткі 1, абагульненні, слоўнік, метадычнае забеспячэнне

Рэцэнзенты:
аддзел гісторыі Беларусі Сярэдніх вякоў і пачатку Новага часу дзяржаўнай навуковай установы «Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі» (кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык аддзела *В. А. Варонін*); настаўнік гісторыі вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Гімназія № 15 г. Мінска» *В. М. Капанёва*; доктар гістарычных навук, прафесар, прарэктар па вучэбнай рабоце ўстановы адукацыі «Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт» *Д. У. Дук*; настаўнік гісторыі вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Гімназія № 56 г. Мінска» *П. М. Гламбоцкі*

**Бохан, Ю. М.**
Б86 Гісторыя Беларусі са старажытных часоў да канца XV ст. : вучэб. дапам. для 6-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання : у 2 ч. Ч. 1 / Ю. М. Бохан, С. М. Цемушаў ; пад рэд. Ю. М. Бохана. — Мінск : Выд. цэнтр БДУ, 2016. — 163 с. : іл.
ISBN 978-985-553-344-4.

**УДК 94(476)"…/14"(075.8)**
**ББК 63.3(4Беи)я73-1**

**ISBN 978-985-553-344-4 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-553-349-9**

© Бохан Ю. М., Цемушаў С. М., 2016
© Афармленне. РУП «Выдавецкі цэнтр БДУ», 2016

## Слова да вучняў

Юныя сябры! Вы трымаеце ў руках вучэбны дапаможнік па гісторыі нашага краю са старажытных часоў да канца Сярэднявечча. Ён павінен стаць вашым спадарожнікам на працягу паловы года. З яго дапамогай вы набудзеце веды аб жыцці насельніцтва на беларускіх землях у найбольш ранні перыяд гісторыі.

Старажытны, або першабытны, перыяд — гэта першая ступень у гісторыі народаў свету. У тыя часы на беларускіх землях рассяліліся людзі. А ў самым пачатку наступнага перыяду — Сярэднявечча — на сучаснай тэрыторыі Беларусі з'явіліся нашыя непасрэдныя продкі славяне. Як вы ўбачыце, перыяд Сярэднявечча для Беларусі быў багаты на падзеі. Гэта час утварэння першых дзяржаў, страты і набыцця імі незалежнасці. Тады ж сфарміравалася феадальнае грамадства. Насельніцтва беларускіх зямель удасканальвала прылады працы. Былі створаны выдатныя помнікі архітэктуры і мастацтва. Да ліку найбольш важных падзей належыць і пашырэнне хрысціянства.

Вывучаючы гісторыю Беларусі, вы пазнаёміцеся з мудрымі князямі, мужнымі ваярамі, пабожнымі царкоўнымі дзеячамі, таленавітымі пісьменнікамі і дойлідамі, самаадданымі асветнікамі. Але іх дасягненні былі б немагчымыя без штодзённай цяжкай працы простага народу.

У старажытнасці казалі, што гісторыя — гэта настаўніца жыцця. Сапраўды, веданне мінулага дазваляе нам разумець сучаснасць. Разам з тым гісторыя дае магчымасць прадбачыць будучыню і не паўтараць памылак, зробленых у мінулым.

Гісторыя Беларусі — гэта частка сусветнай гісторыі, гісторыі ўсяго чалавецтва. Вывучаючы сусветную гісторыю, вы знойдзеце шмат

агульных з’яў. Аднак зразумелай будзе і адметнасць мінулага нашай Радзімы.

У працы над гэтай кнігай вам дапаможа настаўнік. Але, каб авалодаць ведамі па айчыннай гісторыі, вы павінны не толькі ўважліва вывучаць тэкст параграфаў, але чытаць і шмат іншай літаратуры. Шэраг кніг прапанаваны ў канцы кожнай з дзвюх частак дапаможніка ў рубрыцы «Раім пачытаць». Ваша цікавасць да прадмета зробіць вывучэнне роднай гісторыі паспяховым. Гэта дазволіць вам стаць адукаванымі людзьмі і сапраўднымі грамадзянамі нашай краіны.

У добры шлях, юныя сябры, і вялікіх поспехаў вам на гэтым шляху!

## Звесткі пра вучэбны дапаможнік

Дарагія сябры! Перш чым пачынаць працаваць з дапаможнікам, уважліва азнаёмцеся з яго зместам. Кніга складаецца з дзвюх частак, у кожнай з якіх — па два вялікія раздзелы. Раздзелы падзяляюцца на параграфы, якія змяшчаюць некалькі пунктаў, абазначаных лічбамі.

Дапаможнік пачынаецца з «Уводзін». Там даюцца агульныя звесткі пра гісторыю Беларусі ў старажытнасці і Сярэднявеччы, пра асноўныя крыніцы, з якіх мы даведаліся аб тых далёкіх часах.

Кожны параграф пачынаецца з пытанняў у рубрыцы «Успомніце» і завяршаецца пытаннямі да тэксту. Пытанні ёсць і ў тэксце. Паспрабуйце адказаць на кожнае з іх. Гэта дазволіць больш удумліва і поўна засвоіць новы матэрыял, звязаць яго з тымі ведамі, якія вы набылі раней.

Каб адказаць на некаторыя пытанні, трэба не толькі зразумець прачытанае, але і больш падумаць, паразважаць, а калі неабходна, звярнуцца па дапамогу да настаўніка. Такія пытанні пазначаны зорачкай.

У некаторых пунктах вы знойдзеце рубрыку «Гістарычная даведка». Яе матэрыялы паглыбяць вашы веды па прадмеце. Вывучэнне гісторыі грунтуецца на выкарыстанні гістарычных крыніц. Іх змест дазваляе нам зазірнуць у мінулае, даведацца пра падзеі далёкіх часоў ці пра тое, як іх ацэньвалі сучаснікі. У рубрыцы «Цікава ведаць» прыводзяцца дадатковыя гістарычныя факты, кароткія ўрыўкі з гістарычных твораў, летапісаў і іншых пісьмовых крыніц.

На старонках падручніка вы знойдзеце малюнкі. Яны таксама патрабуюць вашай увагі. Вызначце, што з прачытанага ў тэксце яны адлюстроўваюць. Звяртайце ўвагу і на картасхемы. Яны дазволяць дапоўніць вашу вандроўку ў часе па краіне нашых продкаў падарожжам у прасторы. Тлумачэнні слоў, выдзеленых у тэксце ***тлустым***

***курсівам***, — абавязковыя для засваення. Іх азначэнні, а таксама паняцці, пазначаныя *курсівам*, можна знайсці ў «Слоўніку гістарычных паняццяў і тэрмінаў», змешчаным у канцы кожнай з дзвюх частак дапаможніка. Даты, якія неабходна запомніць, а таксама імёны славутых гістарычных асоб вылучаны **тлустым шрыфтам**. У вучэбным дапаможніку выкарыстаны наступныя ўмоўныя абазначэнні:


— успомніце;


— пра што вы даведаецеся ў параграфе;


— цікава ведаць;


26—27
— звярніцеся да атласа (Гісторыя Беларусі са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст.: атлас: вучэб. дапам. для 6-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання. Мінск: Белкартаграфія, 2012);


26—27
— звярніцеся да хрэстаматыі (Гісторыя Беларусі са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст.: 6-ы кл.: хрэстаматыя: вучэб. дапам. для вучняў устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / аўт. уступ. матэрыялаў, склад. С. М. Цемушаў. Мінск: Нар. асвета, 2012);


— звярніцеся да электронных адукацыйных рэсурсаў (электронны адукацыйны рэсурс «Гісторыя Беларусі. 6 клас», размешчаны на нацыянальным адукацыйным партале: http://e-vedy.adu.by);


— наведайце славутыя мясціны;


— галоўнае ў параграфе;


— адкажыце на пытанні.

## Уводзіны


*1. Што вывучае навука гісторыя?*
*2. Якія перыяды сусветнай гісторыі вам ужо знаёмыя?*


Мы прызвычаіліся да таго, што бачым вакол у паўсядзённым жыцці. Але так было не заўсёды. Шмат стагоддзяў таму жыццё чалавека моцна адрознівалася ад нашага. Паступова ў развіцці чалавецтва адбываліся вельмі важныя змены. Яны не абмінулі і беларускія землі. Карэнныя пераўтварэнні ў грамадстве, у спосабах вытворчасці, у прыладах працы дазваляюць вылучаць перыяды гісторыі. На якія ж перыяды падзяляецца гісторыя Беларусі? Як мы даведваемся пра змены і асаблівасці жыцця нашых продкаў?

**1. Навошта ведаць гісторыю сваёй зямлі?** Кожны чалавек павінен паважаць традыцыі сваіх продкаў, ганарыцца іх учынкамі і дасягненнямі. Усе мы памятаем уласнае мінулае. Таксама трэба памятаць мінулае сваёй краіны. Толькі тады можна лічыць сябе часткай супольнасці — беларускага народа. Векавы вопыт нашых продкаў дапаможа нам пазбегнуць памылак у будучыні. Ён падкажа, хто мы такія і адкуль узяліся на гэтай зямлі. Пасадзейнічае нам у гэтым навука гісторыя. Менавіта яна вывучае вопыт асобных людзей, суполак, народаў, досвед чалавецтва, назапашаны ім на працягу ўсяго развіцця.

*Даведайцеся, наколькі старажытны населены пункт, у якім вы жывяце.*

*Ці ведаеце вы паходжанне свайго імя?*

Гісторыя не праходзіць бясследна. Яе подых мы адчуваем паўсюль: у назвах гарадоў, вуліц, рэк, азёр, у імёнах, прозвішчах і інш. Гісторыя

стварае трывалую сувязь пакаленняў. Веданне гэтай навукі — даніна памяці нашым продкам. Сваёй руплівай працай яны стваралі наш з вамі дабрабыт.

У гісторыі былі не толькі поспехі і мірнае будаўніцтва, але і страты, і найбольш жахлівая для чалавецтва з’ява — вайна. Гісторыя дае




**?** *Адкажыце, якая дзяржава амаль поўнасцю ўваходзіла ў межы Рэспублікі Беларусь.*

нам прыклады, як пазбегнуць канфліктаў, як вырашыць тыя ці іншыя праблемы ў жыцці грамадства. Веданне мінулага нашай зямлі таксама дазваляе зразумець, як лепш пабудаваць стасункі з суседзямі.

**2. Гісторыя Беларусі — частка сусветнай гісторыі.** Мінулае нашых продкаў нельга разглядаць асобна ад мінулага ўсяго чалавецтва.

Гісторыя Беларусі развівалася па тых самых законах, што і сусветная гісторыя. Беларускія землі заўсёды былі цесна звязаны з далёкімі і блізкімі землямі. Адтуль да нас прыйшлі першыя людзі. У сваім развіцці яны прайшлі тыя ж перыяды, што і насельніцтва іншых зямель. Яны навучыліся апрацоўваць зямлю, гадаваць жывёлу, вырабляць металічныя рэчы. Пазней беларускія землі ўвайшлі ў склад супольнай дзяржавы ўсходніх славян. Яшчэ пазней нашы продкі злучыліся з суседнімі народамі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Іх усіх звязваў агульны лёс.

Беларускія землі адчувалі ўплыў з Усходу і з Захаду. З канца X ст. нашы продкі прынялі хрысціянства ўсходняга ўзору. А з канца XIV ст. дзяржаўная ўлада аддала перавагу каталіцтву. Гэта спрыяла наладжванню цесных сувязяў з усёй Еўропай.

На землі нашых продкаў прыходзілі таленавітыя іншаземцы. Яны ўнеслі традыцыі сваіх краін у скарбніцу беларускай культуры. Людзі з нашых зямель таксама ўпісалі свае імёны ў гісторыю іншых краін. Таму гісторыя Беларусі з'яўляецца неад'емнай часткай сусветнай гісторыі.

*Растлумачце выраз «сістэма трох вякоў».*

**3. На якія перыяды падзяляецца гісторыя Беларусі.** Перыядызацыя гісторыі — гэта падзел яе на пэўныя адрэзкі часу — перыяды. На працягу кожнага перыяду пачыналася, развівалася і заканчвалася якая-небудзь важная падзея або з'ява. Старажытная гісторыя Беларусі падзяляецца на каменны, бронзавы і жалезны вякі. У сваю чаргу, каменны век падзяляецца на старажытны, сярэдні і новы каменны век.



▲ Фігурка жывёлы з бурштыну. XII—XIII стст. Знойдзена ў Гродне

На змену старажытнаму часу прыйшлі Сярэднія вякі. Яны працягваліся з канца V ст.

**КАМЕННЫ ВЕК**
**100—35 тыс. гадоў таму — канец 3-га тысячагоддзя да н. э.**

▲ «Стужка часу»



▲ Рэчавыя крыніцы (крамянёвыя наканечнікі стрэл) з археалагічных раскопак



▲ Бронзавая сякера. Выпадковая знаходка каля Пінска Брэсцкай вобласці

? *Як вы думаеце, да якога перыяду належаць гэтыя рэчы?*

*Якімі падзеямі завяршаецца перыяд Сярэднявечча?*

і да канца XV ст. Сярэднявечча таксама падзяляецца на тры перыяды.

Першы перыяд — Ранняе сярэднявечча. Ён ахопліваў час рассялення славян на тэрыторыі Беларусі. Другі перыяд — Высокае (Развітое) сярэднявечча. Гэта час існавання на тэрыторыі Беларусі старажытнарускіх княстваў і ўзнікнення Вялікага Княства Літоўскага.

Трэці перыяд — Позняе сярэднявечча. У гэты перыяд дасягнула свайго росквіту Вялікае Княства Літоўскае. У яго склад увайшлі ўсе беларускія землі.




**4. Адкуль мы ведаем гісторыю мінулага.** Сапраўднае навуковае спасціжэнне гісторыі магчыма толькі на падставе крыніц. Для засваення кожнага перыяду большае значэнне мае пэўны від крыніц. Для першабытнага часу і Ранняга сярэднявечча гэта *рэчавыя крыніцы*. Іх знаходзяць пры археалагічных раскопках.

Са з'яўленнем пісьменнасці людзі пачалі запісваць звесткі аб жыцці. Першыя надпісы нашых продкаў вядомы з канца X ст. У XI ст. з'явіліся першыя гістарычныя творы. Паведамленні ў іх запісваліся па гадах (на старажытнарускай мове — «летах»). Таму іх назвалі ***летапісамі***. Найбольш старажытны з захаваных летапісаў быў складзены *манахам* Нестарам у Кіеве каля 1113 г. Ён называецца

*Чаму менавіта манахі займаліся складаннем летапісаў?*



На археалагічных раскопках старажытнага паселішча каля Лагойска Мінскай вобласці




*Паспрабуйце дадаць да спісу рэчавых і пісьмовых крыніц некалькі элементаў.*





«Аповесць мінулых гадоў». У гэтым творы расказваецца пра з'яўленне славян на тэрыторыі Беларусі, пра першых полацкіх князёў, пра пачатак раздраблення Полацкага княства.

Працягам «Аповесці мінулых гадоў» сталі пазнейшыя мясцовыя летапісы. Магчыма, свой летапіс быў складзены і ў Полацку. Пазней летапісы ствараліся і ў Вялікім Княстве Літоўскім.

З цягам часу з'явіліся і іншыя пісьмовыя крыніцы. Гэта былі апавяданні пра выдатных людзей царквы *(жыціі)*, зборнікі законаў, граматы, дагаворы. Звесткі аб гісторыі беларускіх зямель траплялі і ў іншаземныя крыніцы: польскія хронікі, скандынаўскія сагі.



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Вялікую цікавасць выклікае летапіс, які называецца Радзівілаўскім. Ён быў створаны ў канцы XV ст., аднак захаваў больш ранні тэкст — пачатку XIII ст. У свой час гэты твор належаў аднаму з князёў Радзівілаў са славутага роду Вялікага Княства Літоўскага. Таму і атрымаў сваю назву. Пра гісторыю ўсходніх славян можна даведацца не толькі з тэксту летапісу, але і з невялікіх каляровых малюнкаў. Іх называюць *мініяцюрамі*. Усяго ў летапісе іх больш за 600. На думку гісторыкаў, гэта сапраўдныя «вокны, скрозь якія можна глядзець на зніклы свет Старажытнай Русі».

З развіццём гаспадаркі і культуры на беларускіх землях назапашвалася ўсё больш рэчавых і пісьмовых крыніц. Дзейнасць вялікіх князёў літоўскіх знайшла адлюстраванне ў прывілеях (граматах). У іх вызначаліся правы пэўных груп насельніцтва і ўсіх жыхароў дзяржавы. У 1468 г. быў зацверджаны першы звод прававых нормаў — Судзебнік.



На працягу ўсёй гісторыі нашы продкі пакідалі сляды сваёй дзейнасці. Дзякуючы ім зараз мы даведваемся аб жыцці чалавека на тэрыторыі Беларусі ў розныя перыяды.



Прывілей Казіміра IV. 1465 г.



**1.** Чаму трэба вывучаць гісторыю сваёй Айчыны?
**2.** Дакажыце, што гісторыя Беларусі з'яўляецца часткай сусветнай гісторыі.
**3.** Запішыце ў сшыткі па гісторыі храналагічныя межы каменнага, бронзавага і жалезнага вякоў, а таксама перыядаў Сярэднявечча. Выкарыстайце «стужку часу» на с. 14—14.
**4.** Прывядзіце прыклады рэчавых гістарычных крыніц.
**5.** Якія з пісьмовых крыніц даюць больш інфармацыі па гісторыі перыяду Сярэднявечча?
**6.** Падлічыце, колькі прыблізна стагоддзяў працягваліся ў гісторыі Беларусі: а) бронзавы век; б) жалезны век; в) Сярэднявечча.
**7*.** Паразважайце, якія крыніцы больш каштоўныя для вывучэння гісторыі Беларусі: пісьмовыя або рэчавыя.

*Айчынная гісторыя пачынаецца з таго часу, калі на нашай зямлі з'явіліся людзі. Адбылося гэта вельмі даўно. З таго часу наш край зведаў вельмі значныя змены. Яны істотна пераўтварылі чалавечае грамадства. Сярод гэтых змен — з'яўленне земляробства і жывёлагадоўлі, знаходжанне спосабу здабычы жалеза. Нашы продкі паступова навучыліся лепш забяспечваць сябе харчаваннем. Больш камфортнымі сталі ўмовы жыцця. У людзей з'явіўся вольны час. Яго можна было выкарыстаць для ўдасканалення прылад працы ці занятку мастацтвам. Нашы продкі пазнавалі навакольны свет, спрабавалі даць тлумачэнне паходжанню ўсяго, што існавала.*

*З першага раздзела вы даведаецеся пра ўсе гэтыя перамены. Вам будзе прапанавана здзейсніць падарожжа ў найбольш ранні перыяд айчыннай гісторыі — час першабытнасці і Ранняга сярэднявечча. І хаця гэта самы працяглы прамежак часу ў гісторыі насельніцтва нашага краю, ведаем мы пра яго няшмат.*

# § 1. Найстаражытнейшыя людзі на беларускай зямлі



*1. Дзякуючы чаму першабытны чалавек здолеў выжыць ва ўмовах ледавіковай эпохі?*
*2. Хто такія неандэртальцы і краманьёнцы?*



Вельмі працяглы час старажытныя людзі не жадалі сяліцца на тэрыторыі Беларусі. Жыццю першабытнага чалавека пагражалі дзікія жывёлы, хваробы і галоўнае — недахоп ежы. Калі ж на нашай зямлі з’явіліся першыя людзі? Як было арганізавана жыццё чалавека ў тыя далёкія часы?

**1. Прырода беларускіх зямель у старажытнасці.** Прыродныя ўмовы на тэрыторыі Беларусі ў першабытнасці вельмі адрозніваліся ад сучасных. Доўгі час беларускія землі былі непрыдатнымі для жыцця чалавека. У далёкім мінулым адбываліся моцныя пахаладанні. Яны прыводзілі да ўтварэння *ледавікоў* — вялікіх напластаванняў лёду. Неаднойчы ледавікі прасоўваліся з поўначы, з боку Скандынавіі, на тэрыторыю Беларусі. Таўшчыня лёду на нашых землях магла дасягаць 2 км.




Тэрыторыя, пакрытая апошнім ледавіком
Прасоўванне ледавіка каля 150 тыс. гадоў таму
Месцы знаходак прылад працы неандэртальцаў
Найбольш старажытныя стаянкі чалавека
Напрамкі засялення тэрыторыі Беларусі
Месцы знаходак рэшткаў мамантаў і шарсцістых насарогаў

▲ З’яўленне людзей на тэрыторыі Беларусі



▲ Шарсцістыя насарогі

? *Як вы думаеце, да якіх умоў надвор'я былі прыстасаваны гэтыя жывёлы?*


3

Потым настала пацяпленне. Ледавік пачаў раставаць і адышоў з тэрыторыі Беларусі 14 тыс. гадоў назад. Канчаткова ён растаў каля 12 тыс. гадоў назад. На прасторы, з якой сышоў ледавік, утвараліся азёры, аднаўляліся рэкі.

Разам з пацяпленнем змянялася прырода. Яшчэ некаторы час па беларускіх землях блукалі маманты, шарсцістыя насарогі, аўцабыкі, бізоны, коні, высакародныя, вялікарогія і паўночныя алені.

**2. Калі чалавек упершыню апынуўся на тэрыторыі Беларусі?** Магчыма, першымі людзьмі, якія з'явіліся на тэрыторыі Беларусі, былі *неандэртальцы*.


2

Аднак упэўнена сцвярджаць можна толькі пра прыход на нашы землі краманьёнцаў. *Краманьёнец*, ці чалавек сучаснага тыпу, з'явіўся ў Еўропе прыкладна **35—40 тыс. гадоў таму**.

Напачатку пранікненню краманьёнцаў на нашы землі перашкаджаў суровы клімат ледавіковай эпохі. Але надыходы ледавікоў змяняліся перыядамі міжледавікоўя. Тады надвор'е рабілася больш цёплым. Падчас аднаго з такіх міжледавікоўяў з поўдня на тэрыторыю Беларусі прыйшла невялікая група людзей. Іх прывабіў наш край, лясы якога былі поўныя дзічыны, а рэкі — рыбы.



▲ Неандэрталец

Пра з'яўленне людзей на беларускіх землях мы ведаем дзякуючы пакінутым імі ***стаянкам*** — месцам пасялення і гаспадарчай дзейнасці. На месцах старажытных стаянак выяўлена шмат прылад працы і касцей жывёл. Гэта былі косці пераважна мамантаў. Тагачасныя людзі палявалі таксама на старажытных коней, паўночных аленяў і шарсцістых насарогаў.



▲ Краманьёнец

Найбольш старажытная стаянка выяўлена на беразе Прыпяці, каля вёскі Юравічы Калінкавіцкага раёна на Гомельшчыне. Археолагі знайшлі там месца забою і перапрацоўкі

*? Параўнайце твары неандэртальца і краманьёнца. У чым можна ўбачыць адрозненні?*



◄ Чэрап і біўні маманта. Стаянка Юравічы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці



Старажытнае жытло

*Як вы думаеце, колькі часу займала будаўніцтва такога жытла?*



6—8

2

паляўнічай здабычы. Людзі з'явіліся тут у **24-м тысячагоддзі да н. э.** Другая стаянка старажытнага каменнага веку адкрыта на беразе р. Сож, каля вёскі Бердыж Чачэрскага раёна, таксама на Гомельшчыне. На ёй людзі жылі ў **22—21-м тысячагоддзях да н. э.**



У Бердыжы археолагі знайшлі рэшткі двух паглыбленых у зямлю жытлаў. Сцены былі складзены з чарапоў, сківіц і іншых буйны́х касцей мамантаў. Жытлы пакрываліся шкурамі і былі падобныя да буданоў (шалашоў). У іх сярэдзіне распальвалася вогнішча.




«Стужка часу». Перыяды каменнага веку



▲ Скрабок



▲ Вастраканечнік



▲ Разец

*Узгадайце, які час ахоплівае каменны век.*

? *Падумайце, для якой працы маглі выкарыстоўваць гэтыя прылады.*

**3. Чаму век назвалі каменным.** Найбольш старажытны перыяд у гісторыі чалавецтва атрымаў назву ***«каменны век»***. Тлумачыцца яна тым, што людзі ў той час рабілі прылады працы ў асноўным з каменю. Часцей за ўсё гэта быў крэмень. Ён лёгка расшчапляецца на вострыя кавалкі.





З крэменю нашы далёкія продкі навучыліся вырабляць *востраканечнікі*. Гэта прылады трохкутнай формы, абабітыя па краях. Імі можна было праколваць і рэзаць шкуры жывёл. Вастраканечнік можна было прымацаваць сухажыллямі і смалой да палкі. Так атрымліваліся простыя *дзіды (коп'і)*. Старажытныя людзі выкарыстоўвалі таксама *скрабкі* для апрацоўкі скур і *разцы* для рэзання.



Першыя прылады працы чалавека былі вельмі простыя. Іх маглі рабіць з дрэва і камянёў, толькі крыху апрацаваных. Але з цягам часу яны станавіліся больш дасканалымі. На тэрыторыі Беларусі знойдзены тры найбольш старажытныя прылады працы. Імі маглі карыстацца людзі яшчэ старажытнага каменнага веку. Гэта вастраканечнік і два скрабкі. Выяўлены яны каля в. Падлужжа Чачэрскага раёна на Бердыжскай стаянцы, паблізу пасёлка Свяцілавічы Веткаўскага раёна і непадалёку ад в. Абідавічы Быхаўскага раёна. Аб старажытнасці гэтых прылад працы сведчыць пацiна — цёмны налёт на іх паверхні.

*Знайдзіце згаданыя месцы на картасхеме на с. 17.*



Паляванне краманьёнцаў на маманта. Мастак *Здэнек Бурыян*

*Які прыём палявання паказаны на малюнку? Складзіце расказ аб гэтым паляванні. Якую трагедыю адлюстраваў на малюнку мастак?*

Найбольш жаданай здабычай людзей у старажытным каменным веку былі маманты. Аднак 10—12 тыс. гадоў таму маманты вымерлі. Замену гэтым велізарным жывёлам складана было знайсці. Старажытныя паляўнічыя перайшлі да палявання на паўночных аленяў. Гэта былі больш дробныя ў параўнанні з мамантамі і хутканогія жывёлы. Таму патрабаваліся новыя спосабы палявання на іх. Так паступова, разам са змяненнем прыроды, адбывалася і развіццё людзей.

*Якія меркаванні наконт прычын вымірання мамантаў вы ведаеце?*

*Ці знаходзілі ў вашай мясцовасці косці мамантаў або іншых старажытных жывёл, а таксама стаянкі людзей каменнага веку? Падрыхтуйце кароткае паведамленне на гэту тэму.*




Параўнанне памераў чалавека, маманта і слана



У свой час маманты жылі на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Іх косткі знойдзены амаль у 200 месцах нашай краіны. У Міры, Оршы, Петрыкаве і каля в. Сухары Магілёўскай вобласці выяўлены нават цэлыя шкілеты. Гэтыя велізарныя жывёлы знешне нагадвалі сучасных сланоў, аднак іх вага была ўдвая большай (да 7 тон і болей). Акрамя таго, яны мелі доўгую калматую поўсць і вялікія крута выгнутыя біўні. Паляванне на мамантаў патрабавала высілкаў вялікай колькасці людзей, магчыма, нават усяго племені. Буйны́х жывёл заганялі ў ямы-пасткі і дабівалі завостранымі каламі, дубінамі і камянямі. Таксама мамантаў падганялі да краю абрыву, змушаючы іх саскокваць і разбівацца.

**4. Засяленне тэрыторыі Беларусі.** Засяленне тэрыторыі Беларусі людзьмі было галоўнай падзеяй пасляледавіковай эпохі. Калі ледавік адышоў, утварыліся рэкі. Яны сталі шляхамі для новага рассялення людзей. Паляўнічыя, рыбаловы і збіральнікі рухаліся па Дняпры, Прыпяці і Сажы. Нарэшце былі заселены даліны рэк і роўныя прасторы паміж імі.



4



*Пабывайце ў музеях вашай мясцовасці. Там даведайцеся, калі ў вашым рэгіёне з'явіліся старажытныя людзі. Якія сляды свайго жыцця яны пакінулі?*







У канцы сярэдняга каменнага веку клімат стаў яшчэ больш спрыяльным. Колькасць насельніцтва беларускіх зямель павялічылася. Стаянкі густа пакрылі берагі рэк. У гэты час утварылася першае сталае насельніцтва.

**5. Чым займаліся старажытныя людзі.** У тыя далёкія часы чалавек цалкам залежаў ад прыроды. У яе людзі бралі ў гатовым выглядзе ўсё неабходнае для жыцця. Не было ні земляробства, ні жывёлагадоўлі. Каб выжыць, людзі займаліся паляваннем, рыбалоўствам і збіральніцтвам. Здабыча ўсяго неабходнага для жыцця ў прыродзе ў гатовым выглядзе называецца ***прысвойвальнай***, або ***спажывецкай, гаспадаркай***.



11—14



*Прасачыце шляхі рассялення чалавека на тэрыторыі Беларусі па картасхеме на с. 17.*



Крамянёвыя наканечнікі стрэл новага каменнага веку



Рыбалоўныя гарпуны і кручок. Пачатак 2-га тысячагоддзя да н. э. Стаянка Асавец Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці

У сярэднім каменным веку адбываўся сапраўдны росквіт прысвойвальнай гаспадаркі, перш за ўсё збіральніцтва. Аднак доўгі час старажытныя людзі існавалі за кошт палявання. Гэты занятак не мог даць чалавеку надзейнае, штодзённае харчаванне. Часта здаралася, што людзі падоўгу галадалі.

Вельмі зручнай прыладай для палявання яшчэ з канца старажытнага каменнага веку




? *З дапамогай схемы высветліце, якія заняткі былі распаўсюджаны ў першабытны час.*



◀ Спосаб свідравання з дапамогай лука

*Падумайце, для чаго было патрэбна свідраванне камянёў.*

стаў лук. Стрэлы былі драўляныя з крамянёвымі ці касцянымі наканечнікамі. З дапамогай лука стала магчыма паляваць на дробных і хуткіх жывёл, на ляту біць птушак. Стралой з лука можна было забіць нават буйну́ю жывёліну. Лук — гэта найбольш старажытны механізм, які вынайшаў чалавек. З яго дапамогай стала прасцей здабываць агонь і свідраваць камяні. Выяўленне спосабу свідравання каменю лічыцца адным з найвялікшых вынаходніцтваў новага каменнага веку.

**6. Роды і плямёны.** Людзі не маглі ўцалець у складаных умовах каменнага веку паасобку. Першабытныя людзі пачалі жыць групамі, а з цягам часу сталі аб'ядноўвацца ў роды.

***Род*** — гэта група людзей, калектыў кроўных родзічаў. Некалькі родаў, якія мелі агульнае паходжанне, аб'ядноўваліся ў ***плямёны***.


18—22




З канца 5-га тысячагоддзя да н. э. на поўдні Беларусі пачалі выраблець гліняны посуд, які быў вельмі неабходны ў жыцці чалавека. Яго рабілі ў кожным паселішчы ўручную, з кавалкаў ці доўгіх жгутоў гліны. Паверхню пасудзін пакрывалі ўзорам (арнаментам). Затым іх абпальвалі на вогнішчы. Першапачаткова гліняныя гаршкі мелі круглае або завостранае дно.

*Выкажыце сваё меркаванне, чаму гаршкі рабілі менавіта такой формы.*



▲ Старажытны гліняны гаршчок. Канец 3-га тысячагоддзя да н. э. Лідскі раён Гродзенскай вобласці

*Знайдзіце сваю мясцовасць на адной з гістарычных карт старажытнай Беларусі (каменны век, бронзавы век, жалезны век) і вызначце, што там знайшлі археолагі.*

Такім чынам, у старажытнасці людзі вымушаны былі жыць сумесна — родамі і плямёнамі. Такая форма арганізацыі грамадства ў гісторыі называецца *першабытным ладам*.




Аднак, нягледзячы на роўнасць усіх людзей, ужо ў першабытнасці пачалі вылучацца правадыры. Гэта былі найбольш фізічна моцныя, кемлівыя або вопытныя людзі.




? *З дапамогай схемы сфармулюйце азначэнне паняцця «першабытны лад».*

! Такім чынам, дакладна можна казаць, што людзі на тэрыторыі Беларусі жылі з 24-га тысячагоддзя да н. э. Разам са з’яўленнем чалавека на беларускай зямлі пачаўся адлік яе гісторыі. Першыя людзі знаходзілі простыя спосабы ўзяць у прыроды тое, што патрэбна для жыцця. Гэтымі спосабамі сталі паляванне, збіральніцтва і рыбалоўства. Выжыць людзям дапамагала аб’яднанне ў калектывы — роды і плямёны.



1. Чаму тэрыторыя Беларусі доўгі час не магла быць заселена людзьмі?
2. Калі на тэрыторыі Беларусі з'явіліся першыя людзі? Што пра гэта сведчыць?
3. Чаму каменны век атрымаў такую назву? Што было для яго характэрна?
4. Калі на тэрыторыі Беларусі склалася першае сталае насельніцтва?
5. Растлумачце, якая гаспадарка называецца прысвойвальнай. Якія заняткі яна ўключала?
6. У якія групы ці калектывы аб'ядноўваліся людзі ў старажытнасці? Чаму гэта адбывалася?

7*. Чаму спажывецкая гаспадарка не дазваляла чалавеку забяспечыць сабе надзейнае, штодзённае харчаванне?

## § 2. Змены ў новым каменным веку



*1. У якіх рэгіёнах Зямлі раней узнікла земляробства?*
*2. Якія жывёлы былі прыручаны першымі?*



У канцы каменнага веку чалавек знайшоў спосабы пераадолець поўную залежнасць ад прыроды. Гэта стала велізарным крокам у развіцці чалавецтва. У чым заключаліся гэтыя спосабы? Якія наступствы мела іх з'яўленне?

**1. Як зарадзілася вытворчая гаспадарка.** Пры прысвойвальнай гаспадарцы людзі цалкам залежалі ад прыроды. Здаралася, што яны падоўгу не маглі знайсці харчавання. Таму з цягам часу людзі навучыліся самі рабіць тое, што неабходна для жыцця. Яны прыручалі і гадавалі жывёл, вырошчвалі ядомыя расліны. Такая гаспадарка называецца вытворчай. Яе пашырэнне дазволіла людзям пераадолець непастаянства прыроды. З'явілася магчымасць назапашваць больш ежы. Харчаванне стала разнастайнейшым.

*У чым галоўнае адрозненне вытворчай гаспадаркі ад прысвойвальнай?*



▲ Крамянёвая сякера. 3—2-е тысячагоддзі да н. э. Асавец Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці

***Вытворчая гаспадарка*** — гэта гаспадарка, пры якой асноўнымі крыніцамі забеспячэння людзей прадуктамі харчавання з'яўляюцца жывёлагадоўля і земляробства. Але не былі цалкам забытыя і галоўныя заняткі папярэдняга часу: паляванне, збіральніцтва і інш. Аднак яны мелі ўжо другараднае значэнне.

**2. З'яўленне жывёлагадоўлі.** Вялікую ролю ў гаспадарцы старажытных часоў адыгрывала паляванне. Падчас яго людзі часам адлоўлівалі дзіцянят звяроў і захоўвалі ім жыццё. На стаянцы жывёлы прывыкалі да чалавека. Больш свойскімі станавіліся тыя, што нараджаліся ў паселішчах людзей. Першым чалавек прыручыў сабаку, які стаў надзейным памочнікам паляўнічага і чуйным вартаўніком.





22—24



5

Раней жывёлагадоўля з'явілася на поўдні сучаснай Беларусі. Гэта адбылося ў перыяд новага каменнага веку, у **3-м тысячагоддзі да н. э.** Дзякуючы жывёлагадоўлі чалавек атрымаў магчымасць мець запасы харчавання. Свойскія жывёлы сталі дапамагаць людзям і ў гаспадарцы, у тым ліку ў земляробстве.

*З курса сусветнай гісторыі ўспомніце, якія жывёлы былі прыручаны пасля сабакі.*



◄ Паселішча людзей новага каменнага веку. Мастак *Здэнек Бурыян*

*Якія заняткі старажытных людзей адлюстраваны на малюнку?*

**3. Першыя земляробы.** Земляробства зарадзілася амаль адначасова з жывёлагадоўляй. Аднак для яго развіцця ў большай ступені патрабаваліся спрыяльныя ўмовы надвор'я і добрая глеба. Таму земляробства спачатку ўзнікла на поўдні Беларусі — на Палессі.




Першапачаткова апрацоўка зямлі ажыццяўлялася з дапамогай матык. Такое земляробства называецца матычным. Але шырокага распаўсюджання *матычнае земляробства* на тэрыторыі Беларусі атрымаць не магло. Звязана гэта з тым, што амаль уся плошча была занята лясамі.

У лясных краях выкарыстоўвалася ***ляднае (падсечна-агнявое) земляробства***. Ляда, або падсека, — гэта ўчастак, на якім высякаўся лес. Дрэвы спачатку падсякалі (адсюль назва — «падсека»). Праз некаторы час яны высыхалі і іх спальвалі. Лепшы ўраджай давала глеба, калі для яе ўзрыхлення сталі выкарыстоўваць драўлянае *рала*. Старажытнае рала было знойдзена ў тарфяніку паблізу вёскі Капланавічы Клецкага раёна. Рала цягнулі быкі. У попел сеялі зерне і баранавалі поле кавалкам сукаватага дрэва — *бараной-сукаваткай*. Так узнікла ***ворыўнае земляробства***. Але яго пашырэнне адбылося значна пазней.



▲ Спосаб мацавання сякеры

Ураджай збажыны зжыналі з дапамогай сярпоў. У перыяд новага каменнага веку яны ўяўлялі сабой крамянёвыя пласцінкі-ўкладышы, якія замацоўваліся ў драўляных



▲ Старажытная матыка з рогу. Ветка Гомельскай вобласці



▲ Крамянёвы серп

*? Уявіце сябе старажытным земляробам. Як бы вы выкарыстоўвалі прылады працы, адлюстраваныя на фотаздымках?*



Старажытны земляроб. Мастак *Здэнек Бурыян*

*Якой прыладай працы карыстаецца старажытны земляроб?*

ці касцяных апраравах. Першыя два-тры гады збіралі добры ўраджай. Але потым глеба спусташалася. Таму даводзілася пераходзіць на новы ўчастак.

У той час у Еўропе асноўнымі земляробчымі культурамі былі пшаніца і ячмень. Тэрыторыя Беларусі аказалася больш прыдатнай для ячменю. Пазней пачалі вырошчваць жыта, проса і лён.

**4. Як узнікла няроўнасць у грамадстве.** Група людзей, якія вялі агульную гаспадарку і сумесна валодалі прыладамі працы, складала *абшчыну*. Спачатку ўсе, хто ў яе ўваходзіў, былі родзічамі — гэта значыць, абшчына амаль супадала з родам. Таму яе называюць ***родавай абшчынай***.

Першапачаткова ў абшчыне была калектыўная ўласнасць на ежу і на ўсю здабычу. Размяркоўваліся яны ўраўняльна. Аднак з цягам часу сітуацыя змянілася. Дзякуючы земляробству і жывёлагадоўлі людзі сталі добра забяспечваць сябе прадуктамі харчавання. Назапашваліся лішкі. У выніку з'явілася магчымасць вызваліць некаторых людзей ад пастаяннага здабывання ежы.

У перыяд новага каменнага веку родавая абшчына стала аб'ядноўваць большую колькасць людзей. Ускладнілася і іх працоўная дзей-




*Растлумачце лагічны ланцужок.*

насць. З развіццём земляробства і жывёлагадоўлі спатрэбіліся сховішчы для сабранага ўраджаю, хлявы для жывёлы, умацаванні для абароны ад хцівых суседзяў. Таму для кіравання складаным жыццём абшчыны сталі неабходны спецыяльныя людзі. Так вылучыліся *старэйшыны* і *правадыры*. Яны атрымалі права распараджацца маёмасцю абшчыннікаў. Гэта дазволіла ім багацець. У самой абшчыне з’явіліся бедныя і багатыя сем’і. Так пачыналася *расслаенне грамадства*.



Пра расслаенне грамадства, з’яўленне падзелу на багатых і бедных сведчаць пахавальныя помнікі таго часу. Археолагі падчас раскопак знаходзяць зусім бедныя пахаванні памерлых з адным гаршком ці прыладай працы. Разам з тым некаторыя магілы налічваюць дзясяткі прадметаў. Сярод іх і ўпрыгажэнні з медзі, срэбра і бурштыну. Зразумела, што і пры жыцці людзі адрозніваліся па колькасці маёмасці, якую мелі.

*Падумайце, аб чым яшчэ сведчыць пахаванне памерлых з некаторымі рэчамі.*

Багатыя абшчыннікі не жадалі аддаваць сваю маёмасць і імкнуліся распараджацца ёю па ўласным жаданні. Так узнікала ўяўленне аб *прыватнай уласнасці*, якую можна было абмяняць, падараваць, пакінуць у спадчыну.

Асобныя абшчыны і плямёны станавіліся багацейшымі за іншыя. Праз гэта адбываліся сутычкі. Так узніклі войны. Яны прывялі да

*Паспрабуйце растлумачыць, чаму з’яўленне багацця выклікала войны.*

*Паразважайце, што з’яўлялася важнай умовай перамогі ў вайне. Як гэта спрыяла ўмацаванню ўлады правадыра?*

ўмацавання ўлады правадыроў. У выніку перамогі маглі быць захоплены палонныя. Іх выкарыстоўвалі для працы ў гаспадарцы старэйшын і ваенных кіраўнікоў. Да рабоў ставіліся амаль як да членаў сям’і. З цягам часу яны маглі нават зрабіцца свабоднымі. Такую форму залежнасці называюць *патрыярхальным (хатнім) рабствам*.



▲ Пацеркі з марскіх ракавінак. 20 тыс. гадоў таму

**5. Першыя прыклады мастацтва.** Ужо ў старажытным каменным веку зарадзілася мастацтва. У гэты час з’явілася і *скульптура* — створаная з розных матэрыялаў аб’ёмная выява. З канца каменнага веку вядомы касцяныя статуэткі мамантаў, насарогаў, коней, бізонаў. Да таго ж часу належаць і скульптурныя выявы жанчын. Яны сімвалізавалі маці — прадаўжальніцу роду.



◀ Стварэнне Венеры. Мастак *Здэнек Бурыян*

? *Як вы думаеце, з якой мэтай першабытныя мастакі стваралі статуэткі?*



У новым каменным веку першабытныя мастакі ўжо часта рабілі выявы чалавека. Акрамя скульптур гэта былі прадрапаныя на косці вобразы людзей. Так, ля возера Вячэра Любанскага раёна Мінскай вобласці знойдзена выява паляўнічага, а на паселішчы Юравічы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці — мужчыны перад качкай.

*Паразважайце, што маглі азначаць гэтыя выявы мужчын. Ці магчыма, што першабытны мастак паказаў сябе?*

Цікавыя статуэткі мужчын знойдзены на стаянцы каля вёскі Асавец Бешанковіцкага раёна на Віцебшчыне. Яны належаць да часу новага каменнага веку і пачатку бронзавага веку. Магчыма, гэта былі ўвасабленні духаў — ахоўнікаў і памочнікаў у паляванні.


4

У старажытнасці выраблялі ўпрыгажэнні з зубоў ваўка, лісы, дзіка або мядзведзя, касцяных пласцінак, храбтоў рыб. Іх насілі на шыі або нашывалі на вопратку. Гэта былі *амулеты*, якія быццам бы засцерагалі іх уладальніка ад небяспекі.

Разам з пашырэннем земляробства старажытныя насельнікі беларускіх зямель сталі



▲ Статуэткі людзей са стаянкі Асавец Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці



▲ Керамічны аскепак з выявай чалавека са стаянкі Асавец-2 Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці



▲ Амулеты-прывескі з косці са стаянкі Асавец-2



Гліняны посуд бронзавага веку з арнаментам. Себравічы Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці

*Як вы думаеце, з якой мэтай быў нанесены арнамент?*

*Падумайце, чаму з'яўленне арнаменту звязваецца з пашырэннем земляробства.*

аздабляць гліняны посуд арнаментам. Ён складаўся з фігур, такіх як круг, ромб, крыж. Яны сімвалізавалі Сонца, плоднасць, вечнасць прыроды, яе кругазварот.



У 3-м тысячагоддзі да н. э. на поўдні сучаснай тэрыторыі Беларусі ўзніклі жывёлагадоўля і земляробства. Гэтыя вялікія адкрыцці чалавецтва мелі вельмі важныя наступствы. З'яўляліся запасы прадуктаў, пачалося расслаенне грамадства. Змены, што адбываліся ва ўяўленнях чалавека аб навакольным свеце, знаходзілі ўвасабленне і ў першабытным мастацтве.



1. Што такое вытворчая гаспадарка?
2. Як на беларускіх землях з'явілася жывёлагадоўля?
3. Раскажыце пра з'яўленне і развіццё земляробства на тэрыторыі Беларусі.
4. Як паўплывала з'яўленне земляробства і жывёлагадоўлі на развіццё грамадства?
5. Раскажыце пра ўзнікненне расслаення грамадства і патрыярхальнага (хатняга) рабства.
6. Прывядзіце прыклады першабытнага мастацтва з тэрыторыі Беларусі. Як яно звязана з развіццём вытворчай гаспадаркі?

7*. Ці згодны вы з тым, што з'яўленне вытворчай гаспадаркі — гэта найвялікшая падзея ў гісторыі чалавецтва? Аргументуйце свой адказ.

# § 3. Пачатак выкарыстання металаў на беларускіх землях



*1. Якія час ахоплівалі перыяды бронзавага і жалезнага вякоў?*
*2. Пра што расказвалі міфы старажытных егіпцян і грэкаў?*



Наступным вялікім вынаходніцтвам чалавека стала стварэнне прылад працы і зброі з металаў. Калі металічныя рэчы з'явіліся на беларускіх землях? Як насельніцтва беларускіх зямель навучылася здабываць жалеза? Якія важныя наступствы гэта мела?

*Падумайце, што магло прапанаваць для абмену старажытнае насельніцтва Беларусі.*

**1. Першыя прылады працы з металу.** У **пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э.** на тэрыторыю Беларусі трапілі першыя вырабы з медзі і бронзы. Гэта былі ўпрыгажэнні, шылы, сярпы, сякеры і наканечнікі коп'яў. Так пачаўся бронзавы век.

На тэрыторыі Беларусі медныя руды глыбока схаваны пад паверхняй зямлі. Калі адступаў ледавік, ён, быццам коўдрай, закрыў зямлёй горныя пароды. Здабыць іх у першабытны час было немагчыма. Нешматлікія металічныя рэчы шляхам абмену траплялі на беларускія землі з Урала, Каўказа і Прыкарпацця. Таму і бронзавы век пачаўся позна.

Медныя вырабы не былі лепшымі за крамянёвыя. Аднак медзь у спалучэнні з волавам давала больш трывалы сплаў — бронзу. Да таго ж ён плавіўся на звычайным вогнішчы. Выкарыстанне бронзавых прылад павысіла выніковасць працы. Таму на беларускіх землях у той час распаўсюдзіліся бронзавыя сярпы. Яны з поспехам



Бронзавы кельт (сякера). Клічаўскі раён Магілёўскай вобласці



*Як вы думаеце, для чаго выкарыстоўвалася гэтая сякера?*



Краснасельскія крэменездабыўныя шахты. Рэканструкцыя

выкарыстоўваліся ў земляробстве. Вырабы з бронзы вельмі цаніліся. Аднак крамянёвыя прылады яны замяніць не маглі.

У бронзавым веку крамянёвыя прылады працы сталі больш дасканалымі. Іх свідравалі, шліфавалі, яны сталі невялікімі па памеры. Крэмень для вырабу прылад працы першабытныя «шахцёры» здабывалі ў найпрасцейшых шахтах, падобных да калодзежаў.





6

Шмат шахтаў было адкрыта каля пасёлка Краснасельскі, недалёка ад Ваўкавыска на Гродзеншчыне. Глыбіня шахты складала 3—5 м. Знойдзеныя ў адкладах мелу кавалкі крэменю змяшчалі ў скураны мяшок, які на вяроўцы выцягвалі наверх. З крэменю выраблялі сякеры і іншыя прылады, якія распаўсюджваліся ў Панямонні і за яго межамі. У адной шахце археолагамі выяўлена пахаванне «шахцёра». Каля яго былі знойдзены касцяная іголка для сшывання скураных мяшкоў і гліняная пасудзіна.

*Складзіце расказ пра працу старажытнага «шахцёра». Узгадайце, якімі прыладамі працы ён карыстаўся, як асвятляў шахту, як спускаўся ў яе і падымаўся з яе.*





26—27

**2. Як здабывалася жалеза.** Наступны пасля бронзавага веку перыяд атрымаў назву жалезнага веку. Ён пачаўся каля **700 г. да н. э.** і доўжыўся да пачатку Сярэдневечча. З жалеза нашы продкі сталі рабіць зброю, прылады працы, бытавыя рэчы: сякеры, нажы,



Жалезныя прылады працы

*Як называецца кожны з гэтых прадметаў?*

наканечнікі коп’яў і стрэл, сярпы, рыбалоўныя кручкі, шылы, спражкі і шмат іншага. Новыя, больш дасканалыя прылады працы з жалеза хутка выцеснілі састарэлыя, зробленыя з камянёў.




29—30

У адрозненне ад медзі жалезная — балотная і азёрная — руда часта сустракаецца на тэрыторыі Беларусі. Асабліва багатае на яе Палессе. Таму ў Беларусі шмат населеных пунктаў, назва якіх утворана ад слова «руда». Злучэнні жалеза стагоддзямі асядалі бурай каламуццю на дно балот ці азёр, утвараючы руду. Людзі знаходзілі яе па бурым колеры травы.

*Ці ёсць у вашай мясцовасці такія населеныя пункты?*



Старажытныя майстры каля печы-домніцы. Рэканструкцыя




26—29

*З дапамогай малюнка і матэрыялаў з хрэстаматыі раскажыце, як атрымлівалі жалеза ў старажытнасці.*

Выплаўка жалеза патрабуе высокай тэмпературы. Для гэтага ў найпрасцейшых *печах-домніцах* спачатку награвалі руду і атрымоўвалі порыстую масу — *крыцу*. Пасля коўкай — моцнымі ўдарамі молата — ачышчалі яе ад дамешкаў.

**3. Якое значэнне мела адкрыццё жалеза.** Жалезныя прылады працы дазвалялі лягчэй і больш якасна выконваць складаную працу земляробаў. Гэта было асабліва важна для беларускага лясного краю. Жалезная сякера давала магчымасць хутчэй расчышчаць дзялянкі для земляробства. З дапамогай рала з жалезным наральнікам лепш апрацоўвалася глеба. Сярпы і косы дазвалялі хутка і з меншымі стратамі сабраць вырашчанае.

Усё гэта значна павялічыла ўраджаі. З'явіліся і лішкі прадуктаў. Іх можна было абмяняць у суседзяў на іншыя прадукты, якасныя рамесныя вырабы ці прадметы раскошы. Так пашырыліся ўзаемаадносіны паміж плямёнамі.

Пры дапамозе жалезных сякер нашы продкі сталі ўзводзіць больш трывалыя жылыя і гаспадарчыя пабудовы. Дасканалейшай стала зброя. Таму часцей адбываліся войны, якія станавіліся больш жорсткімі.






Здабыча жалеза і выраб з яго разнастайных рэчаў патрабавалі спецыяльных навыкаў і майстэрства. Таму ад іншых гаспадарчых спраў канчаткова аддзяліліся рамёствы, асабліва кавальская справа.

 

Такім чынам, адкрыццё жалеза істотна змяніла чалавечае грамадства, дало штуршок для яго развіцця.



Гарадзішча на беразе ракі Сэрвач у в. Малышкі Вілейскага раёна Мінскай вобласці. Рэканструкцыя

? *Якія штучныя (пабудаваныя) умацаванні абараняюць гарадзішча?*

**4. Чаму і як пачалося будаўніцтва гарадзішчаў.** У жалезным веку паўсюль на тэрыторыі Беларусі сталі ўзнікаць умацаваныя паселішчы, або, як іх называюць вучоныя, ***гарадзішчы***. Для гарадзішчаў выбіраліся месцы, ужо абароненыя прыродай, звычайна на высокіх берагах рэк. Дадаткова яны ўмацоўваліся землянымі валамі, равамі, драўлянымі агароджамі ці сценамі.




Распаўсюджанне гарадзішчаў менавіта ў жалезным веку не было выпадковым. Жалезныя прылады працы дазволілі збіраць большыя ўраджаі. Таму ў асобных абшчынах і плямёнах стала назапашвацца



Раскопкі Чаплінскага гарадзішча. Лоеўскі раён Гомельскай вобласці




8

Прыкладам можа служыць гарадзішча жалезнага веку, знойдзенае каля в. Чаплін Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. Чаплінскае гарадзішча займала невялікую плошчу — усяго палову гектара. З аднаго боку яго абараняў высокі і круты бераг Дняпра, а з боку поля яно было ўмацавана валам і ровам. Унутры размясціліся каля трох дзясяткаў жытлаў. Жыхары гарадзішча шмат здабывалі жалеза, з якога вырабілі багата сярпоў, што сведчыць аб значным развіцці земляробства. Мясцовыя рамеснікі рабілі і ўпрыгажэнні з бронзы, якія любілі насіць тутэйшыя жанчыны.

*Як вы думаеце, колькі чалавек жыло ў Чаплінскім гарадзішчы?*

маёмасць і прадукты харчавання. Гэта прываблівала грабежнікаў. Для таго каб абараніць сябе, вынікі сваёй працы, і ствараліся гарадзішчы. Акрамя абароны гарадзішчы маглі будавацца і для іншых спраў. Тут маліліся племянным багам, тут жа наладжвалі племянныя сходы. Некаторыя гарадзішчы будаваліся як часовыя сховішчы. У іх хаваліся людзі падчас небяспекі.




38—39

**5. Як зарадзіліся міфы і ў што верылі першабытныя людзі.** Назіраючы за прыроднымі з'явамі, чалавек намагаўся іх зразумець. У старажытнасці людзям не хапала ведаў, каб



▶ Пахаванне паляўнічага на мамантаў. Мастак *Здэнек Бурыян*

? *Што на малюнку сведчыць пра тое, што першабытныя людзі верылі ў замагільнае жыццё?*

знайсці слушнае тлумачэнне змены пораў года, дня і ночы, паходжання дажджу і грому, узнікнення і росту раслін. Усё гэта тлумачылі складзеныя чалавекам *міфы*.

*Знайдзіце і перакажыце беларускі міф аб паходжанні свету ці асобных прыродных з'яў і аб'ектаў.*

Міфам называецца такі аповед, у якім людзі перадаюць сваё разуменне навакольнага свету і яго паходжання, месца ў ім чалавека і жыцця багоў і герояў. Складзеныя нашымі продкамі міфы расказвалі пра Вялікую Багіню — маці-зямлю, ад якой пайшло ўсё існае. Яны апавядалі пра стварэнне грому і маланкі нябесным богам, пра паходжанне рэк, азёр і балот і г. д.

*Высветліце, якія старажытныя міфы і паданні звязаны з вашым населеным пунктам, раёнам, вобласцю. Якія яны даюць уяўленні аб мінулым вашага краю?*

Міфы ў тыя далёкія часы былі вельмі блізкія да рэлігійных уяўленняў. Зараз немагчыма дакладна казаць, у якіх багоў верылі людзі ў бронзавым веку, тым больш у каменным. У той час людзі надзялялі душой усіх жывых істот і нежывыя прадметы. Багі адказвалі за кожную з'яву ці стыхію прыроды. Таму іх было шмат. Аднак людзі больш шанавалі тых багоў, ад якіх, як яны верылі, залежаў іх дабрабыт. Так, разам з пашырэннем земляробства на першае месца выйшлі багі Сонца і дажджу.



Багатае пахаванне

*Якімі ўяўленнямі першабытных людзей можна растлумачыць наяўнасць у магіле такой колькасці карысных рэчаў?*

*Падумайце, чаму былі важныя менавіта гэтыя багі.*

Верылі нашы далёкія продкі і ў замагільнае жыццё. Аб гэтым сведчаць пахавальныя *абрады*. Смерць, асабліва нечаканая і раптоўная, заўсёды палохала людзей. Таму людзі спрабавалі яе растлумачыць як пераход у іншы свет.

Водгалас старажытных міфаў і рэлігійных уяўленняў захаваўся ў беларускіх казках, абрадах, арнаментах народнай вышыўкі.



З верай старажытных людзей у замагільнае жыццё звязана з'яўленне пахавальных абрадаў. У розныя часы на тэрыторыі Беларусі былі вядомы два тыпы абраду пахавання. Адзін — закопванне цела памерлага ў зямлю, другі — спальванне нябожчыкаў. Над пахаваннем маглі насыпаць *курган*. Лічылася, што агонь валодае ачышчальнай сілай. З гэтай прычыны яму і аддавалі нябожчыка. У старажытнасці верылі, што жыццё працягваецца «на тым свеце». Таму памерламу пакідалі рэчы, якімі ён карыстаўся пры жыцці. Гэта маглі быць упрыгажэнні, зброя, прылады працы і інш.



Такім чынам, каля 700 г. да н. э. насельніцтва беларускіх зямель знайшло спосаб здабычы жалеза і вырабу з яго прылад працы і зброі. У выніку грамадства выйшла на новы этап свайго развіцця. У бронзавым і жалезным вяках узніклі міфы, рэха якіх дайшло да нашых часоў.



1. Што стрымлівала распаўсюджанне медных і бронзавых вырабаў у Беларусі ў старажытныя часы?
2. З якіх матэрыялаў рабілі зброю і прылады працы ў бронзавым веку?
3. Як здабывалі жалеза на тэрыторыі Беларусі ў старажытнасці?
4. Якое значэнне мела адкрыццё жалеза?
5. У сувязі з чым у жалезным веку сталі ўзнікаць гарадзішчы?

**6.** Чаму з'явіліся міфы і рэлігійныя вераванні? Пра што расказвалі міфы і ў што верылі старажытныя людзі?
**7*.** Як вы думаеце, ці маюць рацыю тыя вучоныя, якія лічаць, што ў гісторыі Беларусі не трэба вылучаць перыяд бронзавага веку?

## § 4. Насельніцтва беларускіх зямель бронзавага і жалезнага вякоў



*1. Хто такія індаеўрапейцы?*
*2. Калі існавала Рымская імперыя?*



У бронзавым і жалезным вяках тэрыторыя Беларусі была ўжо шчыльна заселена людзьмі. Хто былі гэтыя людзі? Як яны жылі? Чым займаліся і што пакінулі пасля сябе?

**1. Пранікненне індаеўрапейцаў на тэрыторыю Беларусі.** У 3-м — першай палове 2-га тысячагоддзя да н. э. па Еўропе рассяліліся шматлікія плямёны жывёлаводаў-вандроўнікаў. Гэта былі ***індаеўрапейцы***. Магчыма, першапачаткова яны жылі на ўсходзе Малой Азіі побач з Іранам. Прыкладна ў **сярэдзіне 3-га тысячагоддзя да н. э.** першыя індаеўрапейцы з'явіліся і на тэрыторыі Беларусі.




▲ Паходжанне еўрапейскіх народаў

*Успомніце, калі на тэрыторыі Беларусі з'явіліся жывёлагадоўля і земляробства.*

На прасторах Еўропы сфарміравалася некалькі груп народаў. Сярод іх былі германцы, балты, пазней — славяне. Менавіта дзякуючы індаеўрапейцам на тэрыторыі Беларусі атрымалі значнае пашырэнне новыя формы гаспадаркі: жывёлагадоўля і земляробства.

40—45

**2. Плямёны балтаў.** У старажытнасці тэрыторыя Беларусі была заселена плямёнамі ***балтаў***. Сваю гісторыю яны вядуць з канца новага каменнага веку. Падчас рассялення некаторыя індаеўрапейскія плямёны занялі тэрыторыю ва Усходняй Еўропе і на ўзбярэжжы Балтыйскага мора. Менавіта таму гісторыкі і далі гэтым плямёнам назву «балты». Балты размаўлялі на падобных мовах, мелі аднолькавы лад жыцця.

9

У бронзавым веку балты займалі вельмі вялікую тэрыторыю. Яна распасціралася ад вярхоўяў ракі Волгі на ўсходзе амаль да ракі Одэр на захадзе. На поўначы землі балтаў даходзілі да Фінскага заліва, на поўдні — да Сярэдняга Падняпроўя. У II—V стст. балты перажывалі свой «залаты век». У гэты час дасягнулі росквіту іх рамяство і гандаль.

*Знайдзіце згаданыя тэрыторыі на карце свету.*




▶ Балты ў старажытнасці

«Бурштынавы шлях» і яго адгалінаванні



Магчыма, балты былі вядомы пад імем «неўры». Неўраў, якія жылі дзесьці на поўдні сучаснай Беларусі, згадваў «бацька гісторыі» Герадот у V ст. да н. э. Ён расказваў, што гэтыя неўры раз у год на некалькі дзён ператвараліся ў ваўкоў. Легенды аб ваўкалаках і пазней былі распаўсюджаны на беларускай зямлі.

*Зразумела, што гэтая легенда не адпавядае рэчаіснасці. Чым жа, на вашу думку, было выклікана яе з'яўленне?*

Балты падзяляліся на заходніх, усходніх і дняпроўскіх. Заходнія балты займалі тэрыторыю ад Панямоння да Ніжняй Віслы. У Раннім сярэднявеччы сярод іх найбольш моцнымі былі прусы, яцвягі і куршы.

Усходнія балты жылі па берагах рэк Нёман, Заходняя Дзвіна, Вілія. Да іх належала племя літва. Пра дняпроўскіх балтаў мала што вядома. Усе яны растварыліся сярод славян, якія прыйшлі пазней.

На тэрыторыі Беларусі пражывалі продкі літвы, яцвягаў і іншых балцкіх плямёнаў. Старажытныя балты сталі продкамі сучасных літоўцаў і латышоў. Пэўную ролю адыгралі яны ў фарміраванні і беларускага *этнасу (народа)*.




◀ Групы балтаў

? *Чаму ў схеме не пазначаны назвы плямёнаў дняпроўскіх балтаў?*

**3. Як жылі старажытныя балты.** Балты на тэрыторыі Беларусі жылі ў адкрытых неўмацаваных *селішчах* і ўмацаваных гарадзішчах. Апошнія размяшчаліся на ўзвышаных месцах ці асобных узгорках на крутых берагах рэк і азёр. Іх памеры былі зусім невялікія.

Свае жытлы балты будавалі са слупоў. Зверху збудаванні накрываліся дахам. Драўляныя сцены часта абмазваліся глінай. Пасярэдзіне жытлаў размяшчаліся адкрытыя вогнішчы.



Жыллё балтаў. Рэканструкцыя

Балты былі добрымі земляробамі і жывёлаводамі. Рымскія гісторыкі адзначалі, што балты сеялі збожжа і вырошчвалі іншыя культуры, працуючы больш рупліва, чым германцы.

Вялікае значэнне мела жывёлагадоўля. Балты гадавалі свіней, авечак, коней і кароў. Дапаможную ролю адыгрывалі паляванне і рыбалоўства.

**4. Удзел у гандлі.** На землях балтаў не было радовішчаў медзі. Мясцовыя жыхары куплялі або выменьвалі яе ў суседзяў. Што яны маглі прапанаваць узамен? Балтам надзвычай пашанцавала. На балтыйскім узбярэжжы знаходзіцца найбольш буйное радовішча бурштыну. Яго справядліва называлі «паўночнае золата». За бур-



Бурштынавы дыск сонца. 3-е тысячагоддзе да н. э.



Пацеркі (камень, бурштын, шкло) з гарадзішча Нікадзімава Горацкага раёна Магілёўскай вобласці VI—VII стст.

штын еўрапейскія і ўсходнія гандляры гатовыя былі прапанаваць добрую цану.

Яшчэ ў бронзавым веку ўзнік «бурштынавы шлях». Ён звязваў Прыбалтыку з Міжземнамор'ем. Магчыма, нейкія адгалінаванні гэтага шляху праходзілі праз тэрыторыю Беларусі.

*Знайдзіце гэты шлях на картасхеме на с. 44.*

Але не толькі бурштынам гандлявалі балты. З Прыбалтыкі на поўдзень вывозіліся коні, жывёла, шкуры жывёл, мёд, воск.



▲ Бронзавая падвеска-лунніца з чырвонай эмаллю. III—IV стст.

У часы Рымскай імперыі на свае тавары балты выменьвалі тысячы манет. У Прыбалтыцы было знойдзена мноства манетных скарбаў. Адзінкавыя рымскія манеты і скарбы выяўлены і на тэрыторыі Беларусі.

Да балтаў паступалі і іншыя тавары: гліняны посуд, шкляныя пацеркі, бронзавыя вырабы.

**5. Рамёствы і мастацтва.** Апрацоўка жалеза, бронзаліцейная справа, выраб глінянага посуду, апрацоўка дрэва, каменю, косці, прадзенне і ткацтва былі найбольш важнымі заняткамі балтаў. У кожным балцкім паселішчы займаліся гэтымі рамёствамі.






◄ Адзенне балтаў VII—VIII стст.

? *Аб існаванні якіх рамёстваў у балтаў сведчыць іх вопратка?*



У адзенні, упрыгажэннях, нават зброі выявілася імкненне балтаў да прыгажосці. Упрыгажэнні і іншыя вырабы багата арнаментаваліся. Найбольш распаўсюджаны былі геаметрычныя ўзоры. Надзвычай разнастайныя ўпрыгажэнні выраблялiся для жанчын: галаўныя вянкі, шыйныя грыўны, пацеркі, бранзалеты, фібулы, шпількі, пярсцёнкі. І ў нашы дні здзіўляе майстэрства вырабаў з эмаллю. У балцкім эмалевым арнаменце выкарыстоўваліся чырвоныя, зялёныя, сінія, блакітныя колеры. Балцкія рэчы з эмаллю знойдзены і на тэрыторыі Беларусі.

*Як вы думаеце, ці кожная жанчына магла насіць такія ўпрыгажэнні?*



▲ Балцкія фібулы (зашпількі для плашча)

Балты дасягнулі высокага ўзроўню майстэрства ў вырабе ўпрыгажэнняў. Яны з вялікім густам і ўмельствам стваралі прадметы з бронзы і срэбра. Мясцовыя майстры творча перапрацоўвалі і ўзоры ювелірных вырабаў, якія траплялі да іх ад суседзяў. У выніку ў мастацтве склаўся асаблівы «балтыйскі стыль».

Тысячы гадоў жылі балты на тэрыторыі Беларусі. У другой палове 1-га тысячагоддзя н. э. на змену балтам прыйшлі славяне. Але культура і дасягненні балтаў не зніклі бясследна. Славяне запазычылі ў іх каштоўны вопыт жыцця ў лясным краі, узоры ўпрыгажэнняў, захавалі балцкія назвы рэк і азёр.

**6. Суседская абшчына і развіццё грамадства.** У ходзе перасялення народаў асобныя роды перамешваліся. У выніку родавая абшчына змянілася суседскай. У ***суседскую абшчыну*** акрамя родзічаў уваходзіла значная колькасць суседзяў. Аб'ядноўвала іх сумесная праца і валоданне агульнай маёмасцю: зямлёй, выпасамі,ляснымі ўгоддзямі.

У жалезным веку дзякуючы развіццю гаспадаркі ў абшчынах сталі заставацца лішкі прадуктаў. Гэта стварыла ўмовы для з'яўлення *знаці*



Разбагацець можна было, старанна працуючы на зямлі. Яшчэ большае багацце прыносіў гандаль. Значна прасцей, але больш рызыкоўна было ўдзельнічаць у рабаўніцкім набегу. Багаты чалавек мог ладзіць піры для супляменнікаў, утрымоўваць рабоў і нават мець уласныя воінскія атрады. У той час лічылася, што калі чалавек багаты, значыць, да яго ставяцца з прыхільнасцю багі.

*Паразважайце, як у тыя часы можна было выкарыстаць назапашанае багацце.*

(знатных людзей). Да яе спачатку належалі людзі, якія вылучаліся сваімі якасцямі, карыснымі для ўсяго грамадства. Яны былі найбольш паважанымі людзьмі сярод супляменнікаў і мелі на іх вялікі ўплыў. Знатнымі маглі стаць старыя, мудрыя ці багатыя людзі.




*Растлумачце лагічны ланцужок. Кім маглі быць людзі, якія не ўдзельнічалі ў вытворчасці?*



Такім чынам, доўгі час на тэрыторыі Беларусі жылі плямёны балтаў. Яны стварылі сваю непаўторную культуру, якую часткова запазычылі славяне. Адбывалася развіццё грамадства, што выявілася ва ўзнікненні суседскай абшчыны.



1. Калі на тэрыторыю Беларусі патрапілі індаеўрапейцы?
2. На якія групы і плямёны падзяліліся балты? Знайдзіце іх тэрыторыі на картасхеме на с. 44.
3. У якіх паселішчах жылі балты? Апішыце іх жытлы.
4. Пералічыце асноўныя заняткі старажытных балтаў.
5. Прывядзіце доказы таго, што рамяство і гандаль балтаў дасягнулі высокага ўзроўню.
6. Запоўніце ў сшытку табліцу. Зрабіце выснову.

| Гандаль балтаў | |
|---|---|
| **Тавары, якія ўвозіліся** | **Тавары, якія вывозіліся** |
| **1.**<br>**2.**<br>**3.**<br>**4.**<br>**5.** | **1.**<br>**2.**<br>**3.**<br>**4.**<br>**5.** |

7. Чаму замест родавай узнікла суседская абшчына? Якія яшчэ змены адбыліся ў развіцці грамадства?

8*. Як вы думаеце, што канкрэтна з досведу жыцця балтаў у лясным краі маглі запазычыць славяне, якія прыйшлі пазней?

## § 5. Рассяленне славян



*1. Якія плямёны засялілі тэрыторыю Беларусі ў пачатку Сярэднявечча?*
*2. Якую тэрыторыю засялілі славяне ў Раннім сярэднявеччы?*



У першых стагоддзях Сярэднявечча на тэрыторыі Беларусі адбыліся значныя змены. На беларускія землі прыйшлі новыя перасяленцы — нашы непасрэдныя продкі славяне. Якія адносіны ў іх склаліся з мясцовым насельніцтвам? Як яны ўладкавалі сваё жыццё?

*Гл. схему на с. 43.*

**1. Адкуль з'явіліся славяне.** Продкі ***славян*** калісьці складалі адно цэлае з продкамі

германцаў і балтаў. Славяне доўга жылі на сваёй прарадзіме, удалечыні ад міжземнаморскіх цэнтраў цывілізацыі. *Прарадзіма* — гэта тая тэрыторыя, якую першапачаткова насяляў той або іншы народ. Дзе знаходзілася прарадзіма славян, дакладна невядома. Яна была недзе ў Цэнтральнай Еўропе, верагодна, каля Карпацкіх гор.

Немагчыма таксама дакладна сказаць, калі славяне вылучыліся ў асобны народ. Некаторыя вучоныя мяркуюць, што гэта адбылося ў сярэдзіне 1-га тысячагоддзя да н. э. Але толькі ў **VI ст.** славяне сталі вядомы пад сваім уласным імем. Тады ж славяне з'явіліся і на беларускіх землях.

*Паразважайце, ці мог існаваць народ без свайго імя.*

Славянамі называлі сябе людзі, якія «валодалі словам», гэта значыць, разумелі адзін аднаго. Суседнія народы маглі называць славян іншымі імёнамі. Магчыма, найбольш ранняя назва славян — *венеды*. А ў VI ст. былі вядомы дзве групы славян — *склавіны* і *анты*.



Склавіны пражывалі на захад ад Днястра, каля Дуная. А анты размясціліся на землях ад Днястра да Дняпра. Зараз гэта тэрыторыя Украіны. Анты былі продкамі не толькі ўсходніх славян. Асобныя анцкія плямёны ўвайшлі ў склад паўднёвых славян. З саюзу плямёнаў антаў выйшлі сербы і харваты. У той жа час сярод нашчадкаў антаў быў і ўсходнеславянскі саюз плямёнаў дрыгавічоў. Дрыгавічы пасяліліся на поўдні сучаснай тэрыторыі Беларусі. Такім чынам, паўднёвыя і ўсходнія славяне маюць вельмі блізкае паходжанне.

*Паразважайце, што падобнага было ў народаў, якія мелі агульнае паходжанне.*

**2. Якімі шляхамі рассяліліся славяне на тэрыторыі Беларусі.** Славянскія плямёны шырока рассяляліся ў Еўропе. Яны рухаліся ў розных напрамках. Натуральнымі дарогамі для іх з'яўляліся рэкі.



49—50



Засяленне славянамі беларускіх зямель не было простым і хуткім. Адзін са шляхоў вёў з поўдня. Славяне прасоўваліся ўздоўж Дняпра,




Засяленне славянамі тэрыторыі Беларусі

| | |
|---|---|
| (колер) | Тэрыторыя, заселеная славянамі да канца IX ст. |
| (колер) | Тэрыторыя, заселеная балцкімі плямёнамі ў Высокім сярэднявеччы |
| ○ | Старажытныя паселішчы славян |
| ⇨ | Асноўныя напрамкі рассялення славян |


11


10

Прыпяці і іх прытокаў. Тут, на поўдні, славянскія паселішчы з'явіліся найбольш рана. У паўночную і цэнтральную частку Беларусі славяне прыйшлі з поўначы Усходняй Еўропы.

На новых землях славяне выбіралі для пасялення сухія месцы на ўзвышшах. Тут яны сутыкнуліся з мясцовымі плямёнамі балтаў. Стасункі славян з балтамі на тэрыторыі Беларусі спачатку былі пераважна мірныя. Балцкія плямёны былі невялікімі,



▲ Балцкі посуд



▲ Славянскі посуд

? *Параўнайце балцкі і славянскі посуд. Ці вельмі ён адрозніваўся?*

і славян прыходзіла зусім няшмат. Таму месца хапала ўсім. Славяне растварыліся сярод мясцовага насельніцтва.

*Як вы думаеце, чаму перасяленцы ва Усходняй Еўропе павінны былі рухацца па рэках?*

З канца VII — пачатку VIII ст. на тэрыторыю Беларусі пранікла новая хваля славянскіх перасяленцаў. Сутыкненні славян з балтамі ў гэты час сталі больш частымі.

Засяленне беларускіх зямель славянамі працягвалася не адно стагоддзе. Ранейшыя жыхары вымушаны былі пакінуць абжытыя месцы. Тыя, хто застаўся, паступова зліваліся са славянамі. Гэтаму спрыяла тое, што славяне, як і балты, з'яўляліся язычнікамі. У іх быў падобны лад жыцця. Ствараліся змяшаныя славяна-балцкія сем'і, балты пераймалі звычаі славян. У выніку адбылася *славянізацыя балтаў*.



На поўдні Беларусі лепш за ўсё даследаваны славянскія паселішчы ў горадзе Петрыкаве на рацэ Прыпяць і каля вёскі Хотамель на рацэ Гарынь. На ўскраіне горада Петрыкава беларускія археолагі выявілі славянскае селішча VI — VII стст. *(Чым гарадзішча адрозніваецца ад селішча?)* Яго жыхары выплаўлялі жалеза з балотнай руды і ляпілі посуд з гліны. Каля вёскі Хотамель знойдзены гарадзішча, селішча і могільнік, у якім хавалі памерлых. У добра ўмацаваным валамі і ровам гарадзішчы людзі ратаваліся ў выпадку небяспекі.

*Растлумачце паняцце, якое выкарыстоўваюць гісторыкі: «гарадзішча-сховішча».*

Славянскае гарадзішча VII — IX стст.



*Як вы думаеце, навошта славяне так добра ўмацоўвалі свае гарадзішчы?*



52—57

12

### 3. Славянскія саюзы плямёнаў на тэрыторыі Беларусі.

Узаемадзеянне з балтамі надало своеасаблівасць славянскім саюзам плямёнаў на тэрыторыі Беларусі. Яны склаліся ў **VIII—IX стст.** і захоўвалі адметныя рысы і пазней. Гэтыя асаблівасці заключаліся ў некаторых адрозненнях у мове, міфалогіі, побыце.

На беларускіх землях у Раннім сярэднявеччы размясціліся тры славянскія саюзы плямёнаў: ***крывічы-палачане, дрыгавічы*** і ***радзімічы***. На крайнім паўднёвым захадзе сучаснай Беларусі жылі таксама і *валыняне*.

*З гістарычных картаў ці энцыклапедыі даведайцеся, калі прыйшлі на тэрыторыю вашага краю славяне. Які ўсходнеславянскі саюз плямёнаў (ці племя балтаў) размяшчаўся на тэрыторыі вашага краю?*

Крывічы былі самым буйны́м усходнеславянскім саюзам плямёнаў. Назва крывічоў, магчыма, паходзіць ад імя старэйшыны Крыва або ад слова «крэўныя», гэта значыць сваякі па крыві.




| | |
|---|---|
| РАДЗІМІЧЫ | Саюзы плямёнаў усходніх славян |
| яцвягі | Балцкія плямёны |

Усходнеславянскія саюзы плямёнаў на тэрыторыі Беларусі




*Ці была сталай тэрыторыя рассялення асобных саюзаў плямёнаў?*

*Які саюз плямёнаў заняў найбольшую частку тэрыторыі Беларусі?*



У тыя язычніцкія часы ўсходнія славяне спальвалі сваіх памерлых. Адной з найбольш важных асаблівасцей крывічоў было пахаванне імі памерлых у доўгіх курганах. У народзе іх звалі «валатоўкамі». Існавала паданне, што ў іх быццам бы былі пахаваны волаты — асілкі высокага росту. На самай справе пад курганамі-насыпамі маглі спачываць адзін за адным да 20 чалавек. Верагодна, у агульным доўгім кургане хавалі блізкіх сваякоў.

*З якім уяўленнем быў звязаны гэты звычай?*

Крывічы жылі ў вярхоўях Дняпра і Заходняй Дзвіны. На ўсходзе іх паселішчы дасягалі Волгі, а на поўначы — Чудскога возера. Тое, што крывічы займалі велізарную тэрыторыю, абумовіла іх падзел на асобныя групы: пскоўскую, полацкую і смаленскую.

Усю паўночную частку сучаснай Беларусі засялялі полацкія крывічы, альбо палачане. Галоўным іх горадам быў Полацк. Сваю назву ён атрымаў ад ракі Палаты́, каля вусця якой і быў заснаваны. Ад назвы горада або ракі сталі звацца і крывічы-палачане.

Увесь поўдзень Беларусі заняў іншы ўсходнеславянскі саюз плямёнаў — дрыгавічы. Спачатку яны пасяліліся ў сярэднім цячэнні Прыпяці, у балоцістай мясцовасці. Адгэтуль і іх назва (ад слова «дрыгва» — балота). Найстарэйшым горадам дрыгавічоў быў Тураў.

Усходнія землі Беларусі ў Раннім сярэднявеччы засялялі радзімічы. У асноўным яны жылі вакол ракі Сож. У «Аповесці мінулых гадоў» захавалася цікавае апавяданне



▲ Скроневае кальцо крывічанак



▲ Крывічанка. Рэканструкцыя

? *Што дазваляе сцвярджаць, што гэта менавіта крывічанка?*

аб паходжанні радзімічаў і вяцічаў. Нібыта некалі з Польшчы ва Усходнюю Еўропу прыйшлі браты Радзім і Вятка. Яны засталіся на новых землях і сталі родапачынальнікамі двух плямёнаў — радзімічаў і вяцічаў.

У кожнага саюзу плямёнаў былі свае жаночыя ўпрыгажэнні. Найбольш характэрнымі ўпрыгажэннямі славянак былі кольцы, якія мацаваліся каля скроняў. Палачанкі насілі бранзалетападобныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі. Дрыгавічанкі аздаблялі свае скроні драцянымі кольцамі, на якія мацаваліся невялікія металічныя пацеркі з зерню — напаянымі на паверхню дробнымі срэбнымі шарыкамі. Найбольш прыгожыя — сяміпрамянёвыя — былі скроневыя кольцы ў радзімічанак.

Да XI ст. усходнеславянскія плямёны прайшлі значны шлях у сваім развіцці. У некаторых з іх ужо з'явіліся свае княжанні.



▲ Упрыгажэнні дрыгавічанак



▲ Радзімічанка. Рэканструкцыя



▲ Сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы радзімічанак

**!** Такім чынам, у Раннім сярэдневеччы славяне засялілі большую частку тэрыторыі Беларусі. Мясцовае насельніцтва злілося са славянамі. Далейшае развіццё славян прывяло да стварэння на беларускіх землях трох саюзаў плямёнаў: крывічоў-палачан, дрыгавічоў і радзімічаў.



1. Раскажыце, што вы даведаліся аб паходжанні славян.
2. Ад чаго паходзіць назва «славяне»?
3. Якімі шляхамі засялялі славяне сучасную тэрыторыю Беларусі?

4. Якія адносіны склаліся ва ўсходніх славян з балцкімі плямёнамі?
5. Якія ўсходнеславянскія саюзы плямёнаў сфарміраваліся на тэрыторыі Беларусі? Чым яны адрозніваліся паміж сабою?
6. Запоўніце ў сшытку табліцу.

| Прыкметы для параўнання | Крывічы-палачане | Дрыгавічы | Радзімічы |
|---|---|---|---|
| Паходжанне назвы | | | |
| Тэрыторыя рассялення | | | |
| Галоўныя гарады | | | |
| Асаблівасці | | | |

7*. Як вы думаеце, чаму на тэрыторыі Беларусі адбылася славянізацыя балтаў, а не наадварот?

## § 6. На шляху да дзяржавы



*1. Што такое дзяржава?*
*2. Якія прычыны прыводзілі да ўзнікнення дзяржавы?*
*3. Што такое натуральная гаспадарка?*



Падчас свайго рассялення на новыя землі славяне мелі згуртаванае грамадства. У іх былі свае правадыры і вайсковая сіла. Што ж уяўляла сабой грамадства славян? Чаму яны аказаліся больш моцнымі за мясцовыя народы? Якія змены ў грамадстве і гаспадарцы падрыхтоўвалі стварэнне дзяржавы? Як славяне ў той час тлумачылі прыродныя з'явы?

**1. Князі і вайсковая сіла.** Славянам, якія перасяляліся на новыя землі, даводзілася часта ваяваць. Войны былі больш паспяховымі, калі на чале войска аказваўся таленавіты кіраўнік. Такога племяннога правадыра славяне звалі ***князем***. Яго выбіралі з ліку знатных людзей.


57—60





Паднашэнне даніны князю. Мініяцюра з летапісу

*Чым выплачвалі даніну ўсходнеславянскія плямёны?*

Калі вайна была ўдалай, славяне захоплівалі багатую здабычу. Права размяркоўваць яе належала князю. Пры гэтым сабе ён мог пакінуць большую частку. Але і раздаючы рэшту, князь славіўся як шчодры дабрачынца. З цягам часу да яго сталі звяртацца з просьбай здзейсніць справядлівы суд. За гэта славяне падносілі князю дары. За разгляд судовых спраў таксама трэба было плаціць. Добраахвотныя прынашэнні з часам ператварыліся ў даніну. ***Даніна*** — гэта натуральны падатак (футра, мёд, прадукты харчавання і г.д.), які насельніцтва абавязана было штогод выплачваць на карысць вярхоўнай улады — князя.

*На думку гісторыкаў, найважнейшым шляхам узнікнення даніны было заваяванне. Падумайце, як гэта адбывалася.*

У асяроддзі князя паступова складвалася група яго сталых баявых паплечнікаў і дарадчыкаў — ***дружы-***



Дружына ў паходзе. Мініяцюра з летапісу

*Якое ўзбраенне дружыннікаў паказана на малюнку?*



Адно племя магло выставіць няшмат ваяроў. Ад моцных ворагаў не магла абараніць і княжацкая дружына. Таму ўзнікала неабходнасць у аб'яднанні плямёнаў у саюзы. Але, здаралася, і яны аказваліся слабымі. Напрыклад, з летапісу вядома, што на крывічоў нападалі *вара́гі*. Так усходнія славяне называлі скандынаваў-вікінгаў. Патрабавалася больш моцная арганізацыя плямёнаў, каб супрацьстаяць ворагам. У выніку знешняя ваенная небяспека стала адной з прычын стварэння дзяржавы.

*Што вы ведаеце пра вікінгаў? Адкуль яны ажыццяўлялі свае паходы? Як яны пераадольвалі вялікія адлегласці?*

***на***. Гэтыя людзі жылі каля князя, дапамагалі яму ва ўсіх яго справах. Князь забяспечваў іх усім неабходным, даваў коней і зброю. Дружына дазваляла князю яшчэ больш умацаваць сваю ўладу сярод насельніцтва. З дапамогай паплечнікаў князь мог прымусіць свой народ падпарадкоўвацца. Узнікненне дружыны з'яўляецца важным крокам на шляху да дзяржавы.

Колькасць дружыннікаў была не вельмі вялікай. Для вядзення вялікіх войнаў яе не хапала. Таму ўсе мужчыны ў выпадку неабходнасці павінны былі браць у рукі зброю. Яны складалі ваеннае *апалчэнне*. І земляроб, і рамеснік падчас вайны ператвараліся ў ваяроў. Але ваеннае апалчэнне не было такім жа моцным на полі бою, як княжацкая дружына.

**2. Што такое веча.** Спачатку князь у славян быў толькі вайсковым кіраўніком. Яму падпарадкоўваліся падчас вайны. Усе важныя справы ў славянскім племені вырашаліся на народным сходзе — ***вечы***.



▲ Усходнеславянскі дружыннік. Другая палова X ст. Мастак-рэканструктар *Алег Фёдараў*

? *Якой зброяй маглі валодаць толькі багатыя воіны і дружыннікі?*

У вечы мог удзельнічаць кожны свабодны мужчына. Але асаблівай павагай на гэтых племянных сходах карысталіся старэйшыны. Першапачаткова старэйшынамі былі пажылыя людзі, старыя. Яны мелі вялікі жыццёвы досвед. Але з цягам часу старэйшынамі ўсё часцей рабіліся знатныя людзі.

Веча магло разглядаць любыя пытанні. Аднак славянскія плямёны жылі на вялікай тэрыторыі. Веча збіраць было цяжка. Людзі не маглі адрывацца ад сваёй працы дзеля вырашэння малаважных пытанняў. Таму ўсе супляменнікі збіраліся для вырашэння толькі найбольш важных спраў. Да іх належалі пытанні вайны і міру. На вечы з ліку знатных людзей выбіраўся князь. Да народнага сходу чалавек мог звярнуцца і ў пошуках абароны і справядлівага суда. Але права вяршыць суд паступова перайшло да *савета старэйшын*, а затым і да князя.




▲ Арганізацыя ўсходнеславянскага грамадства

*З дапамогай схемы растлумачце, хто кіраваў грамадствам і як утвараліся яго ўзброеныя сілы.*

**3. Племянныя княжанні — крок да дзяржавы.** Славянскія саюзы плямёнаў, у якіх існавала княжацкая ўлада, у летапісах завуцца княжаннямі. Гісторыкі такія аб'яднанні вызначаюць як ***племянныя княжанні***. У іх яшчэ захоўваўся народны сход — веча. Але найбольш важныя рашэнні прымаліся племяннойзнаццю і князем.




◀ Беларуская паштовая марка, прысвечаная Рагвалоду



◀ Княжы суд. Мастак *Андрэй Рабушкін*

? *Як вы думаеце, без чыёй дапамогі князь не мог бы ўпэўнена адчуваць сябе на вечы?*

Вялікае значэнне для племянных княжанняў мелі войны. Дзякуючы войнам князі ўмацоўвалі ўладу ў сваім племені. Падпарадкоўвалі яны і іншыя плямёны. Так узнікалі буйны́я аб'яднанні плямёнаў. Падобныя саюзы ўжо набліжаліся да дзяржавы. Князь стаў перадаваць сваю ўладу ў спадчыну. У той час людзі верылі, што надзвычайныя здольнасці князя пераходзяць ад бацькі да сына.

Паводле летапісу, племяннoе княжанне было ў палачан і дрыгавічоў. У палачан у другой палове X ст. быў свой князь. Яго звалі Рагвалод. Летапіс сцвярджае, што Рагвалод прыйшоў «з-за мора». Магчыма, ён быў скандынавам-варагам. У той жа час князем дрыгавічоў называецца Тур.

**4. Чым займаліся і ў што верылі старажытныя славяне.** У гаспадарцы ўсходніх славян панавала земляробства. Менавіта яно давала славянам асноўныя прадукты. Таму славяне збожжа называлі «жытам» — ад слова «жыць».

*Падумайце, ад чаго паходзіць рускае слова «рожь».*

Асноўнай формай земляробства ў славян было ляда (падсека). Ужо ў Раннім сярэднявеччы пашырылася ворыўнае земляробства. Для ўзрыхлення глебы выкарыстоўвалі рала, якое цягнулі валы. Гэта дазволіла павялічыць ураджаі. У далейшым сталі выкарыстоўваць *саху*.



**Жалезная матыка**
Неглыбока рыхліла глебу



**Рала**
Рыхліла глебу, праводзіла ў ёй баразёнкі



**Саха**
Рыхліла глебу і адвальвала пласт зямлі ўбок

▲ Земляробчыя прылады працы

? *Падумайце, што значна аблягчала працу земляроба з ралам і сахой.*

Славяне засявалі толькі адну палову поля. Другая частка «адпачывала». Наступным разам засявалася іншая палова. Такая сістэма земляробства называлася *двухполлем*. Важнае значэнне мела жывёлагадоўля. Славяне гадавалі кароў, коз, авечак, свіней, а таксама коней.




66—68

Вялікую ролю ў жыцці славян, што рассяліліся на тэрыторыі Беларусі, адыгрывалі разнастайныя рамёствы. Выраблялі прылады працы і зброю, посуд і ўпрыгажэнні. Славянскія жанчыны ўмелі прасці і ткаць. Аб гэтым сведчаць паўсюдныя знаходкі гліняных прасліц.




63—64

Самым простым рамяством — цяслярскім, касцярэзным, апрацоўкай скуры і іншым — займаліся ў кожнай сям'і. Значна большых намаганняў і ўменняў патрабавалі выплаўка



◀ Гліняны гаршчок. X ст. Знойдзены ў Чачэрскім раёне Гомельскай вобласці



Прасліцы



Арабскі дырхем IX ст.

жалеза і выраб з яго розных рэчаў. Кавалі́ рабілі сашнікі, сякеры, косы, сярпы, нажы. З каляровых металаў — золата, срэбра, медзі — выраблялiся ўпрыгажэнні. З IX ст. усходнія славяне пры вырабе глінянага посуду выкарыстоўвалі ганчарны круг. Але яшчэ доўга просты посуд з гліны ляпілі рукамі, а затым абпальвалі ў печы.

Славяне заўсёды сяліліся каля вадаёмаў — рэк і азёр. Таму важнай складовай часткай



У 1936 г. на тэрыторыі саўгаса «Собалева» ў Дубровенскім раёне Віцебскай вобласці быў выяўлены скарб з больш чым 300 манет. Гэта былі срэбныя арабскія манеты — *дырхемы*. Высакаякасныя арабскія дырхемы ў Раннім сярэднявеччы былі своеасаблівай міжнароднай валютай. Манеты былі створаны паміж пачаткам VIII і сярэдзінай IX ст. Дзесьці ў другой палове IX ст. скарб закапалі ў зямлю. Зараз ён захоўваецца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.

*Паразважайце, чым магла быць выклікана патрэба закопваць грошы ў зямлю.*



Галоўным богам ва ўсходніх славян лічыўся Пярун. Гэтага бога шанавалі і балты, якія звалі яго Пяркунас. Пярун — бог навальніцы, грому і маланкі. Ён таксама быў апекуном ваеннай справы і з цягам часу стаў заступнікам княжацкай дружыны. Яшчэ і зараз у Беларусі гром і маланку завуць «перуном». Здаўна ўсходнія славяне ўшаноўвалі Вялеса (Валоса). Ён быў заступнікам жывёлагадоўлі. Яго часта ўяўлялі ў выглядзе змяі. Магчыма, Вялес быў богам падземнага свету. Некалькі багоў былі звязаны з культам Сонца. Бо ад Сонца, як і ад дажджу, залежаў ураджай. Галоўным богам Сонца і неба быў Сварог. Яго сына звалі Дажбог. Усе людзі ўяўляліся ўнукамі Дажбога. Богам Сонца лічыўся і Хорс. Ён згадваецца ў выдатным помніку старажытнарускай літаратуры «Слова пра паход Ігараў». У гэтым творы распавядаецца, што полацкі князь Усяслаў Чарадзей перасякаў шлях вялікаму Хорсу, ператварыўшыся ў ваўка. Нашы продкі ўшаноўвалі таксама бога Ярылу. Нават у XIX ст. беларускія сяляне кожны год у красавіку ладзілі свята ў гонар Ярылы. Ён быў богам веснавой урадлівасці і плоднасці жывёлы, земляробства. Заступніцай жанчын і адпаведна жаночых заняткаў, асабліва прадзення, з’яўлялася багіня Мокаш. Яе ўшаноўвалі таксама як багіню ўрадлівасці.



71—73

*Выкарыстоўваючы прыведзены тэкст, складзіце ў сшытку табліцу «Язычніцкія багі старажытных славян».*

| Імя бога | Апекуном чаго быў |
|---|---|
| | |

іх гаспадаркі было рыбалоўства. У тыя далёкія часы лясы пакрывалі ўсю тэрыторыю Беларусі. У іх людзі збіралі ягады і грыбы. Славяне, як да іх і балты, палявалі на зуброў, ласёў, аленяў, дзікоў, птушак, пушных звяроў. Пашырана было ***бортніцтва*** — збор мёду дзікіх пчол.

Паступова ўсходнія славяне ўцягваліся ў гандаль з суседзямі і больш аддаленымі краінамі. На продаж яны маглі прапанаваць футра, мёд і воск.



▲ Слонімскі ідал. X ст.

У пачатку сваёй гісторыі славяне былі язычнікамі. Яны верылі, што ўвесь навакольны свет — і лясы, і палі, і рэкі — населены духамі. Таму пакланяліся агню, Сонцу, Месяцу, дрэвам, камяням, ручаям, азёрам і рэкам. Асабліва шанаваным на беларускіх землях быў дуб.

Язычнікі-славяне ўшаноўвалі мноства багоў. *Мнагабожжа* — вера ў шматлікіх багоў — гэта найбольш важная рыса ***язычніцтва***. Багі былі адказныя за розныя бакі жыцця чалавека і прыродныя з'явы.


68—69


Кожнае племя мела спецыяльнае месца, дзе маліліся багам і прыносілі ім ахвяры. Гэтае месца называюць ***свяцілішчам***, або ***капішчам***. Звычайна ў цэнтры свяцілішча стаяў ідал, а ва-


74


*Ці знойдзены ў вашым краі язычніцкія свяцілішчы? Зрабіце кароткае паведамленне аб іх.*



► Ідалы. Мастак *Мікалай Рэрых*

? *Якую асноўную рысу язычніцтва паказвае карціна?*

кол гарэлі вогнішчы. Агонь маглі падтрымліваць пастаянна. ***Ідал*** — гэта вобразная выява бога. Часцей за ўсё ідалаў рабілі з металу, каменю і дрэва.



Такім чынам, у Раннім сярэднявеччы ўсходнія славяне наблізіліся да стварэння дзяржавы. Гэтаму спрыялі і ўнутранае развіццё, і знешнія абставіны. Усходнія славяне стварылі свой непаўторны свет, населены багамі і духамі. Вера ў іх дазваляла знайсці тлумачэнне ўсяму, што адбывалася ў жыцці чалавека і ў прыродзе.



**1.** Якім чынам умацоўвалася ўлада князя ва ўсходнеславянскім грамадстве?
**2.** З чаго складаліся вайсковыя сілы ўсходніх славян?
**3.** Хто ажыццяўляў кіраванне ўсходнеславянскім племем?
**4.** Якія пытанні вырашаліся на вечы?
**5.** Што ўяўлялі сабой племянныя княжанні?
**6.** Пералічыце асноўныя гаспадарчыя заняткі ўсходніх славян. Што новага адбылося ў іх развіцці да канца IX ст.?
**7.** Прывядзіце сведчанні таго, што ўсходнія славяне былі язычнікамі.
**8*.** Як вы думаеце, чаму ва ўсходнеславянскіх плямёнаў умацавалася ўлада князёў, а не веча?

## Абагульненне

У першым раздзеле вы даведаліся аб найбольш старажытнай гісторыі нашых продкаў — ад з'яўлення першага чалавека да стварэння племянных княжанняў на тэрыторыі Беларусі. Гэта быў найбольш працяглы перыяд у гісторыі. Падчас яго змены адбываліся надзвычай павольна. Але яны былі вельмі істотныя.

Ад часу стварэння першых стаянак на тэрыторыі Беларусі да пачатку вырабу жалезных прылад працы прайшло больш за 23 тысячагоддзі. У гэты прамежак часу чалавек перайшоў ад прысвойвальнай да вы-

творчай гаспадаркі. Жывёлагадоўля і земляробства зрабілі ўмовы жыцця чалавека больш устойлівымі і спрыяльнымі.

Гэтыя важныя змены прывялі да далейшых пераўтварэнняў, якія тычыліся самога грамадства. Паступова родавую абшчыну змяніла суседская. Адбывалася расслаенне грамадства, з'явіліся бедныя і багатыя. Багатыя людзі станавіліся больш уплывовымі.

Удасканальваліся прылады працы. На змену прымітыўным каменным скрабкам і разцам прыйшлі жалезныя сякеры і нажы. Гэтыя прылады працы і зброя дазволілі чалавеку дамагчыся яшчэ большых поспехаў у прыстасаванні да прыроды.

У старажытны перыяд людзі верылі ў існаванне мноства духаў і бостваў. З дапамогай гэтых вераванняў яны спрабавалі растлумачыць паходжанне свету і з'яў прыроды. Чалавека стала цікавіць навакольная прыгажосць. І ўжо ў каменным веку зарадзілася мастацтва. Людзі пачалі ствараць прыгожыя рэчы і аздабляць тыя прадметы, якімі карысталіся.

З канца новага каменнага веку тэрыторыю Беларусі насялялі плямёны балтаў. Толькі ў Раннім сярэднявеччы на беларускія землі прыйшлі славяне. Іх гаспадарка і грамадства знаходзіліся на больш высокім узроўні развіцця. У выніку балты былі выцеснены альбо змяшаліся са славянамі. Культура і дасягненні балтаў не зніклі бясследна. Славяне запазычылі ў іх каштоўны досвед жыцця ў лясным краі, узоры ўпрыгажэнняў, захавалі балцкія назвы рэк.

На тэрыторыі Беларусі ў VIII—IX стст. пражывалі ўсходнеславянскія саюзы плямёнаў: крывічы-палачане, радзімічы і дрыгавічы. У іх было шмат агульнага ў гаспадарцы і культуры. Адрозненні былі нязначнымі — напрыклад, у жаночых упрыгажэннях.

Усходнеславянскае грамадства хутка развівалася. Гэта стала магчымым дзякуючы павышэнню прадукцыйнасці працы славян-земляробаў. Багатыя людзі (знаць) карысталіся ўсё большым уплывам сярод сваіх супляменнікаў. З іх асяроддзя выбіраўся князь. Вакол князёў згуртоўваліся групы іх баявых паплечнікаў і дарадцаў — дружыны. У той жа час захоўваліся народныя сходы (веча) і апалчэнні ўсіх дарослых мужчын. Так паступова ўсходнія славяне рухаліся да стварэння дзяржавы.

**Заданне 1.** Абапіраючыся на прыведзеныя даты, складзіце кароткі расказ аб гісторыі беларускіх зямель са старажытнасці да пачатку нашай эры.

24-е тысячагоддзе да н. э.
22—21-е тысячагоддзі да н. э.
14 тысяч гадоў назад
3-е тысячагоддзе да н. э.
Сярэдзіна 3-га тысячагоддзя да н. э.
Пачатак 2-га тысячагоддзя да н. э.
Каля 700 г. да н. э.
VI ст.

**Заданне 2.** Пакажыце на картасхемах на с. 17, 44, 52, 54 вучэбнага дапаможніка або на с. 2, 4, 8, 9, 10, 12, 13 атласа:

1) асноўныя напрамкі засялення тэрыторыі Беларусі людзьмі ў каменным веку;
2) месцы першых стаянак чалавека каменнага веку (Юравічы, Бердыж);
3) месцазнаходжанне Краснасельскіх шахтаў па здабычы крэменю;
4) тэрыторыю рассялення балтаў у бронзавым і жалезным вяках;
5) шляхі рассялення славян на тэрыторыі Беларусі;
6) тэрыторыю рассялення ўсходнеславянскіх саюзаў плямёнаў крывічоў-палачан, радзімічаў і дрыгавічоў.

**Заданне 3.** Перанясіце табліцу ў сшытак і запоўніце яе.

**Асаблівасці перыядаў каменнага веку**

| Перыяд | Час | Прылады працы | Спосабы здабычы харчавання | Найбольш важныя падзеі, з’явы |
|---|---|---|---|---|
| **Старажытны каменны век** | | | | |
| **Сярэдні каменны век** | | | | |
| **Новы каменны век** | | | | |

**Заданне 4.** Дайце азначэнні наступным паняццям.

- балты
- бортніцтва
- веча
- гарадзішча
- дружына
- дрыгавічы
- жывёлагадоўля
- збіральніцтва
- ідал
- індаеўрапейцы
- князь
- крывічы-палачане
- падсечна-агнявое земляробства
- паляванне
- племя
- племяннное кня-жанне
- радзімічы
- родавая аб-шчына
- саюз плямёнаў
- свяцілішча
- стаянка
- суседская аб-шчына
- усходнія славяне
- язычніцтва

**Заданне 5.** Дапоўніце спіс паняццяў у чатырох слупках табліцы па прапанаваным узоры. Выкарыстайце паняцці, прыведзеныя ў заданні 4.

| Гаспадарка | Грамадства | Народы | Улада | Вераванні |
|---|---|---|---|---|
| паляванне | родавая абшчына | балты | князь | ідал |

**Заданне 6.** Растлумачце лагічныя ланцужкі:
- з'яўленне земляробства і жывёлагадоўлі → расслаенне грамадства;
- выкарыстанне жалезных прылад працы → з'яўленне лішкаў прадуктаў;
- развіццё вытворчай гаспадаркі → з'яўленне знаці (знатных людзей).

**Заданне 7.** Параўнайце наступныя з'явы:
- прысвойвальную і вытворчую гаспадаркі;
- родавую і суседскую абшчыны;
- матычнае і ворыўнае земляробства;
- дружыну і ваеннае апалчэнне.

**Заданне 8.** Вызначце прычыны:
- узнікнення маёмаснай няроўнасці;
- будаўніцтва гарадзішчаў;
- замены каменных прылад працы жалезнымі;
- з'яўлення княжацкай улады.

**Заданне 9.** Складзіце расказ па адной з наступных тэм (на выбар): «Паляванне на маманта»; «Выраб глінянага посуду»; «Будаўніцтва гарадзішча»; «Жыццё ў славянскім паселішчы»; «Праца земляроба»; «Узнікненне гарадзішчаў».

**Заданне 10.** Прывядзіце 2—3 доказы таго, што:
- гісторыя Беларусі з'яўляецца складовай часткай сусветнай гісторыі;
- у VI—IX стст. удасканальваліся сельскагаспадарчыя прылады працы і адбывалася развіццё земляробства ва ўсходніх славян;
- усходнія славяне ў IX ст. наблізіліся да стварэння дзяржавы.



Для замацавання сваіх ведаў рэкамендуем наведаць з настаўнікам ці бацькамі:
- Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь;
- Парк-музей валуноў у Мінску;
- Дзіцячы музей міфалогіі і лесу ў г. Заслаўе Мінскага раёна;
- капішча (валуны) у в. Бікульнічы Полацкага раёна.

*Узнікненне дзяржаўнасці — важны крок у жыцці грамадства. У Сярэднявеччы дзяржава ўяўляла сабой пэўную тэрыторыю, насельніцтва якой падпарадкоўвалася вярхоўнай уладзе. На ўсёй тэрыторыі дзяржавы дзейнічалі адзіныя законы. Падаткі, што атрымлівала ўлада ад насельніцтва, патрабаваліся для забеспячэння людзей, якія дапамагалі князю ў кіраванні. Гэта былі ваенныя і цывільныя кіраўнікі, суддзі і зборшчыкі падаткаў. Дзяржава была здольная забяспечыць больш спакойнае жыццё насельніцтва. Яна абараняла ад знешніх ворагаў і вырашала ўнутраныя канфлікты.*

*З другога раздзела вы даведаецеся пра ўзнікненне і развіццё дзяржаўнасці на беларускіх землях. Першай дзяржавай на тэрыторыі нашай краіны было Полацкае княства. Але яшчэ раней беларускія землі мелі дачыненне да стварэння Старажытнарускай дзяржавы, ці Кіеўскай Русі. З цягам часу ўзнікла шмат княстваў. Важную ролю на поўдні сучаснай Беларусі адыгрывала Тураўскае княства. І хаця старажытнарускія княствы жылі паасобку, яны мелі шмат падобнага. У перыяд ад узнікнення Кіеўскай Русі да мангольскага нашэсця нашы продкі стварылі своеасаблівую культуру, набылі каштоўны досвед жыцця. Гістарычная спадчына Старажытнай Русі была захавана ў далейшым усімі трыма ўсходнеславянскімі народамі — беларусамі, рускімі і ўкраінцамі.*

# § 7. Дзяржаўнасць усходніх славян



*1. Якія аб'яднанні папярэднічалі стварэнню дзяржавы ва ўсходніх славян?*

*2. Як сярод насельніцтва з'явіліся багатыя і знатныя людзі?*



У канцы IX ст. ва Усходняй Еўропе ўзнікла значная па тэрыторыі дзяржава ўсходніх славян. Што прывяло да стварэння гэтай дзяржавы? Якую ролю ў ёй адыгрывалі беларускія землі?

**1. Як узнікла дзяржаўнасць ва ўсходніх славян.** У VIII—IX стст. у жыцці ўсходніх славян адбываліся важныя змены. Яны былі звязаны з вылучэннем правадыроў і знаці, узнікненнем маёмаснай няроўнасці — з'яўленнем бедных і багатых. Унутранае развіццё грамадства, а таксама знешняя небяспека патрабавалі стварэння моцнай улады.




*Абапіраючыся на схему, растлумачце, якім чынам адбывалася ўмацаванне княжацкай улады. Чаму ў існаванні моцнай улады князя было зацікаўлена ўсё насельніцтва?*

У вырашэнні важных пытанняў усходнія славяне заўсёды прыслухоўваліся да найбольш дасведчаных людзей — старэйшын. З цягам часу сваё больш высокае становішча старэйшыны сталі перадаваць

> *Прапануйце яшчэ свае здагадкі, якім чынам у тагачасным грамадстве маглі вылучацца знатныя людзі.*

у спадчыну. Так утварылася *радаплемянная знаць*. Яна сама не ўдзельнічала ў вытворчасці прадуктаў, але збірала ў сваіх руках значнае багацце. Адбывалася гэта таму, што знатныя людзі атрымоўвалі большую частку ваеннай здабычы, у тым ліку рабоў. Тыя працавалі на сваіх гаспадароў, выраблялі для іх усё неабходнае. У неўраджайныя гады знатныя людзі маглі даваць пазыку сваім супляменнікам, таму тыя аказваліся залежнымі ад знаці.

Узрастанне ролі ваеннай справы, неабходнасць прыняцця хуткіх рашэнняў (што не маглі зрабіць ні савет старэйшын, ні тым больш веча) узмацнялі ўладу князя. Вакол яго стала фарміравацца дружына. З ёю князь хадзіў у паходы. Яна ж дазваляла падпарадкоўваць насельніцтва.




▲ Паслядоўнасць развіцця дзяржаўнасці

? *Растлумачце, чым была выклікана неабходнасць кожнага з этапаў станаўлення дзяржаўнасці.*

Гістарычныя крыніцы паведамляюць аб існаванні ў палачан і дрыгавічоў племянных княжанняў. На думку вучоных, менавіта яны сталі зародкамі дзяржаўнасці ва ўсходніх славян. У іх была ўжо даволі моцная княжацкая ўлада, хаця найважнейшыя пытанні вырашалі веча і знаць. Аб'яднанне некалькіх племянных княжанняў і прывяло да стварэння дзяржавы.

**2. Уваходжанне беларускіх зямель у склад Кіеўскай Русі.** У канцы IX—X ст. беларускія землі ўвайшлі ў склад Старажытнарускай дзяржавы. Яе галоўным горадам быў Кіеў. Вучоныя называюць гэтую дзяржаву таксама «Старажытная Русь» ці «Кіеўская Русь». На той момант на беларускіх землях меліся


15




Межы Старажытнарускай дзяржавы
у пачатку X ст. у канцы X ст.
Сучасная граніца Беларусі
Тэрыторыя рассялення ўсходніх славян
*паляне* Назвы славянскіх саюзаў плямёнаў

▲ Старажытная Русь у канцы IX—X ст.

? *Звярніце ўвагу на тое, у якім напрамку пашыралася тэрыторыя Старажытнарускай дзяржавы. З чым гэта было звязана?*

ўласныя племянныя княжанні са сваімі цэнтрамі. «Аповесць мінулых гадоў» сведчыць, што князь **Рурык** пасадзіў сваіх лю-



дзей у Полацку. Ягоны пераемнік князь **Алег** — стваральнік Старажытнарускай дзяржавы — падпарадкаваў таксама радзімічаў. У сярэдзіне X ст. Кіеву былі падпарадкаваны дрыгавічы.



Кіеўскі князь Алег прымусіў радзімічаў плаціць яму даніну ў 885 г. Але і праз сто гадоў пасля радзімічы захоўвалі самастойнасць. Паводле летапісу, у 984 г. кіеўскі князь Уладзімір Святаславіч адправіў паходам на радзімічаў свайго *ваяводу* па мянушцы Воўчы Хвост. Той перамог радзімічаў на рацэ Пішчане.



Перамога Воўчага Хваста, ваяводы кіеўскага князя, над радзімічамі. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

**3. Месца беларускіх зямель у складзе Старажытнарускай дзяржавы.** Становішча беларускіх зямель у Старажытнарускай дзяржаве не было аднолькавым. Адны з іх былі цесна звязаны з Кіевам. Другія траплялі ў залежнасць ад кіеўскага князя часова.

У 960-я гг. уладу ў Полацку ўсталяваў варажскі князь **Рагвалод**. Ён праводзіў цалкам незалежную ад Кіева палітыку. Каля 980 г. наўгародскі князь Уладзімір задумаў паход на Кіеў. Для гэтага ён хацеў заключыць саюз з магутным Полацкам. Уладзімір звярнуўся да Рагвалода з прось-







Памятная манета «Рагвалод Полацкі і Рагнеда»

*Чаму ўшаноўваецца памяць гэтых гістарычных асоб?*



Уладзімір і Рагнеда. Мастак *Мікалай Дудчанка*

бай аддаць яму ў жонкі дачку Рагнеду. Аднак Рагнеда адмовіла. Тады Уладзімір сілай захапіў Полацк. Рагвалод з двума сынамі быў забіты. Уладзімір прымусова зрабіў Рагнеду сваёй жонкай. Неўзабаве ён стаў кіеўскім князем. Пад яго ўладай зноў былі сабраны ўсе ўсходнеславянскія землі.

Ад Рагнеды ў кіеўскага князя нарадзілася некалькі сыноў. Аднак у 988 г. Рагнеда зрабіла спробу забіць Уладзіміра. Князь хацеў пакараць ганарлівую палачанку. За яе заступіўся адзін з іх сыноў — **Ізяслаў**. Уладзімір быў уражаны мужным учынкам сына. Ён аддаў Рагнедзе і Ізяславу ўладу ў Полацку. Самастойнасць Полацкага княства была адноўлена. З таго часу — з **988 г.** — у ім кіравала ўласная княжацкая дынастыя. Полацкія князі зноў сталі ўмацоўваць сваю ўладу. Іх палітыка часта супярэчыла інтарэсам Кіева.

Іншым быў гістарычны лёс зямель дрыгавічоў. Тут узнікла Тураўскае княства. Яно доўгі час знаходзілася пад уладай кіеўскага князя. Некалькі разоў тут кіравалі князі з роду Рурыкавічаў, якія неўзабаве займалі галоўны прастол Старажытнай Русі — Кіеў.

Землі радзімічаў непасрэдна падпарадкоўваліся Кіеву. Затым яны аказаліся ў складзе Чарнігаўскага і часткова Смаленскага княстваў. Берасцейшчына належала Валынскаму княству. Такім чынам, сучасныя беларускія землі ў перыяд Старажытнай Русі з часам увайшлі ў склад некалькіх княстваў.

*З дапамогай картасхемы на с. 75 высвятліце становішча Полацка і Турава адносна Кіева.*




Межы княстваў-зямель у канцы XI ст.

*яцвягі* Балцкія плямёны

Лічбамі на карце пазначаны тэрыторыі:
1 — Польшчы,
2 — Наўгародскай зямлі

▲ Старажытнарускія княствы на тэрыторыі Беларусі ў XI ст.

? *У акружэнні якіх княстваў-зямель знаходзілася Полацкае княства ў XI ст.?*

**4. Старажытная Русь — супольная дзяржава ўсходніх славян.** Вялікая па сваёй тэрыторыі Старажытнаруская дзяржава з цягам часу распалася на некалькі самастойных княстваў. Сярод іх былі Полацкае і Тураўскае. Княствы праводзілі незалежную палітыку. Іх кіраўнікі варагавалі паміж сабой. Тым не менш Старажытная Русь захоўвала адноснае адзінства. Нават у перыяд палітычнай раздробленасці ўсе землі ўсходніх славян за мяжою абазначалі агульным паняццем «Русь».


14

Усе ўсходнеславянскія княствы звязвала адзіная царкоўная арганізацыя. Яна склалася пасля прыняцця ў **988 г.** у Кіеўскай Русі хрысціянства. Кіраўнік хрысціянскай царквы — *мітрапаліт* — знаходзіўся ў Кіеве. Ва ўсіх княствах кіравалі прадстаўнікі княжацкага роду Рурыкавічаў. Іх агульным продкам быў Рурык. Яны былі даволі блізкімі сваякамі і заўсёды памяталі пра гэта. Неаднойчы княствы ладзілі сумесныя замежныя паходы супраць ворагаў на захадзе і на поўдні.




Аб адзінстве Русі сведчаць і шмат іншых фактаў: падобныя гаспадарчая дзейнасць і лад жыцця, цесныя гандлёвыя сувязі, блізкасць паходжання і гістарычны лёс. Шмат чаго было агульнага і ў культуры ўсходнеславянскага насельніцтва. Гэта дазволіла вучоным сцвярджаць, што існавала ўсходнеславянская супольнасць. Яе часам называюць «старажытнаруская народнасць». Старажытнарускія пісьмовыя крыніцы — летапісы, жыціі, аповесці — сведчаць аб тым, што літаратурная мова ва ўсходніх славян была агульнай.

Разам з тым пражыванне людзей на вялікіх абшарах абумовіла асаблівасці гутарковай мовы ў крывічоў, палян, дрыгавічоў, вяцічаў і інш. З цягам часу яны сталі пранікаць і ў пісьмовыя творы. Так, рысы беларускай мовы з'явіліся ў пісьмовых крыніцах ужо ў першай палове XIII ст.



Такім чынам, беларускія землі ў Высокім сярэднявеччы з'яўляліся складовай часткай Старажытнай Русі. Між тым вельмі рана выявіліся імкненні да самастойнасці Полацкага княства. Яно займала значную частку сучаснай тэрыторыі Беларусі.



**1.** Якім чынам адбывалася ўмацаванне ўлады князя і знаці?
**2.** Калі беларускія землі ўвайшлі ў склад Старажытнарускай дзяржавы? Якія назвы далі ёй вучоныя?
**3.** У якім дачыненні да Кіева знаходзіліся саюзы плямёнаў: крывічоў-палачан, радзімічаў, дрыгавічоў?
**4.** Назавіце факты, якія сведчаць аб адзінстве Старажытнарускай дзяржавы.
**5.** Што дазваляе казаць пра існаванне ўсходнеславянскай супольнасці?
**6*.** Як вы думаеце, чаму Полацкае княства раней за іншыя землі Старажытнай Русі стала выяўляць імкненні да самастойнасці?

# § 8. Полацкае княства ў X—XI стст.



*1. Як звалі першага вядомага з крыніц полацкага князя?*
*2. Па якіх рэках і морах праходзіў гандлёвы шлях «з варагаў у грэкі»?*



У X—XI стст. на тэрыторыі Беларусі ўзнікла і дасягнула свайго росквіту моцнае і незалежнае Полацкае княства. Гэта была першая дзяржава на беларускай зямлі. Хто ж стаяў на чале гэтай дзяржавы? Якімі дзеяннямі гэтыя магутныя і мудрыя князі ўзвышалі сваё княства?

**1. Старажытны Полацк.** Полацк у Высокім сярэднявеччы быў вядомы ў Заходняй і Паўночнай Еўропе як сталіца буйнога княства. У скандынаўскіх сагах ён ставіцца на адзін узровень з Кіевам і Вялікім Ноўгарадам. Упершыню Полацк згадваецца ў летапісе пад **862 г.** Але славянскае паселішча на яго месцы існавала больш чым на сто гадоў раней.



94—97




Тэрыторыя ў IX—X стст.
Тэрыторыя ў XI—XIII стст.
Сафійскі сабор
Мураваныя цэрквы
Курганы
Луг

*На падставе картасхемы дакажыце, што Полацк займаў выгаднае геаграфічнае становішча.*

▲ План старажытнага Полацка

Горад быў заснаваны крывічамі пры ўпадзенні ракі Пало́ты ў Заходнюю Дзвіну. Ад назвы невялікай ракі атрымаў сваё імя і горад. Месца было зручнае для жыцця і вядзення гаспадаркі, а таксама для абароны ад ворагаў.



У Полацкім краязнаўчым музеі захоўваецца скарб, які быў знойдзены ў 1973 г. каля в. Казьянкі Полацкага раёна. Гэты скарб быў схаваны недзе ў 40-я гг. X ст., значыць да з'яўлення ў Полацку князя Рагвалода. Заможны купец ці блізкі да князя чалавек закапаў загорнутае ў бяросту вялікае багацце — 7588 арабскіх манет дырхемаў. Два цікавыя, хаця і нашмат больш сціплыя скарбы знойдзены каля в. Гараўляны Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Яны былі закапаны ў першай палове XI ст., а знойдзены ў 1965 г. Гараўлянскія скарбы складаліся з ювелірных вырабаў і самых разнастайных манет. Тут былі манеты з Багдада, Самарканда, Бухары, Сірыі, Ірана, Англіі, Германіі, Чэхіі.

*Якія высновы дазваляе зрабіць знаходка разнастайных манет?*

Геаграфічнае становішча Полацка дазваляла яму падтрымліваць гандлёвыя сувязі і з еўрапейскімі краінамі, і з Візантыяй, і з краінамі Усходу. Сведчаннем таму з'яўляюцца скарбы арабскіх і еўрапейскіх манет, якія былі знойдзены на Полацкай зямлі.



15

Выгаднае геаграфічнае становішча спрыяла хуткаму росту Полацка. Ён стаў цэнтрам самага магутнага на тэрыторыі сучаснай Беларусі Полацкага княства.

**2. Пачатак полацкай княжацкай дынастыі.** Полацкае княства першым з усіх старажытнарускіх зямель атрымала сваю княжацкую дынастыю. Як вы ўжо ведаеце, з 988 г. прастол у Полацку займаў Ізяслаў Уладзіміравіч. Праз сваю маці — Рагнеду — ён быў нашчадкам Рагвалода, ранейшага незалежнага ўладара Полацка. Пасля сябе Ізяслаў пакінуў уладу сваім сынам, і ў далейшым у Полацку кіравалі «Рагвалодавы ўнукі».

Так з канца X ст. на галоўным прастоле Полацкай зямлі і пазней на прастолах асобных яе валасцей усталявалася ўлада дынастыі Ізяславічаў.



▲ Скарб з манет і рэчаў, знойдзены ў в. Гараўляны Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці

**3. Умацаванне Полацкага княства.** У **1003 г.** у Полацкай зямлі пачаў княжыць **Брачыслаў Ізяславіч**. У той час ён быў яшчэ дзіцём. У сталым узросце Брачыслаў мусіў уступіць у барацьбу з Вялікім Ноўгарадам, якому належалі волакі, што злучалі дзве ракі: Дняпро і Заходнюю Дзвіну. ***Волак*** — гэта сухапутная частка воднага гандлёвага шляху, па якой даводзілася цягнуць караблі. На волаках зручна было спаганяць мыта з гандляроў ці нават рабаваць іх. Таму, каб абараніць сваіх купцоў і атрымаць дадатковы прыбытак, полацкі князь пачаў вайну з Ноўгарадам Вялікім.

*Як вы думаеце, чаму гэтага кіеўскага князя празвалі Мудрым?*

У 1021 г. князь Брачыслаў напаў на Ноўгарад і разрабаваў яго. Аднак на зваротным шляху полацкага князя нагнаў кіеўскі князь Яраслаў Мудры. На рацэ Судаміры Брачыслаў атрымаў паражэнне і збег у Полацк. Аднак у той час Яраславу вельмі патрэбны былі саюзнікі. Таму ён прымірыўся са сваім пляменнікам Брачыславам. Больш за тое, полацкі князь атрымаў два гарады — Усвяты і Віцебск. Побач з імі якраз і праходзілі такія важныя для Полацка волакі. У выніку мяжа Полацкага княства значна адсунулася на ўсход. Пашырыў Брачыслаў тэрыторыю свайго княства і на поўнач, на землі балтаў. Каб замацаваць новыя ўладанні, на поўначы ён пабудаваў горад Брачыслаўль (Браслаў). Аднак аб войнах Брачы-



◀ Волакам валакуць. Мастак *Мікалай Рэрых*

*Якія прыстасаванні выкарыстоўваліся для аблягчэння руху ладдзей па сушы?*

слава вядома няшмат. Пэўна, больш увагі ён надаваў пашырэнню хрысціянства на сваіх землях і іх гаспадарчаму асваенню.

*Знайдзіце згаданыя гарады на картасхеме на 1-м форзацы «Беларускія землі ў XI ст.». Звярніце ўвагу на асаблівасці іх геаграфічнага становішча.*

**4. Пачатак уладарання Усяслава Брачыславіча.** Полацкае княства Брачыслаў перадаў свайму сыну **Усяславу** (гады кіравання — **1044—1101**). Усяслаў Брачыславіч увайшоў у гісторыю як найбольш таленавіты полацкі ўладар. Ён здолеў значна ўзмацніць і пашырыць сваё княства.


102—106


Дзякуючы энергічнай дзейнасці князя Усяслава межы Полацкай зямлі пашырыліся. На поўдні было падпарадкавана адно з дрыгавіцкіх плямёнаў. Тут на рацэ Свіслач быў пабудаваны горад Менск (сучасная назва — Мінск). З часоў кіравання Усяслава даніну Полацку стаў выплочваць шэраг балцкіх плямёнаў.

Але ў насычаным жыцці князя Усяслава былі і паражэнні. У 1065 г. ён напаў на Пскоў, але не здолеў яго ўзяць. На наступны год полацкі князь захапіў Ноўгарад. Кіеўскі князь і яго браты — сыны Яраслава Мудрага — не маглі пакінуць гэта без пакарання. Яны пачалі вайну супраць Усяслава.



▲ Усяслаў Брачыславіч. Мастак *Павел Татарнікаў*



«Аповесць мінулых гадоў» расказвае, што маці нарадзіла князя Усяслава ад чаравання. У той час людзі верылі, што ён мог абярнуцца воўкам і з'яўляцца то каля сцен Вялікага Ноўгарада, то каля Кіева і нават каля далёкай Тмутаракані. Сучаснікі празвалі князя «валхвом» (вешчуном), у рускіх былінах ён застаўся вядомы як Волх Усяславіч. Пазней князя празвалі Чарадзеем.

*Няшмат імён князёў захавалася ў народнай памяці. Сярод іх — Усяслаў Полацкі. Аб чым гэта сведчыць?*



102—106

14

**5. Бітва на Нямізе.** Князі Яраславічы з вялікім войскам падышлі да паўднёвых межаў Полацкага княства. Тут яны захапілі і разбурылі Менск. Напад ворагаў аказаўся нечаканасцю для Усяслава. Са сваёй дружынай ён спяшаўся на дапамогу абаронцам Менска, але не паспеў.

Войскі праціўнікаў сустрэліся на рацэ Нямізе. **3 сакавіка 1067 г.** адбылася вырашальная бітва. Войска полацкага князя па сваёй колькасці значна саступала войску трох магутных князёў. У выніку Усяслаў быў разбіты. З вялікім трагізмам апісвае бітву на Нямізе аўтар «Слова пра паход Ігаравы»:

*На Нямізе — снапы сцелюць з галоў,*
*Малоцяць цапамі булатнымі,*
*На таку жыццё кладуць,*
*Веюць душу ад цела.*

Аднак, перамогшы ў бітве, князі Яраславічы яшчэ не выйгралі вайну. Збегшы пасля бітвы, Усяслаў быў здольны працягваць барацьбу. Тады князі Яраславічы запрасілі полацкага князя на перамовы. Яны абяцалі яму бяспеку, пакляўшыся цалаваннем крыжа. Полацкі князь пераправіўся праз Дняпро на ладдзі і прыйшоў да Оршы.



▲ Бітва на Нямізе. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



▲ Усяслаў з сынамі. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

? *Якія падзеі з жыцця Усяслава адлюстроўвае мініяцюра?*



«Аповесць мінулых гадоў» сведчыць: «І сустрэліся праціўнікі на Нямізе месяца сакавіка ў трэці дзень; і быў снег вялікі, і пайшлі адзін на аднаго. І была сеча жорсткая, і многія палеглі ў ёй, і перамаглі Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад [князі Яраславічы], Усяслаў жа ўцёк».

*На якія асаблівасці бітвы на Нямізе звяртае ўвагу летапісец?*

Але Яраславічы, парушыўшы клятву, схапілі Усяслава з двума яго сынамі. На некаторы час Усяслаў Полацкі апынуўся ў турме («порубе») у Кіеве.

У 1068 г. у Кіеве адбылося паўстанне. Гараджане абвясцілі кіеўскім князем Усяслава. Сем месяцаў займаў ён кіеўскі прастол, пасля чаго паспрабаваў вярнуць свае княства.







За Полацк Усяславу давялося яшчэ тры гады весці ўпартую барацьбу. І яшчэ дзесяць гадоў пасля працягвалася вайна Полацка з суседзямі. Толькі ў канцы XI ст. усталяваўся мір. Князі іншых зямель пакінулі Полацкую зямлю ў спакоі. Усяслаў змог паклапаціцца аб спадчыне сваім сынам.



▲ Так выглядаў Сафійскі сабор у XI ст. Макет рэканструкцыі

**6. Найвышэйшы ўздым Полацкага княства.** У XI ст. Полацкае княства дасягнула найвышэйшага ўздыму. Гэтаму спрыяла тое, што амаль усё стагоддзе Полацкам кіравалі толькі два князі — Брачыслаў Ізяславіч і Усяслаў Брачыславіч. Яны ўмацоўвалі сваю ўладу, пашыралі межы дзяржавы, праводзілі самастойную палітыку. Часта яна не супадала з інтарэсамі Кіева. Справа даходзіла да адкрытай барацьбы. Пры гэтым полацкія князі на роўных змагаліся з кіеўскімі князямі.

Сведчаннем узрастання магутнасці Полацкага княства стала будаўніцтва велічнага Сафійскага сабора. Гэта быў трэці — пасля Кіева і Ноўгарада — *сабор* імя Святой Сафіі ў Старажытнай Русі. У гэты ж час Полацк і іншыя гарады краю ўзбагаціліся дзякуючы развіццю рамяства і гандлю. Полацкая зямля дасягнула вяршыні сваёй магутнасці.



Гісторыя Полацкага княства канца X—XI ст. — яркая старонка ў гісторыі Беларусі. Славутыя полацкія князі — Брачыслаў Ізяславіч і Усяслаў Брачыславіч — шмат зрабілі для ўмацавання і пашырэння межаў сваёй дзяржавы.



**1.** Што дазволіла Полацку ўзвысіцца? Што сведчыць аб яго значнасці?
**2.** Як пачалася полацкая княжацкая дынастыя?
**3.** Раскажыце, што вы даведаліся пра дзейнасць князя Брачыслава.
**4.** Чым стаў вядомы Усяслаў Брачыславіч у першы перыяд свайго кіравання?
**5.** Раскажыце пра прычыны, ход і вынікі бітвы на Нямізе.
**6.** Выкарыстоўваючы дадатковыя матэрыялы, складзіце вуснае паведамленне пра бітву на Нямізе.
**7.** Зрабіце вывад аб гістарычным значэнні дзейнасці князя Усяслава.
**8*.** Як вы думаеце, чым была выклікана варожасць паміж полацкімі і кіеўскімі князямі?

## § 9. Полацкая зямля ў XII — першай палове XIII ст.



*1. Якая гаспадарка называецца натуральнай?*
*2. У чым выяўлялася раздробленасць у заходнееўрапейскіх краінах?*



Перыяд раздробленасці пачаўся ў Полацкім княстве рана — у самым пачатку XII ст. Што садзейнічала яго пачатку? Як раздрабленне паўплывала на знешнепалітычнае становішча Полацкай зямлі і яе ўнутранае развіццё?





**1. Пачатак раздробленасці Полацкай зямлі.** Буйны́я княствы Старажытнай Русі, такія як Кіеўскае, Чарнігаўскае, Смаленскае і Полацкае, называліся ў летапісах ***землямі***. У XII ст. яны сталі распадацца на больш дробныя княствы — ***воласці***. Полацкая зямля канчаткова распалася на асобныя княствы ў **1101 г.** Гэта адбылося тут раней, чым у іншых старажытнарускіх княствах.

*Як вы думаеце, чаму гэта адбывалася?*

Пэўныя часткі сваіх уладанняў полацкі князь перадаваў сынам і да гэтага часу. Магчыма, пачаў рабіць гэта яшчэ Усяслаў Брачыславіч. Аднак спачатку яго дзеці выступалі выключна як намеснікі. Пазней яны сталі цалкам незалежныя. Князь галоўнага горада княства — Полацка — толькі лічыўся старэйшым. Цяпер яму падпарадкоўвалася ўсяго частка былога княства. На астатніх землях утварыліся новыя княствы, у якіх кіравалі свае князі. Распад буйны́х княстваў-земель на больш дробныя княствы-воласці быў галоўнай сутнасцю *палітычнай раздробленасці*. Так, у складзе



Малодшыя князі павінны былі аддаваць частку падаткаў з насельніцтва свайго княства старэйшаму князю. Але ім самім патрабаваліся грошы. Неабходна было забяспечваць дружыну, умацоўваць свой горад, будаваць цэрквы. Таму выплаты галоўнаму гораду прыпыняліся.

*Уявіце сябе на месцы князя. Якія яшчэ спосабы здабыць грошы вы б знайшлі?*




▲ Беларускія землі ў перыяд раздробленасці

*Гарады, што паказаны на карце, сталі цэнтрамі асобных валасцей, граніцы якіх не пазначаны. Як вы думаеце, ці былі гэтыя межы сталымі? Ад чаго яны залежалі?*


16

Полацкай зямлі з'явіліся Полацкая, Менская, Віцебская, Друцкая і іншыя воласці. Пры гэтым князі асобных валасцей па чарзе займалі галоўны прастол зямлі — Полацк.

Што садзейнічала з'яўленню раздробленасці? Перш за ўсё гэта звычай размеркавання князямі сваіх уладанняў паміж сынамі. Атрымаўшы ўласную воласць, князі намагаліся праводзіць усё больш незалежную палітыку. Спрыяла палітычнаму раздрабленню і з'яўленне прыватнай уласнасці на зямлю. З асяроддзя княжацкай дружыны вылучаліся вярхі — ***баяры***. Яны атрымлівалі ад князя зямлю і не жадалі яе губляць. Баяры былі зацікаўлены ў тым, каб князі не пакідалі сваіх валасцей. Тады баярам таксама не трэба было пераязджаць на новыя месцы.

Звычайнай з'явай перыяду палітычнай раздробленасці сталі *міжусобныя войны*. Каб пашырыць свае ўладанні, князі ваявалі паміж сабой.




? *Абапіраючыся на схему, растлумачце, што садзейнічала ўзнікненню раздробленасці.*

Палітычная раздробленасць на беларускіх землях працягвалася больш за 150 гадоў. Пасля адбылося аб'яднанне былых княстваў у складзе новай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ). Але яшчэ да канца XIV ст. захоўвалася іх пэўная самастойнасць.

**2. Часовы ўздым Менскага княства.** Здаралася, што некаторыя княствы-воласці самі намагаліся стаць землямі са сваімі валасцямі. Такую спробу зрабіла Менскае княства. Яно першым вылучылася са складу Полацкай зямлі. Усяслаў Брачыславіч аддаў гэтую воласць свайму сыну **Глебу** (гады кіравання — **1101—1119**). Глеб быў незадаволены залежнасцю ад Полацка. Ён разарваў з ім сувязі, а пазней нават ваяваў з полацкім князем. Глеб пашырыў межы сваіх уладанняў. Ён падпарадкаваў гарады Друцк, Оршу і Копысь.


16



Пячатка менскага князя Глеба

Знайдзіце згаданыя гарады на картасхеме «Беларускія землі ў XII ст.» на 2-м форзацы. Ці захавала Менскае княства свае межы пасля кіравання князя Глеба?

Узмацненне менскага князя занепакоіла кіеўскага князя Уладзіміра Манамаха. У 1116 г. Глеб разрабаваў Слуцк, які падпарадкоўваўся ў той час Кіеву. У адказ Уладзімір Манамах з вялікім войскам аблажыў Менск. Глеб вымушаны быў прасіць міру. Манамах зняў аблогу, а менскі князь абяцаў ва ўсім «паслушаці» кіеўскага князя. Аднак ужо на наступны год Глеб зноў пачаў вайну. І зноў Менск быў абложаны. Глеба ўзялі ў палон і адвезлі ў Кіеў. Тут менскі князь і памёр у 1119 г. Ён быў пахаваны з належнай князю пашанай у Кіева-Пячэрскім манастыры. Такім чынам, спроба ўзвышэння Менска не ажыццявілася.



Брама дзядзінца Менска XII—XIII стст. Рэканструкцыя *Юрыя Зайца*



**3. Адносіны паміж Полацкам і Кіевам.** Пасля аслаблення Менскага княства ўвагу Кіева прыцягнуў Полацк. У той час у Кіеве валадарыў князь Мсціслаў, старэйшы сын Уладзіміра Манамаха. Мсціславу падпарадкоўваліся амаль усе землі Русі. Незалежнасць Полацка не ўваходзіла ў яго планы.





У **1127 г.** Мсціслаў арганізаваў вялікі паход у Полацкую зямлю. З некалькіх бакоў сюды накіраваліся сем князёў са сваімі дружынамі. Яны занялі Ізяслаў (Заслаўе) і Лагойск. Небяспека навісла над самім Полацкам. Палачане вырашылі прагнаць свайго князя Давыда Усяславіча, каб прадухіліць за-







▲ Паход супраць Полацка ў 1127 г.

? *Ацаніце маштаб праведзенай вайсковай аперацыі. Як гэта характарызуе ўладу кіеўскага князя?*

хоп і рабаванне горада. На княжанне быў пасаджаны князь Барыс Усяславіч. Гэта на нейкі час задаволіла кіеўскага князя.




▲ Генеалагічная схема «Полацкія князі ў XII ст.»

Але нядоўга Полацк заставаўся ў спакоі. У **1129 г.** Мсціслаў захапіў у палон непакорлівых полацкіх князёў і выслаў іх у Візантыю. У гарадах Полацкай зямлі кіеўскі князь пасадзіў сваіх людзей. Аднак у 1132 г. Мсціслаў Вялікі памёр. Старажытная Русь канчаткова распалася на асобныя самастойныя княствы. Гэта дазволіла князям Ізяславічам вярнуць свае ўладанні.



▲ Выгнанне полацкіх князёў. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

? *Аб чым сведчыць сама магчымасць кіеўскага князя распараджацца лёсам полацкіх князёў?*

**4. Веча ў Полацкай зямлі.** Народныя сходы — вечы — збіраліся яшчэ ў старажытных славянскіх плямёнах. Яны дзейнічалі нават тады, калі племя мела свайго князя. У Полацку веча паступова ўзмацнялася на працягу XII ст. Гэта суправаджалася аслабленнем княжацкай улады. Так, менавіта народны сход у 1127 г. выгнаў полацкага князя Давыда. Падчас знаходжання полацкіх князёў у выгнанні ў Візантыі веча ўзяло на сябе кіраванне зямлёй.



110—114

У другой палове XII — пачатку XIII ст. полацкае веча магло здымаць і прызначаць князя, заключаць дагаворы з іншымі гарадамі і дзяржавамі. Вырашала веча і найбольш важныя судовыя справы.

Аднак нельга пераацэньваць значэнне веча. У мірныя, спакойныя часы яно зусім не выяўляла сябе. Не чуваць было аб вечы і ў гады кіравання моцных князёў. Толькі ў час войнаў, змены княжацкай улады, абвастрэння канфліктаў у грамадстве, пры неабходнасці прыняцця важных рашэнняў насельніцтва праз веча выказвала свае патрабаванні.



▲ Выгляд Полацка ў XII—XIII стст. Рэканструкцыя *Віктара Сташчанюка*

? *Якія пабудовы стваралі непаўторнае аблічча сярэднявечнага горада?*



Такім чынам, у выніку раздробленасці Полацкая зямля страціла сваю былую магутнасць. Асобныя княствы-воласці Полацкай зямлі не былі здольныя супрацьстаяць больш моцным суседзям. Саслабела і княжацкая ўлада. Значную ролю ў кіраўніцтве стала адыгрываць веча.



1. Што такое землі і воласці? На якія воласці раздрабілася Полацкая зямля?
2. Калі і чаму пачалася палітычная раздробленасць Полацкай зямлі?
3. Якую палітыку праводзіў Глеб Менскі? Што стала вынікам такой палітыкі?
4. Якія адносіны склаліся паміж Полацкам і Кіевам у 20-я гг. XII ст.?
5. З якой прычыны ўзмацнілася веча ў Полацку? Якімі справамі яно займалася?
6. Аб якім праве веча сведчаць наступныя летапісныя звесткі: «Не едзь, княжа, веча [сабралася] супраць цябе ў горадзе [Полацку], і дружыну тваю забіваюць, а цябе [самога] хочуць схапіць»?

**7*.** Як вы думаеце, па якіх прычынах Полацкае княства ў XII ст. не здолела захаваць ранейшай магутнасці?

## § 10. Тураўскае княства



*1. Які ўсходнеславянскі саюз плямёнаў рассяліўся на поўдні Беларусі ў Раннім сярэднявеччы?*
*2. Што ўяўлялі сабой усходнеславянскія племянныя княжанні?*



Полацкае княства было не адзіным дзяржаўным утварэннем у Высокім сярэднявеччы на тэрыторыі Беларусі. Другі значны цэнтр дзяржаўнасці ўзнік на поўдні. Што гэта быў за цэнтр? Якія асаблівасці выявіліся ў яго развіцці?

**1. Старажытны Тураў.** Поўдзень беларускіх зямель у Сярэднявеччы развіваўся асобна ад поўначы. На поўдні галоўным горадам быў Тураў. Зараз гэта невялікі гарадок, што стаіць на шырокай Прыпяці. А ў свой час ён быў цэнтрам асобнага княства. Яго князі, атрымаўшы

Старажытны Тураў. Рэканструкцыя



Якія штучныя і натуральныя ўмацаванні абаранялі горад Тураў?

досвед кіравання ў Тураве, неаднаразова пераходзілі на кіеўскі прастол. А пазней тураўскія князі кідалі выклік магутным кіеўскім князям.

*З дапамогай картасхемы «Гарады і прырода беларускіх зямель» на 1-м форзацы дакажыце, што Тураў займаў выгаднае геаграфічнае становішча.*

Горад Тураў быў заснаваны ў цэнтры зямлі дрыгавічоў. Першапачаткова ён з'яўляўся галоўным племянным цэнтрам. Развіццю горада садзейнічала выгаднае геаграфічнае становішча. Ён размяшчаўся на гандлёвым шляху з Паўднёвай Русі ў Польшчу. А навокал раскінуліся ўрадлівыя землі.

Упершыню ў летапісе Тураў згадваецца ў **980 г.**: «Рагвалод жа прыйшоў быў з-за мора і меў воласць сваю ў Полацку. А Тур [сеў] у Тураве, ад яго ж і тураўцы празваліся». Такім чынам, назва горада звязваецца з імем сучасніка Рагвалода князя Тура.



14

Як вы ўжо ведаеце, у сярэдзіне X ст. землі дрыгавічоў былі падпарадкаваны Кіеву. У **988 г.** кіеўскі князь Уладзімір Святаславіч накіраваў у найбольш буйны́я гарады ўсходніх славян сваіх сыноў у якасці намеснікаў. Тураў атрымаў Святаполк. Куды падзеўся Тур, ці існаваў ён у сапраўднасці —

*Выкажыце сваё меркаванне, ад чаго магло паходзіць само імя «Тур».*

застаецца нявысветленым. З гэтага часу можна казаць аб існаванні Тураўскага княства. Але поўную незалежнасць яно атрымала толькі ў сярэдзіне XII ст.



121—124

**2. Адносіны паміж Туравам і Кіевам.** Тураўскае княства было вельмі цесна звязана з Кіевам, з'яўляючыся ягонай воласцю. Невыпадкова некалькі князёў мянялі тураўскі прастол адразу на кіеўскі. Так, пасля смерці Уладзіміра ў 1015 г. кіеўскім князем стаў тураўскі князь Святаполк. Тураўскае княства ён захаваў за сабой.



▲ Генеалагічная схема «Старажытнарускія князі»

? *Знайдзіце на схеме князёў, якія займалі тураўскі прастол.*



Манета кіеўскага і тураўскага князя Святаполка

Святаполк, празваны Акаянным за забойства сваіх братоў Барыса і Глеба, быў пераможаны Яраславам Мудрым і памёр на чужыне. Кіеўскі прастол замест яго заняў Яраслаў Мудры. Тураўскае ж княства Яраслаў перадаў свайму сыну Ізяславу. Пасля смерці бацькі Ізяслаў сам стаў князем у Кіеве. Сын Ізяслава Яраславіча Святаполк таксама стаў спачатку тураўскім, а пасля і кіеўскім князем.

У далейшым тураўскі прастол займалі нашчадкі і Уладзіміра Манамаха, і Святаполка Ізяславіча. Яны варагавалі паміж сабой, і гэтая варожасць перадалася іх дзецям і ўнукам.

Здаралася, і ў XII ст. тураўскія князі аказваліся на кіеўскім прастоле. Але Кіеў тады ўжо страціў сваю былую магутнасць.

Такім чынам, тураўскія князі ў XI — першай палове XII ст. часта займалі велікакняжацкі прастол у Кіеве. Пры гэтым падчас знаходжання ў Кіеве яны кіравалі Туравам праз прызначаных *пасаднікаў*. Асаблівасцю менавіта Тураўскага княства былі вялікія паўнамоцтвы такіх намеснікаў князя.

**3. Як Тураўскае княства набыло самастойнасць.** З пачаткам раздробленасці Старажытнай Русі Кіеў ужо не мог патрабаваць паслушэнства ад іншых гарадоў. Аднак яго князі па-ранейшаму лічылі сябе старэйшымі. Яны жадалі распараджацца княствамі-валасцямі па сваёй волі. У **1157 г.** кіеўскі князь Ізяслаў Давыдавіч вырашыў аддаць Тураў свайму саюзніку. У той час улада ў Тураве належала **Юрыю Яраславічу**. Аддаваць княства, дзе ўладарылі яго продкі, князь Юрый не жадаў. Мясцовае насельніцтва аказала яму моцную падтрымку.



16




Магчымыя межы ўладанняў князя Святаполка ў канцы X ст.

Напрамкі руху дружын старажытнарускіх князёў па закліку кіеўскага князя ў 1157 г.

Аблога Турава ў 1157 і 1160 гг.

Тэрыторыя Тураўскага княства ў пачатку XIII ст.

▲ Тураўскае княства ў XII — пачатку XIII ст.

? *Паміж якімі княствамі размяшчалася Тураўская зямля?*

Кіеўскі князь сабраў вялікае войска і рушыў да Турава. Відаць, перамога здавалася яму лёгкай. Аднак нечакана тураўцы адказалі ўпартым супраціўленнем. У выніку кіеўскі князь вымушаны быў адысці ні з чым. У 1160 г. войска кіеўскага князя зноў спрабавала захапіць Тураў. І зноў пацярпела няўдачу.



Іпацьеўскі летапіс сведчыць: «І біліся дужа, выходзячы з горада, і шмат бывала параненых. І шмат разоў прасіў Юрый Яраславіч, пасылаючы з горада да Ізяслава, кажучы: “Брат, давай заключым мір з табой”. Ізяслаў жа таго не пажадаў, але любым спосабам намерваўся ўзяць пад ім Тураў і Пінск. І стаяў каля горада 10 тыдняў. Быў мор сярод коней. І так, нічога не дамогшыся, вярнуўся дадому, не заключыўшы з ім міру. І многія пешымі прыйшлі з той вайны».

*Што дазволіла Юрыю Яраславічу перамагчы моцнага ворага?*

Так мужная абарона горада ягонымі жыхарамі на чале з князем Юрыем Яраславічам дазволіла адстаяць незалежнасць Тураўскай зямлі. Гэта адна з гераічных старонак нашай гісторыі.

Юрый Яраславіч княжыў у Тураве прыблізна да 1167 г. Пасля Тураўскай зямлёй кіравалі яго сыны. Тут сфарміравалася свая княжацкая дынастыя.

*Якія яшчэ старажытнарускія княжацкія дынастыі вы ведаеце?*

**4. Гарады і воласці Тураўскай зямлі.** Як і ў іншых землях, у складзе Тураўскай зямлі вылучыліся воласці. Акрамя Тураўскай воласці, якая належала старэйшаму князю, з цягам часу з'явіліся Пінская і Дубровіцкая. Некаторы час да Тураўскай зямлі належала Чартарыйская воласць (зараз тэрыторыя Украіны).

Паступова ў Тураўскай зямлі ўзмацніўся горад Пінск. Ён, як і Тураў, быў заснаваны на рацэ Прыпяць, але бліжэй да яе вытоку. Тут у Прыпяць упадала рака Піна, якая і дала назву гораду.

*Дакажыце, што становішча Пінска было лепшае за становішча Турава.*



▲ Падмурак царквы ў Тураве. 1170-я гг.

Упершыню Пінск згадваецца ў летапісе ў 1097 г. Узвышэнне Пінска было звязана з тым, што стары дрыгавіцкі цэнтр — Тураў — знаходзіўся ў небяспечнай блізкасці ад Кіева. За Кіеў увесь час адбывалася міжусобная барацьба. Даставалася і Тураву, які жадаў падпарадкаваць кожны новы кіеўскі князь. У Пінску нашчадкі Юрыя Яраславіча адчувалі сябе значна спакайней.

Між тым да пачатку XIII ст. Тураўскае княства, хоць і захоўвала самастойнасць, часам вымушана было падпарадкоўвацца то галіцкім, то чарнігаўскім князям.



У канцы XII — першай палове XIII ст. тураўскія князі часта бралі ўдзел у паходах кіеўскіх князёў. Да Турава з павагай ставіліся ўладары суседніх зямель. Невыпадкова два з тураўскіх князёў былі пахаваны ў Кіеве ў Златаверхай царкве святога Міхаіла. У свой час гэтая царква была пабудавана Святаполкам Ізяславічам. Такім чынам, цесныя сувязі паміж Туравам і Кіевам захоўваліся і ў гэты час.



Такім чынам, на поўдні Беларусі ў Высокім сярэднявеччы Тураў стаў другім пасля Полацка цэнтрам развіцця дзяржаўнасці. Галоўнай яго асаблівасцю была цесная сувязь з Кіевам.



**1.** У чым асаблівасці геаграфічнага становішча Турава? Як яны паўплывалі на развіццё Турава?
**2.** З якога часу існавала Тураўскае княства?
**3.** У чым асаблівасці палітычнага ладу Тураўскага княства?
**4.** Якімі былі адносіны паміж Кіевам і Туравам?
**5.** Дзякуючы чаму Тураўскае княства захавала сваю самастойнасць?
**6.** Якія воласці вылучыліся ў складзе Тураўскай зямлі?
**7.** У чым прычыны ўзвышэння горада Пінска?
**8*.** Як вы думаеце, чаму Тураўскае княства ў XIII ст. прыйшло ў занепад?

# § 11. Беларускія землі ва ўмовах палітычнай раздробленасці



*1. Як называліся славянскія саюзы плямёнаў, якія рассяліліся ў межах беларускіх зямель?*
*2. Якія плямёны жылі на беларускіх землях да прыходу славян?*



Асноўную частку тэрыторыі Беларусі ў Высокім сярэднявеччы займалі Полацкае і Тураўскае княствы. Астатнія беларускія землі падчас палітычнай раздробленасці апынуліся ў складзе розных княстваў. Што гэта былі за княствы? Якое месца ў іх займалі сучасныя беларускія землі?

*Даведайцеся, да якога княства належала ваша мясцовасць у XI ст. і ў перыяд палітычнай раздробленасці (XII — першая палова XIII ст.).*

**1. Беларускія землі ў складзе Смаленскага і Чарнігаўскага княстваў.** Як вы ўжо ведаеце, у канцы Ранняга сярэднявечча тэрыторыю па рацэ Сож — Пасожжа — засялялі радзімічы. Зараз гэта тэрыторыя знаходзіцца ў складзе Беларусі і Расіі. У XII ст. на землях радзімічаў былі вядомы гарады Гомей (Гомель), Чачэрск, Прапойск (Слаўгарад), Крычаў, Мсціслаў.


16

*Узгадайце, калі радзімічы падпарадкаваліся Кіеву.*

Спачатку радзімічы былі падпарадкаваны Кіеву. У XI ст. іх землі ўвайшлі ў склад Чарнігаўскага княства. У 1127 г. паўночныя землі



Смаленск быў адным з самых старажытных гарадоў усходніх славян. Ён знаходзіўся на ключавым пункце шляху «з варагаў у грэкі». Гэта дазволіла яму разбагацець і стаць цэнтрам буйнога і магутнага старажытнарускага княства. Побач са Смаленскам выяўлена вялікая група курганных могільнікаў. Вёска Гнёздава, якая знаходзіцца побач, дала ім назву. У гнёздаўскіх курганах знойдзена шмат зброі і скандынаўскіх рэчаў.

*Як вы думаеце, аб чым гэта сведчыць?*



▲ Наканечнік ножнаў мяча. Гомель. XII—XIII стст.

радзімічаў з гарадамі Мсціславам, Крычавам і Прапойскам былі далучаны да Смаленскага княства. Гэта стала вынікам вайны паміж Смаленскім і Чарнігаўскім княствамі. Аднак яшчэ доўгі час Чарнігаў не мог змірыцца з такой стратай. Іншыя гарады ў зямлі радзімічаў — Гомей, Чачэрск — заставаліся ў складзе Чарнігаўскага княства.

У другой палове XII ст. значна ўзмацніўся Гомей (Гомель). Горад, вядомы ў летапісах з 1142 г., стаў сталіцай асобнага княства-воласці. Гэта воласць знаходзілася ў складзе Чарнігаўскай зямлі. Некаторы час Гомеем валодаў князь Ігар Святаславіч — герой «Слова пра паход Ігаравы».

**2. Лёс Берасцейшчыны.** Землі ў сярэднім цячэнні ракі Заходні Буг знаходзіліся на крайнім захадзе ўсходнеславянскага свету. Галоўным горадам тут было Берасце (сучасны Брэст). Гэты горад узнік як крэпасць на мяжы з польскімі плямёнамі. Першая

*Што вы ведаеце пра Святаполка Акаяннага?*



Паходжанне назвы Берасця тлумачыць цікавая легенда. У ёй расказваецца, як аднойчы багаты купец са сваімі людзьмі ехаў гандляваць у Літву. Нечакана дарогу перагарадзіла балота, вакол якога расло шмат бяроз. Падарожныя ссеклі дрэвы і зрабілі бярозавы насціл, па якім здолелі прайсці праз дрыгву. Адразу за балотам яны знайшлі востраў, утвораны дзвюма рэкамі — вялікай і маленькай. Каб аддзякаваць багам, купец вырашыў стварыць на востраве язычніцкае свяцілішча. Праз нейкі час купец са сваімі людзьмі вярнуўся пасля ўдалага гандлю і спыніўся ля зробленага ім свяцілішча. Тут ён пабудаваў жытлы, з якіх з цягам часу вырас горад. Яго і назвалі Берасце.

*Знайдзіце ў прыведзенай легендзе ўказанне на час, калі было пабудавана Берасце.*



Старажытнае Берасце. Рэканструкцыя

згадка пра Берасце адносіцца да **1019 г.** Тады ў Берасці схаваўся пераможаны Яраславам Святаполк Акаянны. Неаднойчы кіеўскія князі ваявалі за Берасце з Польшчай. Горад атрымаў назву ад аднаго з відаў дрэў або ад кары бярозы — бяросты. У сваю чаргу, Берасце дало назву ўсяму краю — «Берасцейшчына» (Брэстчына).

Пазней у Сярэднім Пабужжы ўзніклі гарады Драгічын, Мельнік, Камянец і Кобрын. Усе яны аб'ядноўваліся вакол Берасця. Але самастойнае княства з цэнтрам у Берасці не склалася. Гэта была крэпасць на памежжы. Таму ў горадзе значнай уладай карыстаўся ваенны кіраўнік — ваявода.

*Знайдзіце тэрыторыю Берасцейшчыны на картасхеме на с. 88. Звярніце ўвагу на асаблівасці становішча гэтага краю.*

Берасце падпарадкоўвалася непасрэдна Кіеву, магло належаць тураўскім князям. З сярэдзіны XII ст. яно ўвайшло ў склад Уладзіміра-Валынскага (пазней Галіцка-Валынскага) княства.

**3. Узнікненне гарадоў і княстваў у Панямонні.** Тэрыторыя ўздоўж ракі Нёман з яе прытокамі называецца Панямоннем. Гэты лясны край славяне пачалі асвойваць пазней за іншыя тэрыторыі Беларусі. З поўдня і паўднёвага ўсходу сюды прыходзілі валыняне і дрыгавічы. Яны засноўвалі тут гарады.

Найбольш старажытнымі гарадамі Панямоння былі Гародня (Гродна), Навагародак (Навагрудак), Слонім і Ваўкавыск.



16



▲ Шкляныя вырабы з Навагрудка



▲ Пласцінка з арнаментам. Гродна. XII ст.

*Дзе яшчэ вы маглі бачыць падобны арнамент?*

Яны ўзніклі ў канцы X — пачатку XI ст. Гэтыя гарады ў XII ст. сталі цэнтрамі асобных княстваў — Гарадзенскага, Новагародскага, Ваўкавыскага, Слонімскага.





128—130

Ужо ў 1116 г. згадваецца князь Гародні Усеваладка. Ён ажаніўся з дачкой самога кіеўскага князя Уладзіміра Манамаха. Князі Гародні хадзілі паходамі на поўнач — супраць літвы, і на поўдзень — на Галіч. Гародня падтрымлівала цесныя сувязі з Кіевам. Гарадзенскія дружыны неаднаразова ўдзельнічалі ў сумесных паходах супраць качэўнікаў-полаўцаў.



▲ Сярэднявечная Гародня. Мастак *Павел Татарнікаў*

*Як вы думаеце, чаму Гародня мела такія магутныя ўмацаванні?*

Са з'яўленнем свайго князя ў Гародні быў пабудаваны двухпавярховы мураваны княжацкі палац (церам). Тады ж у горадзе з'явілася раскошна аздобленая царква. Багатымі дамамі быў забудаваны і Новагародак. Некаторыя з іх мелі два паверхі і зашклёныя вокны. Сцены асобных пабудоў нават упрыгожваліся *фрэскамі*.



▲ Пласцінка з Навагрудка і рэканструкцыя панцыра

Гарады Панямоння падтрымлівалі сувязі і з далёкай Візантыяй. Аб гэтым сведчаць знаходкі каштоўнага шклянога посуду, распісанага золатам і эмаллю.

У памежным панёманскім краі значная ўвага надавалася ваеннай справе. Мясцовыя кавалі́ рабілі добрую зброю. Воіны мелі моцнае засцерагальнае ўзбраенне — шаломы, кальчугі, панцыры з жалезных пласцінак.

**4. Балцкія суседзі Русі.** На паўночным захадзе ўсходнеславянскіх зямель рассяляліся балцкія плямёны: літва і яцвягі. Пісьмовыя звесткі пра суседзяў Русі на паўночным захадзе вельмі скупыя. Так, напрыклад, першая згадка пра літву ў заходніх хроніках адносіцца да 1009 г.



130—132



Усходнія балты не ўвайшлі ў склад Старажытнарускай дзяржавы. Але яны мусілі плаціць даніну кіеўскім князям, а ў перыяд раздробленасці — Вялікаму Ноўгараду і Полацку. Неаднойчы старажытнарускія князі хадзілі паходамі на літоўскія плямёны, каб падпарадкаваць іх. Але тыя здолелі абараніць сваю самастойнасць. У XIII ст. прыбалтыйскае насельніцтва сутыкнулася з больш сур'ёзнай небяспекай. Іх землямі зацікавіліся нямецкія рыцары і каталіцкае духавенства. Гэта патрабавала стварэння больш моцнай арганізацыі для адпору заваёўнікам.



▲ Гаршкі з курганоў Літвы




Граніцы княстваў у сярэдзіне XII ст.
Тэрыторыя, якая была падпарадкавана валынскімі князямі
Тэрыторыя, якая адышла да Польшчы ў канцы XII ст.

▲ Заходнія землі Старажытнай Русі



Такім чынам, беларускія землі ў перыяд раздробленасці ўваходзілі ў склад некалькіх дзяржаў-княстваў. Акрамя Полацкага і Тураўскага княстваў гэта былі Смаленскае, Чарнігаўскае і Валынскае княствы. Узніклі княствы і на тэрыторыі Панямоння. Паўночны захад Беларусі насяляла літва.



1. Як склаўся лёс тэрыторыі рассялення радзімічаў у Высокім сярэднявеччы?
2. Якія гарады ўзніклі на тэрыторыі Пасожжа?
3. У чым асаблівасці становішча Берасцейшчыны?
4. Якія гарады і княствы склаліся ў Панямонні?
5. У чым заключаюцца асаблівасці развіцця Панямоння?
6. Якія адносіны складваліся ў балцкіх плямёнаў з суседзямі?
7*. Паразважайце, што было агульнага на ўсёй тэрыторыі Беларусі, заселенай усходнімі славянамі.

# § 12. Знешняя небяспека ў першай палове XIII ст.



*1. Што такое духоўна-рыцарскі ордэн?*
*2. З якой мэтай ажыццяўляліся крыжовыя паходы?*



Палітычная раздробленасць значна аслабіла магчымасць усходніх славян супрацьстаяць знешняй небяспецы. Старажытнарускія князі шмат ваявалі між сабой, не звяртаючы ўвагі на пагрозу з боку новых ворагаў. Што гэта былі за ворагі? Якія наступствы мелі іх напады?

## 1. Калі ва Усходняй Прыбалтыцы з'явіліся крыжакі?


133—135


У канцы XII ст. у Еўропе заставалася зусім мала абласцей, якія яшчэ не ўвайшлі ў склад дзяржаў. Амаль уся тэрыторыя Заходняй Еўропы была падзелена паміж феадальнымі ўладальнікамі. Насельніцтва гэтых зямель вызнавала хрысціянства. Выключэннем была Усходняя Прыбалтыка. Тут жылі язычніцкія плямёны ліваў, латгалаў, земгалаў, эстаў (чудзі).

У канцы XII ст. у вусці Заходняй Дзвіны з'явіліся першыя германскія *місіянеры*. Гэта былі шчырыя вернікі, што прысвяцілі сваё жыццё пашырэнню хрысціянства. Аднак за імі пачалі прыходзіць іншыя, прагныя да багацця людзі. Для іх «выратаванне душ» язычнікаў служыла толькі спосабам усталявання ўласнага панавання.

Землі сучасных Латвіі і Эстоніі атрымалі гістарычную назву Лівонія — ад наймення плямёнаў ліваў. У 1201 г. брэменскі місіянер Альберт, які быў прызначаны лівонскім *біскупам* (пазней — *арцыбіскупам*), з дапамогай нямецкіх рыцараў заснаваў у вусці Заходняй Дзвіны крэпасць Рыгу. У 1202 г. тут быў створаны ваенна-манаскі ордэн мечаносцаў (ордэн братоў мяча). Яму даручалася дапамагаць біскупу ў хрышчэнні мясцовых плямёнаў.



▲ Рыцар ордэна мечаносцаў




Тэрыторыі, падпарадкаваныя нямецкімі рыцарамі ў першай палове XIII ст.

Тэрыторыі Полацкай зямлі, якія адышлі да ордэна мечаносцаў

Заснаванне ордэна мечаносцаў у 1202 г.

*п р у с ы* Плямёны балтаў

*э с т ы* Фіна-ўгорскія плямёны

*к у р ш ы* Прыбалтыйскія плямёны, якія ў XII ст. выплочвалі даніну Полацку

Замкі, пабудаваныя крыжакамі

1208 Час падпарадкавання тэрыторый крыжакамі

▲ Усходняя Прыбалтыка ў пачатку XIII ст.

? *З дапамогай картасхемы высвятліце, што стала асноўнай прычынай сутыкнення Полацкага княства з крыжакамі.*

А на іх землях нямецкія рыцары планавалі ўтварыць феадальную гаспадарку, у якой падпарадкаванае насельніцтва мусіла служыць ордэну.

**2. Напады нямецкіх рыцараў.** Планы нямецкіх місіянераў не адпавядалі інтарэсам Полацкага княства. Спачатку князь не ўбачыў небяспекі ў іх дзейнасці, дазволіўшы «несці крыж» да язычнікаў. Хутка за місіянерамі з'явіліся і рыцары — ***крыжакі***, якіх рымскі папа заклікаў да крыжовага паходу ў Прыбалтыку. Яго ўдзельнікам дараваліся грахі, а заваяваныя землі дазвалялася атрымаць ва ўласнасць. Крыжакі сілай зброі, прымусам распаўсюджвалі хрысціянства і лічылі, што робяць добрую справу.

*Чаму для гэтага патрабаваўся дазвол полацкага князя?*

Амаль кожны год рыцары нападалі на неабароненыя паселішчы язычніцкіх плямёнаў. Здараліся і паражэнні, калі даведзеныя да крайнасці прыбалты падымалі паўстанні.

Але рыцары хутка аднаўлялі сілы. З Заходняй Еўропы да іх прыходзілі новыя «змагары за веру». Каб замацавацца ў новых месцах, крыжакі будавалі невялікія мураваныя замкі. Замкі былі апорнымі пунктамі для далейшага прасоўвання на ўсход і падпарадкавання чужых зямель.

**3. Супрацьстаянне крыжакам.** Задоўга да з'яўлення ў Прыбалтыцы крыжакоў мясцовыя плямёны выплочвалі даніну Полацку. Магчыма, менавіта ў пунктах збору даніны ўзніклі гарады Герцыке і Кукенойс. Яны сталі цэнтрамі асобных княстваў у складзе Полацкай зямлі. Герцыке і Кукенойс стаялі на беразе ракі Заходняя Дзвіна, на шляху крыжацкіх заваяванняў. Іх князі змагаліся з нямецкім націскам, пакуль мелі сілы. Але рыцары аказаліся мацнейшымі.

*Знайдзіце іх на картасхеме на с. 108.*

Пасля захопу Герцыке і Кукенойса крыжакі падступілі да межаў Полацкага княства. Полацк апынуўся ў складаным становішчы. З аднаго боку, крыжакі прысвоілі даніну ліваў, якая раней выплочвалася палачанам. Каб спагнаць яе, полацкі князь **Уладзімір** яшчэ з 1203 г. ладзіў паходы на Рыгу, але безвынікова. З другога боку, полацкія купцы былі вельмі зацікаўлены ў падтрыманні міру на За-



У больш моцным Герцыкскім княстве валадарыў князь Усевалад. Як піша нямецкая хроніка, ён быў сынам «караля Полацка». У барацьбе з крыжакамі Усеваладу дапамагалі літоўцы. Сам князь быў жанаты з дачкой літоўскага князя, якога звалі Даўгерутэ. Аднак у 1214 г. крэпасць Герцыке была спалена. Усевалад са сваім княствам вымушаны быў падпарадкавацца рыжскаму біскупу.

У Кукенойсе ў пачатку XIII ст. кіраваў князь Вячка (Вячаслаў). У яго, наадварот, склаліся вельмі дрэнныя адносіны з літоўцамі. У барацьбе з імі князь нават быў гатовы карыстацца дапамогай крыжакоў. Рыжскаму біскупу Вячка аддаў палову сваіх зямель, але хутка зразумеў, што крыжакі — дрэнныя саюзнікі. У 1208 г. ён знішчыў рыцараў, якія знаходзіліся ў яго горадзе. Вячка папрасіў дапамогі ў полацкага князя Уладзіміра, але, не дачакаўшыся яе, спаліў свой горад і адышоў у Вялікі Ноўгарад. Наўгародскі князь даручыў Вячку абараняць горад Юр'еў і землі эстаў ад нямецкіх рыцараў. Падчас аблогі рыцарамі Юр'ева ў 1224 г. Вячка сярод апошніх абаронцаў загінуў.

*Падумайце, чаму Герцыке і Кукенойс не здолелі адбіцца ад крыжакоў.*



▲ Князь Уладзімір Полацкі. Скульптура *Заіра Азгура*



▲ Неўская бітва 15 ліпеня 1240 г. Воін з узнятым мячом — Якаў Палачанін. Мініяцюра з летапісу XVI ст.

ходняй Дзвіне. Таму ў 1210 г. Полацк і Рыга заключылі мір. Па яго ўмовах для полацкіх купцоў быў адкрыты свабодны шлях па Дзвіне.

*Падумайце, хто яшчэ быў зацікаўлены ў развіцці гандлю па Заходняй Дзвіне.*

Але полацкі князь не змірыўся са стратай прыбалтыйскіх зямель. Ён рыхтаваў сілы для рашучага наступу на крыжакоў. Спрыяльны момант надышоў у **1216 г.** Полацкага князя гатовыя былі падтрымаць эсты і літоўцы. У Полацк сабраліся воіны з Менска, Смаленска, Віцебска, Друцка. Аднак Уладзімір раптоўна памёр, калі ўжо ўзыходзіў на карабель. У выніку Полацкае княства саступіла




*З дапамогай схемы сфармулюйце асноўныя вынікі наступу крыжакоў.*



Наўгародская зямля, таксама як і Полацкае княства, адчувала небяспеку з боку крыжакоў. Да таго ж на землі Вялікага Ноўгарада з прагнасцю глядзелі шведы. Агульная справа вымагала аб'яднання сіл.

Саюз Полацка і Ноўгарада, як у той час было прынята, замацавалі шлюбам. Малады наўгародскі князь Аляксандр Яраславіч ажаніўся з дачкой полацкага князя Брачыслава Параскевай. Невыпадкова ў славутай бітве князя Аляксандра са шведамі на рацэ Няве ў ліпені 1240 г. удзельнічаў нейкі палачанін, які меў імя Якаў. Летапіс адзначыў, што Якаў Палачанін у жорсткай рукапашнай схватцы «...мужна біўся, і пахваліў яго князь».

Не выключана, што полацкія воіны змагаліся ў дружыне наўгародскага князя Аляксандра Неўскага і ў бітве на Чудскім возеры ў 1242 г.



135—136

ў барацьбе з крыжакамі. Былі страчаны даніна з прыбалтыйскіх плямёнаў і цэлыя княствы — Герцыкскае і Кукенойскае.

**4. Мангольскае нашэсце і беларускія землі.** У той час, калі Усходнюю Прыбалтыку заваёўвалі еўрапейскія крыжакі, ля межаў Русі з'явіўся новы вораг — ***манголы***. На Русі і ў Еўропе іх называлі «татары». Яны прыйшлі з далёкіх стэпаў Манголіі і ўжо захапілі шмат краін на Усходзе. Надышла чарга і Старажытнай Русі.


17

У **1237—1241 гг.** велізарная мангольская арда на чале з ханам Батыем зруйнавала мноства старажытнарускіх гарадоў. У снежні 1240 г. манголы ўзялі «маці гарадоў рускіх» Кіеў. Страшная небяспека наблізілася і да беларускіх зямель.

*Даведайцеся, ад якіх ворагаў найбольш пацярпеў ваш край у X — першай палове XIII ст. Якія легенды і паданні, прысвечаныя гэтым падзеям, захаваліся ў вашай мясцовасці?*

У глыб беларускага ляснога краю манголы не пайшлі. Таму Полацкая зямля і княствы ў Панямонні не зведалі жорсткасці мангольскіх воінаў. Тым не менш заваёўнікі спалілі Гомель і Магілёў. Магчыма, не абмінула бяда гарады Тураўскай зямлі. Падчас рабавання Валынскай зямлі манголы ўзялі Берасце. Як паведамляе летапіс, каля горада «быў смурод ад вельмі вялікай колькасці забітых». Гэта стала вынікам мангольскага паходу напачатку **1241 г.**



137—138

У прычарнаморскім стэпе, Паволжы і Сярэдняй Азіі манголы стварылі адну з найбуйнейшых дзяржаў Сярэднявечча — ***Залатую***



Мангольскае нашэсце пакінула глыбокі след у народнай памяці. Шмат старажытных паданняў расказваюць пра мужную барацьбу з татарамі. Так, паводле аднаго з іх татарскае войска на чале з Койданам (магчыма, унукам Чынгісхана — Каданам) рухалася на Менск. Каля горада Крутагор'е яно было разбіта. Сам военачальнік загінуў. Быццам бы з гэтай нагоды горад быў перайменаваны ў Койданава (цяпер горад Дзяржынск).

*З апорай на картасхему «Беларускія землі ў першай палове XIII ст.» на 2-м форзацы паразважайце, у якім кірунку мусіла рухацца мангольскае войска.*



Узяцце манголамі старажытнарускага горада

? *З дапамогай чаго манголы захоплівалі гарады?*

***Арду***. Большасць старажытнарускіх зямель трапілі ад яе ў залежнасць, якую гісторыкі назвалі ярмом (рус. «иго»). Яна заключалася ў выплаце Руссю даніны і прызначэнні ардынскімі ханамі князёў на прастолы. Ардынцы рабілі частыя грабежніцкія набегі на беларускія і нават літтоўскія землі. Тым не менш, у адрозненне ад усходняй і паўднёвай Русі, асноўная тэрыторыя Беларусі ў залежнасць ад Арды не трапіла.




? *З дапамогай схемы раскажыце аб наступствах мангольскага нашэсця.*

! Такім чынам, раздробленасць аслабіла ўсходнеславянскія княствы якраз у той час, калі з'явіліся новыя ворагі — крыжакі і манголы. У выніку знешняя небяспека значна змяніла аблічча Усходняй Еўропы. Менавіта гэта прывяло да ўзмацнення новай палітычнай сілы — Літвы.



1. З якімі мэтамі з’явіліся ва Усходняй Прыбалтыцы нямецкія місіянеры і рыцары?
2. Якім чынам крыжакі замацоўвалі сваю ўладу на заваяваных тэрыторыях?
3. Якія ўсходнеславянскія гарады ў Прыбалтыцы першымі сутыкнуліся з крыжакамі?
4. Раскажыце пра барацьбу Полацкага княства з крыжакамі.
5. Якія саюзнікі з’явіліся ў Полацкага княства падчас барацьбы з ордэнам мечаносцаў?
6. Якія беларускія гарады пацярпелі ад манголаў?

7*. Як вы думаеце, у чым прычыны паражэння старажытнарускіх княстваў у вайне з крыжакамі і манголамі?

## § 13. Гаспадарчае развіццё беларускіх зямель і ўзнікненне гарадоў



*1. Што такое ляднае земляробства?*
*2. Калі і дзе ўзніклі першыя манеты?*



Гаспадарка ўсходніх славян у Сярэднявеччы развівалася вельмі павольна. Прытым у грамадстве адбываліся значныя зрухі. У Заходняй Еўропе гэта быў час росквіту феадальных адносін. Ці адбывалася тое ж самае ў Высокім сярэднявеччы і на беларускіх землях? Якую ролю ў той час адыгрывалі гарады?

*Чым суседскія абшчыны адрозніваліся ад родавых абшчын?*

**1. З якіх заняткаў складалася гаспадарка нашых продкаў.** Жыццё нашых продкаў у Сярэднявеччы было вельмі цяжкім. Пражыць паасобку ці невялікімі сем’ямі ў той час было складана. Сумесная дзейнасць патрабавалася пры расчыстцы ўчасткаў лесу для земляробства, выкарчоўванні пнёў, розных палявых працах. Таму ўсходнія славяне жылі калектывамі — суседскімі абшчынамі. Уся зямля, якая апрацоўвалася ці выкарыстоўвалася для выпасу жывёлы, належала абшчыне. Галоўнымі заняткамі ўсходніх славян былі земляробства



Гаспадарчая дзейнасць. Мініяцюра з летапісу

*Якія заняткі ўсходніх славян можна ўбачыць на малюнку?*

і жывёлагадоўля. Да XIII ст. ляднае земляробства выцеснілася ворыўным. Далейшае развіццё атрымала двухполле. З'явілася сістэма земляробства, якая атрымала назву *«трохполле»*. Поле дзялілі на тры часткі. Адна трэць засявалася яравымі, другая — азімымі, а трэцяй даваўся адпачынак. Аднак у лясным краі ляда панавала ажно да XIII ст. На беларускіх землях былі распаўсюджаны многія вядомыя ў наш час культуры: пшаніца, проса, жыта, боб, гарох, грэчка. Для вырабу тканіны вырошчвалі лён і каноплі. Ураджай зразалі жалезнымі сярпамі ці косамі. Зерне малацілі драўлянымі цапамі і малолі на муку пры дапамозе каменных жорнаў. Гадавалі кароў, коней, свіней, коз, авечак.

Важнымі заняткамі для нашых продкаў заставаліся паляванне і рыбная лоўля. Палявалі на ласёў, зуброў, аленяў, дзікоў, мядзведзяў і інш. Здабывалі таксама футра пушных звяроў. Лясныя багацці — ягады, грыбы — дапаўнялі стол земляроба.



**Драўляная саха** рыхліла і праводзіла ў глебе баразёнкі



**Саха з жалезнымі нарогамі** рыхліла глебу і адвальвала пласт зямлі ў бакі



**Старажытны плуг** глыбока рыхліў глебу і пераварочваў пласт зямлі



▲ Жалезныя сярпы з поўдня Беларусі. XII—XIII стст.

Шырока было распаўсюджана бортніцтва. Збор мёду дзікіх пчол быў не менш складаным, чым паляванне. Мёд і воск тады высока цаніліся: на іх быў вялікі попыт у Візантыі і іншых краінах.

Самыя простыя рэчы, неабходныя ў штодзённым побыце, выраблялiся ў кожнай хаце. Так, напрыклад, амаль усе жанчыны ўмелі прасці і ткаць. Складаныя рэчы, асабліва з металу, рабілі рамеснікі, якія меліся, бадай, у кожнай вёсцы. Вясковыя жыхары амаль цалкам маглі забяспечыць сябе ўсім неабходным для жыцця. Такім чынам, на беларускіх землях доўгі час панавала *натуральная гаспадарка*.



◀ Вертыкальны ткацкі станок. Рэканструкцыя



▶ Глінянае вядро, зробленае на ганчарным крузе. Канец X — пачатак XI ст. Курган Замошша Талачынскага раёна Віцебскай вобласці

**2. Данніцкія абавязкі насельніцтва.** Князь і знатныя людзі не ўдзельнічалі ў непасрэднай вытворчасці прадуктаў. Аднак ім патрабаваліся не толькі харчаванне, але і дарагое адзенне, зброя. Усё гэта падкрэслівала высокае становішча знаці. Князю заўсёды былі неабходны сродкі для вядзення войнаў, прыёму замежных пасольстваў і г. д. Галоўным шляхам задавальнення патрэб князя і набліжаных да яго асоб з'яўляўся збор даніны.

> Якія яшчэ існавалі спосабы ўзбагачэння князя?

> Выкажыце сваё меркаванне пра паходжанне назвы «палюддзе».

Першапачаткова князь збіраў даніну з насельніцтва ў час ***палюддзя***. Разам з дружынай ён аб'язджаў паселішчы падуладнай тэрыторыі. Тут ён прымаў паднашэнні прадуктамі харчавання, футрам і рамеснымі вырабамі. Адначасова князь чыніў суд.

Палюддзе патрабавала асабістай прысутнасці князя. Але з цягам часу з прычыны павелічэння падуладнай тэрыторыі рабіць гэта стала складана. Таму з сярэдзіны X ст. насельніцтва прывозіла даніну ў асобыя пункты — *пагосты*. Яе збіралі спецыяльна прызначаныя людзі — *цівуны*. Потым збор стаў праводзіцца ў гарадах. Тут галоўнай дзяржаўнай асобай пры князю быў *тысяцкі*. Змяніўся і змест даніны: яе ўсё часцей збіралі грашыма. Акрамя гэтага князь атрымліваў грошы ў выглядзе гандлёвага мыта і за ажыццяўленне суда. З прыняццем хрысціянства дзясятую частку сваіх даходаў — ***дзесяціну*** — князь стаў аддаваць царкве.


140—142


**3. Пачатак феадалізму.** У часы Сярэднявечча найбольшай каштоўнасцю з'яўлялася зямля. Вярхоўным уласнікам усёй зямлі ў дзяржаве лічыўся князь. Свае і дзяржаўныя патрэбы ён задавальняў за кошт падуладнага насельніцтва. Асобная частка земляробаў залежала непасрэдна ад князя. Гэта былі *смерды*. Яны мелі асабістую



Сядзіба баярына. Рэканструкцыя

свабоду. Аднак зямля, на якой яны працавалі, належала князю. Смерды плацілі даніну, а таксама павінны былі адпраўляцца на вайну на ўласных конях.

| Свабодныя | Часткова свабодныя | Часова несвабодныя | Залежныя (рабы) |
|---|---|---|---|
| Абшчыннікі («людзі») | Смерды | За́купы | Халопы (чэлядзь) |

▲ Катэгорыі насельніцтва Старажытнай Русі

? *Як вы думаеце, якая з катэгорый насельніцтва была найбольш шматлікай?*

У часы раздробленасці князі сталі часцей раздаваць надзелы з сёламі сваім старэйшым дружыннікам — баярам. Так узнікла баярскае землеўладанне. Але зямля была непатрэбнай без земляробаў, якія б яе апрацоўвалі. Таму ўласнікі намагаліся замацаваць за сабой не толькі зямлю, але і тых, хто на ёй працаваў. За атрыманыя ўладанні баяры







155—158

На беларускіх землях у Сярэднявеччы ўсе гарады былі драўлянымі. З дрэва будавалі ўмацаванні, хаты, масцілі ім вуліцы. Толькі зрэдку ў гарадах сустракаліся будынкі з каменю і цэглы. У асноўным гэта былі цэрквы. Галоўная царква горада называлася саборам. І зусім рэдка з цэглы будаваліся княжацкія палацы — церамы. Напрыклад, двухпавярховы цагляны церам быў пабудаваны ў XII ст. у Гародні. Частка горада, дзе знаходзіўся княжацкі палац (церам) і дамы дружыннікаў (грыдніцы), магла быць добра ўмацавана. Такі абаронены валамі, равамі і сценамі цэнтр старажытнага горада называўся *дзядзінец*. Гэта незвычайная назва ўзнікла з той прычыны, што ўмацаваны цэнтр успрымаўся як дзіця адносна астатняга паселішча. Паводле іншай версіі, у дзядзінцы першапачаткова жыла малодшая княжацкая дружына — «дзецкія», адсюль і назва. Навокал дзядзінца размяшчаліся дамы рамеснікаў і гандляроў. Гэтае неўмацаванае паселішча мела назву *«пасад»*.







*Знайдзіце згаданыя ў тэксце часткі горада на малюнку на с. 121.*

павінны былі служыць князю. Гэта нагадвала адносіны сеньёра і васала ў Заходняй Еўропе. Аднак у адрозненне ад заходнееўрапейскага феадалізму на сваіх землях баяры маглі выкарыстоўваць працу рабоў — *халопаў*. *Чэлядзь* (іншая назва рабоў) выконвала розныя работы ў гаспадарцы заможных людзей. Так феадальныя адносіны спалучаліся з рабаўладальніцкімі.

У Высокім сярэднявеччы феадальнай ці рабскай залежнасцю была ахоплена нязначная колькасць насельніцтва. У асноўным земляробы былі свабоднымі абшчыннікамі. Аднак паступова яны траплялі ў залежнасць. Гэта адбывалася рознымі шляхамі. Напрыклад, у сувязі з неўраджаем земляроб мог звярнуцца да багатага чалавека і ўзяць у таго ку́пу (пазыку). Такі чалавек называўся *за́купам*. Калі ён аказваўся няздольным аддаць пазыку, то станавіўся залежным на ўсё жыццё.




? *Абапіраючыся на схемы на с. 118—119, раскажыце, з якіх катэгорый складалася тагачаснае насельніцтва.*

*На падставе картасхемы «Гарады і прырода беларускіх зямель» на 1-м форзацы высветліце, якія беларускія гарады ўзніклі ў X, XI, XII і XIII стст.*

### 4. Як узніклі першыя гарады?

Гарады ўзнікалі на пэўным этапе развіцця грамадства, найперш калі фарміравалася дзяржаўнасць.

Іншаземцаў, якія наведвалі нашыя землі ў Сярэднявеччы, заўсёды здзіўляла вялікая колькасць гарадоў. Самым старажытным беларускім горадам з'яўляецца Полацк. Упершыню ён згадваецца ў 862 г.


152—153

Слова «горад» паходзіць ад слоў «гарадзіць», «абгароджваць», што тлумачыць яго галоўную задачу — быць сховішчам для людзей. Першапачаткова гэта і было ўмацаванае паселішча. З цягам часу гарады занялі важнае месца і ў гаспадарцы, і ў грамадскім жыцці перыяду Сярэднявечча.

| Шляхі ўзнікнення гарадоў |
| --- |
| з крэпасцяў |
| з племянных цэнтраў |
| на гандлёвым шляху |
| з пунктаў збору даніны |
| па рашэнні князя |

*З дапамогай схемы раскажыце пра шляхі ўзнікнення гарадоў.*







▲ Будаўніцтва старажытнарускага горада. Мастак *Гурый Барысевіч*

*Як вы думаеце, у чым вартасці і недахопы драўляных абарончых збудаванняў?*



▲ Камянец. Мастак *Павел Татарнікаў*

*Як вы думаеце, колькі чалавек маглі стала пражываць у такім горадзе? Чым была абмежавана іх колькасць?*




*З дапамогай схемы раскажыце пра паходжанне назваў беларускіх гарадоў.*



З ракой звязана і назва старажытнага Прапойска (Прапошаска, Прупоя, зараз — Слаўгарада). Горад быў пабудаваны каля месца, дзе зліваюцца рэкі Проня і Сож. У гэтым месцы ўтварыўся моцны вір (водаварот). На старажытнарускай мове «вір» гучала як «прупой». Адсюль і назва горада.

*Ці ведаеце вы, ад чаго паходзіць назва населенага пункта, у якім вы жывяце?*



153—155

## 5. Гарадскія рамёствы і гандаль.



▲ Скарб, знойдзены каля вёскі Вішчын Рагачоўскага раёна. У ім былі кіеўскія, наўгародскія і літоўскія срэбныя зліткі

У гарадах жылі найлепшыя майстры-рамеснікі. Тут яны маглі атрымаць заказ ад багатых людзей і прадаць сваю прадукцыю на таргу. У сваёй працы рамеснікі дасягалі вялікага майстэрства. Вырабы з жалеза (напрыклад, замкí), са срэбра і косці карысталіся попытам нават у Заходняй Еўропе. У гарадах развіваліся шматлікія рамёствы. З іх найвышэйшага ўзроўню дасягнулі кавальскае, ювелірнае, ганчарнае, гарбарнае (апрацоўка шкур), шавецкае і бандарнае (выраб бочак).



142—149

Праз тэрыторыю Беларусі праходзілі важныя гандлёвыя шляхі. Яны звязвалі нашы землі з краінамі Усходу, Паўночнай і Заходняй Еўропы. Гандлем займаліся купцы. Тых, хто гандляваў з замежжам, называлі *гасцямі*. Акрамя рамеснай прадукцыі яны вывозілі таксама футра, мёд, воск, смалу, лён. Гэтыя



◀ Гандаль усходніх славян

**?** *Чым гандлявалі ўсходнія славяне?*



Падчас раскопак у Брэсце былі знойдзены прычарнаморскія амфары, кіеўскія шкляныя бранзалеты, прыбалтыйскія фібулы (зашпількі) і бурштын, мазавецкае скроневае кольца, прывазны свінец. Гэта сведчыць аб шырокіх гандлёвых сувязях беларускіх зямель. У Ваўкавыску знойдзены нават косці паўліна, які забаўляў знатных людзей у XII ст. Яго прывезлі з вельмі далёкіх ад Беларусі краін Усходу — з вострава Цэйлон ці Суматра.

*Пра якія цікавыя знаходкі ў гарадах Панямоння вы даведаліся з § 11?*

*З дапамогай картасхемы «Гарады і прырода беларускіх зямель» на 1-м форзацы высветліце, якія гандлёвыя шляхі праходзілі праз вашу мясцовасць. Выкажыце свае меркаванні наконт таго, якія тавары правозіліся па гэтых шляхах.*

прадукты маглі быць атрыманы ў якасці даніны з насельніцтва. Таварам былі і рабы.

У сваю чаргу, купцы з заходнееўрапейскіх гарадоў, Візантыі, краін Усходу прывозілі дарагія тканіны, шкляны і фаянсавы посуд. А ў вялікіх гліняных пасудзінах — амфарах — дастаўляліся віно і аліўкавы алей. Іх спажыўцамі былі найбольш багатыя і знатныя людзі.

Для ажыццяўлення гандлю патрэбны былі грошы. Сваіх манет у Полацкім і Тураўскім княствах не чаканілі. Таму выкарыстоўваліся

| | | |
|---|---|---|
| **IX—X стст.** | **Дырхемы** | **манеты з Арабскага халіфата (дзяржавы)** |
| **Канец X—XI ст.** | **Дэнарыі** | **германскія ці англійскія манеты, пазней — чэшскія, венгерскія, французскія, італьянскія** |
| **XII—XIII стст.** | **«Безманетны перыяд»** | **выкарыстанне шкурак пушных звяроў; грашовыя і вагавыя адзінкі — грыўні** |

▲ Перыяды ў грашовым абарачэнні на тэрыторыі Беларусі

? *Як вы думаеце, чаму адбываліся змены ў абарачэнні манет?*

*Складзіце ў сшытку табліцу «Знешні гандаль усходнеславянскіх гарадоў», у якой пазначце тавары, што ўвозіліся і вывозіліся.*

іншаземныя грошы — арабскія ці заходнееўрапейскія. Пазней у якасці грошай сталі ўжывацца шкуркі пушных звяроў.






? *З дапамогай схемы раскажыце пра ролю гарадоў у жыцці сярэднявечнага чалавека.*



Такім чынам, на беларускіх землях толькі з другой паловы XII ст. адбывалася станаўленне феадальнага ладу. Аднак развіццё феадальных адносін яшчэ доўгі час спалучалася з існаваннем рабскай залежнасці. Вельмі важнае месца ў развіцці тагачаснага грамадства займалі гарады. Менавіта ў іх жылі князі і найлепшыя рамеснікі. Гарады былі добра ўмацаваны, у іх знаходзіліся і буйныя храмы.

**1.** Назавіце гаспадарчыя заняткі, што былі распаўсюджаны сярод насельніцтва беларускіх зямель.
**2.** Што такое даніна? Як яна збіралася?
**3.** У чым выяўляліся феадальныя адносіны на беларускіх землях у Высокім сярэднявеччы?
**4.** Якімі шляхамі ўзнікалі гарады ўсходніх славян? Чаму аб заснаванні старажытных гарадоў пісалі «зрубілі горад»?
**5.** Як былі звязаны гарадскія рамёствы з развіццём гандлю?
**6.** Раскажыце пра асаблівасці грашовага абарачэння на беларускіх землях у Высокім сярэднявеччы.
**7*.** Як вы думаеце, чаму феадальныя адносіны ва Усходняй Еўропе ўзніклі позна і былі неразвітымі?
**8*.** Параўнайце, чым сучасныя беларускія гарады адрозніваюцца ад сярэднявечных.

## § 14. Хрысціянізацыя беларускіх зямель



*1. Калі ўзнікла хрысціянства? Чаму гэта рэлігія атрымала такую назву?*
*2. Якімі былі рэлігійныя ўяўленні ўсходніх славян да прыняцця хрысціянства?*



Як вы ведаеце, усходнія славяне ў пачатку сваёй гісторыі былі язычнікамі. Аднак з канца X ст. адбыліся важныя змены: Русь прыняла хрысціянства. Яно хутка пашырылася і на сучасных беларускіх землях. Што спрыяла прыняццю хрысціянства? Якія наступствы былі ў гэтай падзеі?

**1. Прычыны прыняцця хрысціянства.** Язычніцтва мела глыбокія карані на славянскіх землях. Яно давала адказы на асноўныя пытанні, якія хвалявалі чалавека. Язычніцкія міфы тлумачылі паходжанне свету, людзей, розных прыродных з'яў і г. д. Але паступова язычніцкі светапогляд перастаў адпавядаць патрабаванням грамадства. Язычніцтва не было адзінай рэлігіяй: у кожнага саюзу плямёнаў былі свае галоўныя багі. У агульнай дзяржаве такое становішча не магло доўга захоўвацца. Патрабаваліся і новыя пісьмовыя законы, якія б зацвярджалі каштоўнасць чалавечага жыцця.



▲ Крыж з выявай князя Глеба, які трымае Сафійскі сабор. XII ст.

Ужо з часоў рассялення ва Усходняй Еўропе славяне былі знаёмы з хрысціянствам. Яны падтрымлівалі цесныя сувязі з найбуйнейшай хрысціянскай краінай — Візантыяй. Дзякуючы дзейнасці вялікіх асветнікаў Кірылы і Мяфодзія з'явілася славянская азбука. На стараславянскую мову былі перакладзены свяшчэнныя кнігі.

Хрысціянства прапаноўвала больш ясныя адказы на пытанні аб узаемаадносінах грамадства і князя. Хрысціянская вера замацоўвала аўтарытэт дзяржаўнай улады. Яна давала разуменне таго, што ўлада дадзена ад Бога і да яе

**ПРЫЧЫНЫ ПРЫНЯЦЦЯ ХРЫСЦІЯНСТВА**

| УНУТРАНЫЯ | ЗНЕШНІЯ |
|---|---|
| • аб’яднанне разрозненых плямёнаў;<br>• умацаванне княжацкай улады;<br>• апраўданне і замацаванне становішча, што існавала ў грамадстве;<br>• адмаўленне ад старых звычаяў (кроўнай помсты і інш.);<br>• замацаванне пазіцый хрысціян ва ўсходнеславянскім грамадстве (з’явіліся свае хрысціяне, у тым ліку князі) | • рост аўтарытэту Русі сярод іншых хрысціянскіх краін;<br>• наладжванне эканамічных сувязяў з Візантыяй і іншымі краінамі;<br>• магчымасць запазычання культурных дасягненняў;<br>• наяўнасць пісьменнасці на славянскай мове (у Балгарыі) |

? *З дапамогай тэксту параграфа і схемы растлумачце асноўныя прычыны прыняцця хрысціянства ў Старажытнай Русі.*

трэба ставіцца з павагай. Той, хто ёю валодае, нясе большую адказнасць перад Усявышнім.

Пранікненне хрысціянства на землі ўсходніх славян пачалося яшчэ да стварэння дзяржавы. Найбольш важнай падзеяй стала прыняцце хрысціянства кіеўскім князем Уладзімірам у 988 г. Ён паслужыў прыкладам для сваіх падданых. З гэтага часу Старажытная Русь афіцыйна стала хрысціянскай дзяржавай.

**2. Першыя хрысціяне на беларускіх землях.** Пра імёны першых хрысціян беларускіх зямель мы ніколі не даведаемся. Гэта маглі быць скандынаўскія воіны, якія служылі ў Візантыі і пасля прыйшлі на землі Полаччыны ці Тураўшчыны, або хрысціяне з акружэння іншаземных нявест мясцовых князёў.

Між тым у гісторыі захаваліся імёны першых хрысціян — прадстаўнікоў княжацкай сям'і, якія найбольш садзейнічалі пашырэнню хрысціянства. У Полацкім княстве гэта былі Рагнеда і яе сын Ізяслаў. Летапіс сведчыць, што Рагнеда перад смерцю пастрыглася ў манахіні пад імем Анастасія. З летапісу вядома таксама, што і князь Ізяслаў быў вельмі набожным і старанна чытаў царкоўныя кнігі.

Прынящце хрысціянства ў якасці дзяржаўнай рэлігіі ўсходніх славян запатрабавала стварэння царкоўнай арганізацыі. Была ўтворана *мітраполія* з цэнтрам у Кіеве. Яна з'яўлялася часткай Грэчаскай царквы. На чале мітраполіі стаяў мітрапаліт. Ён прызначаўся канстанцінопальскім патрыярхам. Мітраполія падзялялася на *епархіі*, якімі кіравалі *епіскапы*. Да пачатку XIII ст. на Русі было створана 16 епархій, у тым ліку Полацкая і Тураўская. У Полацку епархія ўзнікла **каля 992 г.** Імёны першых полацкіх епіскапаў засталіся невядомымі. Толькі ў пачатку XII ст. узгадваецца полацкі епіскап Міна. Епархія ў Тураўскім княстве была заснавана ў **1005 г.** Першым яе епіскапам называецца Фама.


18




**3. Язычніцтва і хрысціянства.** З канца X ст. хрысціянства хутка пашырылася сярод усходніх славян. Пра поспехі хрысціянізацыі сведчыла шырокае будаўніцтва цэркваў і манастыроў. Толькі мураваных цэркваў у Полацку ў XII ст. налічвалася не менш за дзесяць. Намнога больш было драўляных цэркваў.


164—167


*Чаму нельга дакладна сказаць, колькі было драўляных цэркваў?*

Аднак пераканаць нядаўніх язычнікаў адмовіцца ад веры сваіх продкаў было няпроста. Не да кожнага чалавека, асабліва ў глухіх лясных краях, мог дайсці добра адукаваны прапаведнік. Патрэбны быў час, каб стварыць школы для падрыхтоўкі святароў.

Многія людзі працягвалі адзначаць язычніцкія святы і нават патаемна маліцца старым багам. Яшчэ шмат гадоў пасля хрышчэння Русі з'яўляліся язычніцкія вешчуны. Усіх незадаволеных яны заклікалі вярнуцца да ранейшай веры. Таму лічыцца, што доўгі час пасля прыняцця хрысціянства на беларускіх землях існавала *дваяверства*.



▲ Хрысціянства і язычніцтва. Мастак *Сяргей Іванаў*

*Як вы думаеце, хто перамог у гэтым супрацьстаянні?*

**4. Рэлігійна-асветніцкія дзеячы.** Пашырэнне хрысціянства на беларускіх землях з цягам часу прынесла свой плён. З'явіліся асветнікі, жыццё якіх было сапраўдным узорам хрысціянскага жыцця. Сярод іх найбольш вядомымі сталі Ефрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі.


167—175


**Ефрасіння Полацкая** (пры нараджэнні — Прадслава) паходзіла з княжацкай сям'і. Яна была ўнучкай знакамітага Усяслава Полацкага. Князёўна павінна была выйсці замуж, каб замацаваць які-небудзь палітычны саюз свайго бацькі. Але яна абрала іншы шлях: прыняла пострыг у жаночым манастыры.

Княжацкае паходжанне дазволіла Ефрасінні актыўна займацца асветніцкай дзейнасцю. Яна заснавала два манастыры і садзейнічала пабудове дзвюх мураваных цэркваў — у імя Святога Спаса і ў гонар Багародзіцы. У келлі пры Полацкім Сафійскім саборы асветніца перапісвала кнігі. Магчыма таксама, што яна стварыла школу для навучання грамаце. Сваё жыццё яна скончыла падчас падарожжа ў Іеру-



▲ Фрэска XII ст. са Спаса-Праабражэнскай царквы



«Спас» (ад рускага слова «Спаситель») абазначае самога Ісуса Хрыста. Менавіта Спаса-Праабражэнскай царкве Ефрасіння падаравала вельмі каштоўны, вядомы ва ўсім свеце крыж. Сама царква знаходзілася ў жаночым Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры. Сюды па просьбе вернікаў Полацкага павета ў 1910 г. былі перанесены з Кіева мошчы святой. Яшчэ адзін выдатны твор мастацтва — ікону Багародзіцы, якая была прывезена з далёкай Візантыі, — Ефрасіння падаравала царкве Святой Багародзіцы.

*Даведайцеся, ці захаваліся згаданыя цэрквы да нашых дзён.*



▲ Ефрасіння Полацкая. Мастак *Наталля Клімава*



◀ Пячатка Ефрасінні Полацкай, знойдзеная падчас раскопак у Полацку ў 2015 г.

*Пра што сведчыць наяўнасць у Ефрасінні сваёй пячаткі?*



▲ Першая старонка «Слова» Кірылы Тураўскага

салім у 1167 г. Святую Ефрасінню вернікі лічаць заступніцай беларускай зямлі.

**Кірыла Тураўскі** яшчэ пры жыцці набыў вядомасць як выдатны пісьменнік і прамоўца. Кірыла пакінуў вялікую літаратурную спадчыну: ім напісаны «Словы» (казанні) на некаторыя вялікія царкоўныя святы, павучанні, малітвы, каноны. Яны шмат разоў перапісваліся нароўні з творамі візантыйскіх багасловаў. Як і Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі стаў адным з найбольш шанаваных святых Беларусі.



Пра жыццё Кірылы, які нарадзіўся каля 1113 г. (па іншай версіі, у 1130-я гг.) у Тураве, вядома няшмат. У «Жыціі» Кірылы распавядаецца: «Сын заможных бацькоў, ён не любіў, аднак, багацця і тленнай славы гэтага свету, але найперш стараўся спасцігнуць вучэнне боскіх кніг і добра напрактыкаваўся ў святых пісаннях». Ён прыняў манаскі пострыг, а пасля стаў першым вядомым на Русі «стоўпнікам» (зачыніўся ў манастырскай вежы, каб цалкам аддацца роздуму і малітвам). Вядома, што ў 1169 г. Кірыла па просьбе князя і гараджан быў вылучаны на пасаду тураўскага епіскапа.

*Як вы думаеце, ці жадаў сам Кірыла заняць месца епіскапа?*

*Даведайцеся, калі ў вашай мясцовасці былі пабудаваны першыя цэрквы і заснаваны першыя манастыры, да якой епархіі належыць ваш населены пункт.*

**5. Вынікі і значэнне пашырэння хрысціянства.** Хрысціянства значна змяніла ўсходнеславянскае грамадства. Людзі пачалі імкнуцца да выратавання сваёй бессмяротнай душы. Для гэтага ім трэба было выконваць царкоўныя запаведзі і не рабіць кепскіх учынкаў. Хрысціянства заклікала чалавека жыць па прынцыпе «не рабі бліжняму таго, чаго не жадаеш сабе». Гэта садзейнічала ўсталяванню добрых адносін паміж людзьмі.

Хрысціянскае веравучэнне патрабавала ад чалавека цярпліва зносіць пакуты зямнога жыцця. Лічылася, што гэтыя выпрабаванні дадзены суразмерна чалавечым магчымасцям. Хрысціянская царква забараняла




*З дапамогай схемы распавядзіце пра наступствы прыняцця хрысціянства ўсходнімі славянамі.*

ахвярапрынашэнні жывёл і чалавека, што здаралася ў язычнікаў. Паступова адыходзілі ў мінулае кроўная помста, мнагажонства.

Прыняцце хрысціянства аказала значны ўплыў на развіццё культуры беларускіх зямель. Дзякуючы яму з'явіліся *мураванае дойлідства*, іканапіс, фрэскавы жывапіс. Пасля хрышчэння тут распаўсюдзілася пісьменнасць на старaславянскай мове. Праз пасрэдніцтва Візантыі ўсходнія славяне змаглі дакрануцца да здабыткаў антычнай культуры.



Пад уздзеяннем шэрагу вельмі грунтоўных прычын нашы продкі прынялі хрысціянства. Хрысціянскае веравызнанне значна змяніла аблічча тагачаснага грамадства і стала неадʼемнай рысай беларускага этнасу (народа).



**1.** Як і калі хрысціянская вера пранікла на беларускія землі?
**2.** Колькі царкоўных епархій было створана на беларускіх землях? Назавіце іх.
**3.** Хто былі першыя хрысціяне ў Полацкім княстве?
**4.** Якія адносіны склаліся паміж язычніцтвам і хрысціянствам?
**5.** Чым вядомыя Ефрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі?
**6.** Складзіце паведамленні пра беларускую святую, асветніцу Ефрасінню Полацкую і пра дзейнасць Кірылы Тураўскага.
**7.** Якія вынікі і значэнне мела пашырэнне хрысціянства на беларускіх землях?
**8*.** Паразважайце, ці маглі ўсходнія славяне і надалей заставацца язычнікамі.



**З аповесці пра Ефрасінню Полацкую**

«...і кожны дзень навучала сёстраў (манашак) сваіх: старых вучыла цярпенню і ўстрыманню, юных — душэўнай чысціні і цялеснаму супакаенню... пры старэйшых маўчаць, мудрых слухаць, да старэйшых — пакоры, да роўных і меншых — любові некрывадушнай, мала казаць, а больш разумець. І не хацела яна бачыць, каб хто варагаваў: ні князь з князем, ні баярын з баярынам, ні з простых хто са сваім сябрам, але ўсіх жадала бачыць аднадушнымі...»

*Што жадала бачыць у іншых людзях Ефрасіння Полацкая?*

## § 15. Культура беларускіх зямель



*1. З якіх частак складаліся гарады ўсходніх славян Высокага сярэднявечча?*

*2. Што такое фрэска і мазаіка?*

*3. Хто стварыў славянскую азбуку і паклаў пачатак славянскай пісьменнасці?*



Да нашага часу дайшло няшмат прыкладаў старажытнарускага мастацтва. Шматлікія войны, якія смяротнымі хвалямі праходзілі па беларускіх землях, знішчылі здабыткі культуры нашых продкаў. Аднак і тое, што засталося, уражвае сваім высокім узроўнем. Археолагі знайшлі і сведчанні шырокага распаўсюджання пісьменнасці сярод насельніцтва. Што гэта за сведчанні? Якія асаблівасці мелі дойлідства і мастацтва ў той час?

**1. Забудова гарадоў.** Драўляная архітэктура надавала непаўторнае аблічча гарадам усходніх славян. Галоўнай асаблівасцю сярэднявечных гарадоў былі ўмацаванні, якія абкружалі іх з усіх бакоў. Найбольш надзейна ўмацоўваўся дзядзінец. Ён выглядаў як маленькі горад у вялікім. Умацаваннямі служылі сцены, вежы і равы. Гарадскія сцены складаліся з драўляных зрубаў, прыстаўленых адзін да аднаго. Яны ўтваралі кальцо ўмацаванняў. Унутры зрубы запаўняліся зямлёй.

Галоўнымі вузламі абароны былі вежы. Вежы сярэднявечных гарадоў падзяляліся на брамныя і вартаўнічыя (дазорныя). Таксама вежы маглі стаяць асобна ад сцен і будавацца з камянёў ці цэглы. Такая вежа была ўзведзена ў Берасці і пазней у Камянцы.



У горад вялі ўмацаваныя брамы. Іх колькасць залежала ад даўжыні сцен. Звычайна да брамаў праз вал перакідваліся масты. У летапісах згадваецца, што масты перад брамамі былі «перамётнымі», гэта значыць пад'ёмнымі. Галоўная брама горада называлася залатой, а другая па важнасці — срэбнай. Праз залатую браму заязджалі самыя ганаровыя госці, праз яе ж імкнуліся ўварвацца ў горад і ворагі.

Асноўная частка горада падзялялася на двары. Двары складаліся з жылых і гаспадарчых пабудоў, якія належалі аднаму гаспадару. У буйны́х гарадах будаваліся і гандлёвыя падвор'і купецкіх аб'яднанняў. У цэнтры большасці гарадоў у перыяд раздробленасці з'явіліся княжацкія палацы. У галоўных гарадах княстваў можна было таксама знайсці мытню, стражышча (дом для варты), «поруб» (турму). На рынкавай плошчы стаялі гандлёвыя крамы і корчмы. Найбольш велічнымі збудаваннямі ў гарадах былі рэлігійныя пабудовы — цэрквы.

**2. Мураванае дойлідства і мастацтва.** Першыя хрысціянскія цэрквы на беларускай зямлі будаваліся з дрэва. Часта іх ставілі на месцы былых язычніцкіх свяцілішчаў. З цягам часу ва ўсходнеславянскіх гарадах з'явіліся і мураваныя цэрквы. Мураванае дойлідства — гэта ўзвядзенне будынкаў з каменю і цэглы, змацаваных вапнавым растворам.

*Хто ў той час быў князем у Полацку?*

Самы старажытны прыклад мураванага дойлідства на тэрыторыі Беларусі — Полацкі Сафійскі сабор. Ён быў узведзены ў 50-х гг. XI ст. — у часы росквіту Полацкай зямлі. Гэта быў трэці, пасля кіеўскага і наўгародскага, храм у землях усходніх славян, прысвечаны Сафіі. «Сафія» азначае мудрасць Бога — творцы ўсяго існага. Сабор меў і грамадска-палітычнае значэнне: тут захоўваліся архіў, бібліятэка, дзяржаўная казна.


176—178

*Як вы думаеце, чаму казну захоўвалі менавіта ў саборы?*

У час палітычнай раздробленасці на беларускіх землях вылучыліся полацкая і гродзенская архітэктурныя школы. У іх выяўляліся мясцовыя традыцыі, уплывы суседніх краін,



У Высокім сярэднявеччы сабор меў пяць або сем купалоў. Ён адрозніваўся ад Сафійскіх сабораў у Кіеве і Ноўгарадзе, хаця, магчыма, яго будавалі тыя ж майстры. Іх імёны вядомы. У самой Полацкай Сафіі падчас раскопак археолагі знайшлі ў падмурку вялікі камень. На ім былі надрапаны імёны: Давыд, Тума, Мікула, Пётр і інш.

▶ Рэшткі падмурка Сафійскага сабора. Сучасны выгляд



густы замоўцы або творчая манера галоўнага майстра-дойліда. З полацкіх цэркваў да нашых дзён захавалася Спаская царква. Яна была збудавана па замове Ефрасінні Полацкай для заснаванага ёю жаночага манастыра. Будаўніцтвам царквы кіраваў дойлід Іаан (Іван). Усярэдзіне царква ўпрыгожана ўнікальнымі


178—179



▲ Спаса-Праабражэнская царква ў Полацку. Сучасны выгляд



▲ Барысаглебская (Каложская) царква ў Гродне



Аднакупальнай Спаса-Праабражэнскай царкве дойлід Іаан надаў ярусны вежападобны выгляд. Іншай яе асаблівасцю былі так званыя какошнікі, якія аздаблялі вежу купала. Какошнікі ўпершыню ва ўсім усходнеславянскім свеце з'явіліся на Спаса-Ефрасіннеўскай царкве. Гэты новы тып будынкаў — адметная рыса полацкай архітэктурнай школы.

*Як вы разумееце выраз «архітэктурная школа»?*

фрэскамі, якія амаль цалкам захаваліся з тых часоў. Фрэскі Спаса-Ефрасіннеўскай царквы з'яўляюцца найлепшым узорам старажытнабеларускага жывапісу полацкага перыяду.

Іншы выдатны помнік дойлідства XII ст. — Барысаглебская (у гонар святых Барыса і Глеба) царква ў Гродне. Часцей яе называюць Каложскай царквой, таму што яна была пабудавана ў прадмесці Каложа. Каложская царква — найбольш яркі прыклад гродзенскай архітэктурнай школы. Падобных цэркваў у іншых мясцінах не знойдзена.

Высокага ўзроўню дасягнула на беларускіх землях выяўленчае мастацтва. Яно было прадстаўлена не толькі фрэскамі, але і кніжнымі мініяцюрамі. Пра ўзровень развіцця мастацтва на беларускіх землях сведчаць маленькія іконкі-абразы, крыжы-энкалпіёны, усярэдзіну якіх змяшчаліся святыні.




*Дапоўніце (вусна ці пісьмова ў сшытку) табліцу.*


Звонку сцены Барысаглебскай царквы ў Гродне аздоблены камянямі розных колераў: чырвонымі, карычневымі, шэра-зялёнымі і інш. Часцей за ўсё яны выкладзены ў форме крыжа. Добра адшліфаваныя камяні блішчаць на сонцы. Унутры ў сцены былі ўмураваны гліняныя збаны-галаснікі. Дзякуючы ім у царкве лепш гучаў голас святара. Таксама на сцены былі нанесены фрэскі. Падлога царквы была ўпрыгожана складаным узорам з маёлікавай пліткі.

*Як вы думаеце, чаму ў тыя часы вялікая ўвага надавалася ўпрыгожванню цэркваў?*

Найвышэйшым узорам *дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва* на беларускіх землях з’яўляецца крыж, выкананы майстрам Лазарам Богшам па замове Ефрасінні Полацкай.



▲ Крыж Ефрасінні Полацкай



▲ Фрэска Спаса-Праабражэнскай царквы. Каля 1140 г.







180—181

Крыж Ефрасінні Полацкай быў зроблены ў 1161 г. майстрам-ювелірам Богшам (у хрышчэнні — Лазар). Для ўпрыгожання крыжа майстар выкарыстаў разнастайныя ювелірныя тэхнікі. Паверхню крыжа ён багата аздобіў каштоўнымі камянямі, па ўсім краі былі замацаваны жамчужыны. Эмаллю на залатых пласцінах крыжа нанесены невялікія выявы Ісуса Хрыста, Божай Маці, Іаана Прадцечы (Хрысціцеля), архангелаў, евангелістаў, іншых святых. На бакавых тарцах шасціканцовага крыжа быў зроблены надпіс, які засцерагаў ад яго крадзяжу. Гэты найкаштоўнейшы помнік нашай гісторыі не ўдалося захаваць. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны крыж знік з Магілёўскага краязнаўчага музея, і яго лёс дагэтуль невядомы. У канцы XX ст. майстар-ювелір з Брэста Мікалай Кузьміч зрабіў копію крыжа. Як і арыгінал, копія была размешчана ў Спаса-Праабражэнскай царкве Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра.

*Выкарыстоўваючы дадатковы матэрыял, даведайцеся пра лёс крыжа ў Сярэднявеччы і ў Новы час.*




? *З дапамогай схемы высветліце, якія прыклады сведчаць аб высокім узроўні развіцця мастацтва ў XI—XIII стст.*

**3. Пісьменнасць.** Пасля прыняцця хрысціянства на беларускіх землях атрымала шырокае распаўсюджанне кірылічнае пісьмо. Да гэтага часу на славянскую мову былі перакладзены свяшчэнныя кнігі.

Па адной з кніг Бібліі — Псалтыры — звычайна вучыліся грамаце. Але ўмець пісаць і чытаць патрэбна было не толькі ў рэлігійных мэтах. Пісьмом у сваёй дзейнасці карысталіся гандляры і рамеснікі, зборшчыкі даніны і суддзі, а таксама простыя людзі ў паўсядзённых справах.

Пісьменнасць была добра вядома ў Полацкай зямлі ў XI ст. Сведчаннем таму з'яўляюцца знойдзеныя надпісы. Яны рабіліся на княжацкіх пячатках, буйны́х камянях — валунах, сценах цэркваў, прасліцах, амфарах. Падчас раскопак у Брэсце быў знойдзены драўляны грэбень, на якім былі выдрапаны літары ад «А» да «Л». Пэўна, грэбень выконваў ролю «азбукі».



▲ Грэбень з алфавітам. Берасце

? *Як вы думаеце, чаму людзі таго часу часта змяшчалі алфавіт на паўсядзённых рэчах?*

**4. Помнікі пісьменства.** Да нашага часу дайшло няшмат сведчанняў ведання нашымі продкамі граматы. Найлепш захаваліся надпісы, зробленыя на трывалым прыродным матэрыяле — камянях. На поўначы Беларусі ў рэ-



▲ Барысаў камень з ваколіц Друі. Малюнак *Аляксея Сапунова*. 1896 г.



▲ Старонкі Тураўскага евангелля

? *Чаму на старонках старажытных кніг немагчыма знайсці зусім аднолькавыя літары?*

чышчы Заходняй Дзвіны яшчэ з часоў адыходу ледавіка знаходзіліся вялікія валуны. На іх у XII ст. былі высечаны крыжы і аднолькавы надпіс: «Господи, помози рабу своему Борису». Адсюль назва: *Барысавы камяні*. Напэўна, надпісы былі зроблены па загадзе полацкага князя Барыса Усяславіча. Вучоныя мяркуюць, што князь звяртаўся да Бога, каб той даў добры ўраджай пасля галоднай зімы.



181—184

Найбольш каштоўнымі помнікамі сярэднявечнай пісьменнасці з'яўляюцца кнігі. Самая старажытная кніга з беларускіх зямель, якая захавалася да нашых дзён, — *Тураўскае евангелле* XI ст.



Нашы продкі не толькі перапісвалі свяшчэнныя кнігі, але складалі і свае творы. Найбольшую каштоўнасць для гісторыі маюць летапісы. Магчыма, летапіс складаўся ў Полацку. Аднак да нашага часу летапісаў Высокага сярэднявечча з беларускіх зямель не захавалася. Мноства твораў павучальнага зместу напісаў Кірыла Тураўскі. Яны шмат разоў перапісваліся, уключаліся ў розныя зборнікі. Дзякуючы гэтаму зараз нам вядомы каля 70 ягоных твораў. Хутка пасля смерці Кірылы Тураўскага і Ефрасінні Полацкай былі складзены аповесці пра іх жыццё і служэнне Богу. Гэтыя творы — жыціі — даказвалі святасць таго, каму былі прысвечаны.

Безумоўным сведчаннем высокага ўзроўню адукаванасці насельніцтва з'яўляюцца ***берасцяныя граматы***. Гэтыя лісты на бяросце (кары бярозы) паказвалі штодзённае жыццё людзей Сярэднявечча. У іх людзі пісалі пра свае гаспадарчыя, гандлёвыя, сямейныя справы, пра збор падаткаў, занатоўвалі пазыкі, звярталіся да ўладаў,



**Берасцяная грамата з Віцебска (канец XIII ст.)**

«Ад Сцяпана да Няжылы. Калі ты прадаў адзенне, купі мне ячменю на 6 грыўняў. А калі чаго яшчэ не прадаў, то прышлі мне гэтыя рэчы. Калі ж прадаў, то, будзь ласкавы, купі мне ячменю».

*Паразважайце, кім маглі быць людзі, якія вялі перапіску.*



▲ Берасцяная грамата з Віцебска. Канец XIII ст.

? *Падумайце, чаму ўсходнія славяне ў Сярэднявеччы выкарыстоўвалі для пісання бярoсту, а не больш звыклыя для нас зараз матэрыялы.*

практыкаваліся ў пісанні і нават рабілі малюнкі. На тэрыторыі Беларусі знойдзена тры берасцяныя граматы: адна ў Віцебску і дзве ў Мсціславе. Найбольш старажытная грамата з Мсціслава адносіцца да першай паловы XII ст. Акрамя бяросты насельніцтва беларускіх зямель пісала на пакрытых воскам таблічках. Для гэтага выкарыстоўваліся спецыяльныя завостраныя палачкі — стыласы.

! Такім чынам, насельніцтва беларускіх зямель у Высокім сярэднявеччы стварыла своеасаблівую культуру высокага ўзроўню. Нешматлікія помнікі гэтай культуры захаваліся да нашага часу. Старадаўнія майстры пакінулі нашчадкам непаўторныя архітэктурныя помнікі, выдатныя жывапісныя творы і шэдэўры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Гэтая спадчына сведчыць аб таленце і майстэрстве нашых продкаў.



1. Назавіце галоўныя асаблівасці забудовы гарадоў Высокага сярэднявечча на тэрыторыі Беларусі.
2. Што такое мураванае дойлідства? Назавіце прыклады перыяду Высокага сярэднявечча.
3. Прывядзіце прыклады пабудоў полацкай і гродзенскай архітэктурных школ. У чым іх асаблівасці?

4. Чым было прадстаўлена мастацтва беларускіх зямель Высокага сярэднявечча?
5. Якімі ўзорамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ганарыцца Беларусь?
6. У чым асаблівасці пашырэння пісьменнасці на тэрыторыі Беларусі? Дакажыце на канкрэтных прыкладах, што на беларускіх землях ужо з XI ст. была распаўсюджана пісьменнасць.
7*. Як вы думаеце, чаму на тэрыторыі Беларусі ад часу Высокага сярэднявечча захавалася няшмат помнікаў культуры ў параўнанні з Заходняй Еўропай?

## § 16. Паўсядзённае жыццё нашых продкаў



*1. Хто належаў да заможнага пласта насельніцтва Старажытнай Русі?*
*2. Што ўяўляла сабой дружына і апалчэнне ўсходніх славян?*



Жыццё насельніцтва беларускіх зямель у Высокім сярэднявеччы, вядома, адрознівалася ад сучаснага. Тым не менш і тады людзей непакоілі зразумелыя для нас праблемы: як знайсці ежу і стварыць добрыя, камфортныя ўмовы жыцця, у што апрануцца і як бавіць вольны час. Як жа вырашаліся гэтыя справы ў далёкім мінулым?



186—187

**1. Што ўяўлялі сабой паселішчы і жытлы нашых продкаў.** Найбольш уплывовым, пануючым пластом тагачаснага грамадства з’яўляліся князі і блізкія да іх людзі — дружыннікі, «княжыя мужы». Аднак асноўную частку насельніцтва складалі простыя абшчыннікі — «людзі». Іх паўсядзённае жыццё моцна адрознівалася ад княскага і баярскага.

Паселішчы сялян былі пераважна невялікімі. Сяляне жылі ў маленькіх драўляных хатах з аднаго памяшкання. Хаты былі курныя, гэта значыць, ацяпляліся глінабітнай печчу без коміна. Яны мелі прамавугольную форму, чатырохсхільную страху (дах), пакрытую саломай або абчасанымі дошкамі. Сцены складваліся з бярвёнаў,



▲ Паўзямлянка.
Рэканструкцыя



▲ Двухпавярховы дом
гараджаніна. Рэканструкцыя

паміж якімі для ўцяплення закладваўся мох. Акенцы ў сценах былі вузенькімі. Яны закрываліся драўлянай заслонкай або зацягваліся бычыным пузыром. Спалі сяляне на лавах ці палацях з дошак.

Жыллё сельскага насельніцтва IX—XIII стст. мала чым адрознівалася ад пабудоў усходніх славян больш ранняга часу. Аднак жытлы гараджан у гэты час былі больш прасторнымі і камфортнымі. Сваімі памерамі, раскошай унутранай аздобы вылучаліся харомы знаці. Разам з хатамі халопаў і рамеснікаў, якія працавалі на баярына, баярскія двары займалі значную тэрыторыю.



◀ Баярскія харомы. Рэканструкцыя

? *Параўнайце жыллё розных пластоў насельніцтва, адлюстраванае на малюнках на гэтай старонцы. У чым можна ўбачыць іх галоўнае адрозненне?*

**2. У што апраналіся і што елі нашы продкі.** Сялянскае адзенне было простым і практычным. Шылі яго з саматканага палатна. Мужчыны насілі доўгія кашулі і порты (штаны). Абуткам служылі лапці з ліпавага лыка (кары), радзей скураныя поршні. У халодны час выкарыстоўваліся суконныя світкі, кажухі, валеныя з воўны або пашытыя з аўчыны шапкі, рукавіцы. Жаночае адзенне было больш разнастайным і прыгожым.

Сяляне харчаваліся пераважна ежай расліннага паходжання. Мясныя стравы спажываліся часцей за ўсё на рэлігійныя і сямейныя святы. Промыслы, якімі займаліся ўсходнія славяне, давалі мёд, рыбу, мяса дзічыны, грыбы, арэхі, ягады. Галоўным прадуктам харчавання быў хлеб. Шырока ўжывалася ў ежу гародніна. Харчаванне багатых людзей было разнастайнейшым. У ім пераважалі мясныя стравы. Да стала знаці падавалі розныя прысмакі і заморскія віны.



▲ Поршань. XII—XIII стст. Гродна



▲ Чаравік. XII—XIII стст. Гродна



▲ Паясы дружынніка і гараджаніна. Заслаўе. X—пачатак XI ст.



◀ Селянін і рамеснік XI—XII стст. Рэканструкцыя *Зінаіды Васінай*

❓ *Апішыце, у што апрануты людзі на малюнку, выкарыстоўваючы старажытныя назвы адзення.*



▲ Павозка

**3. На чым перасоўваліся нашы продкі.** У часы Старажытнай Русі вялікую ролю адыгрываў водны транспарт — чаўны, ладдзі. Па рэках перавозілі даніну і розныя тавары для гандлю, перамяшчаліся войскі і перасяляліся людзі. На шчасце, праз Беларусь працякае мноства буйны́х рэк са шматлікімі прытокамі. Па беларускіх землях праходзіла частка гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі» і адно з яго адгалінаванняў па Заходняй Дзвіне.


187—189

Звычайным сухапутным транспартам былі розныя павозкі (вазы), а ў зімовы час — сані. У вазы запрагалі коней або валоў. Коні выкарыстоўваліся і для верхавой язды.

Вандраванне па дарогах у той далёкі час было складанай справай. Дарогі часта размываліся і ператвараліся ў непралазную гразь. Значныя тэрыторыі займалі лясы і балоты. Цяжка было перайсці праз рэкі. Аднак людзі пракладвалі гаці з бярвёнаў на балотах, рабілі масты праз рэкі. Добраўпарадкаванне дарог з часам зрабілася адной з павіннасцяў насельніцтва.

**4. Ваенная справа і зброя.** Надзвычай вялікая ўвага ў Сярэднявеччы надавалася вайсковай справе. Аснову войска таго часу складалі княжацкія дружыны. Па меры неабходнасці склікалася апалчэнне.

Воіны X ст. Малюнкі *Алега Фёдарава*





*Пералічыце засцерагальную і баявую зброю, якую вы бачыце на малюнках.*



Меч. XIII ст. Могільнік Ашмянец Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці

Узбраенне нашых продкаў было вельмі разнастайнае. Найбольш каштоўнай зброяй у той час быў меч. Выкарыстоўваліся таксама коп'і, баявыя сякеры, больш рэдка — булавы. Як сведчаць крыніцы, вялікага майстэрства дасягнулі воіны Полацкай зямлі ў стральбе з лука.

На працягу X—XIII стст. удасканальвалася засцерагальная зброя: яна станавілася ўсё больш цяжкай і моцнай. Металічныя кальчугі ахоўвалі амаль усё цела. Ваяры карысталіся пласцінкавымі панцырамі, а таксама разнастайнымі шаломамі і шчытамі. Княжацкія дружыннікі звычайна мелі вельмі дарагую і якасную зброю і выступалі ў паход на конях. Сярод воінаў апалчэння прысутнічалі і бедныя. Яны былі пешымі, і іх узбраенне абмяжоўвалася шчытом, сякерай і кап'ём. Некаторыя маглі мець толькі кароткае кідальнае кап'ё — суліцу.

У час бітваў шырока выкарыстоўваліся ваенныя хітрасці: завалы дарог, засады, пасткі, падманныя манеўры войска, высочванні праціўніка і шмат іншага. Пісьмовыя крыніцы сведчаць аб тым, што ўсходнія славяне былі выключна мужнымі воінамі. У бітвах яны вылучаліся стойкасцю, вытрымкай, воінскім братэрствам.








**5. Забавы.** Усе важныя падзеі ў жыцці людзей у тыя часы суправаджаліся спевамі, танцамі, музыкай. Музычныя інструменты былі самыя разнастайныя: духавыя (дудкі, рогі), струнныя (гуслі, смыкі) і ўдарныя (бубны).

Улюбёнай забавай багатых людзей было паляванне. Палявалі з дапамогай сабак і драпежных птушак — ястрабаў і сокалаў, а князі — нават з гепардамі. Пасля палявання яго ўдзельнікі балявалі, частаваліся стравамі з забітай дзічыны.

У час раскопак у Полацку былі выяўлены касцяныя канькі. Знаходка датуецца XII ст. Памеры канькоў сведчаць аб тым, што імі карысталіся дзеці. Дарослыя бавілі час за гульнёй у шашкі і шахматы. Паўсюдна на тэрыторыі Старажытнай Русі археолагі знаходзяць



▶ Ігрышча. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

? *Чыё выступленне адлюстравана на мініяцюры?*



Добра ўмелі граць на розных інструментах старажытнарускія скамарохі. Сваёй музыкай, спевамі і танцамі яны пацяшалі насельніцтва гарадоў і вёсак. Скамарохі таксама былі фокуснікамі, акцёрамі. Яны вадзілі за сабой прыручаных мядзведзяў, пастаянна вандравалі і выступалі на розных святах і таргах.

*Як вы думаеце, чаму царква забараняла выступленні скамарохаў?*

 

шахматныя фігуркі, зробленыя з рогу, дрэва, каменю. Шмат іх знойдзена і на тэрыторыі Беларусі.





▶ Шахматная фігура караля з косці. Слуцк. XII ст.



◀ Каменная шахматная ладдзя. Гродна. XII ст.



Такім чынам, у IX—XIII стст. нашыя продкі шмат працавалі, але знаходзілі час і для розных забаў. Паўсядзённае жыццё і побыт людзей у той час залежалі ад іх становішча ў грамадстве.



1. Што ўяўлялі сабой паселішчы сялян? Як выглядалі жытлы сялян і баяр?
2. Якое было адзенне ў людзей IX—XIII стст.?
3. Чым адрознівалася сялянская ежа ад страў багатых людзей?
4. Якімі відамі транспарту карысталіся нашы продкі?
5. Пералічыце ўзбраенне і ваенныя прыёмы ўсходнеславянскіх воінаў.
6. Як бавілі час нашы продкі ў перыяд Высокага сярэднявечча?
7*. Складзіце расказ пра адзін дзень з жыцця князя, дружынніка, баярына, купца, рамесніка або простага земляроба-абшчынніка.

## Абагульненне

Вы пазнаёміліся з гісторыяй узнікнення першых дзяржаў. З’яўленне дзяржавы — важны этап у развіцці грамадства. Аб’яднаўшыся вакол аднаго кіраўніка, лягчэй было абараняцца ад ворагаў. Акрамя таго, кіраўнік вырашаў канфлікты паміж падданымі, караў злачынцаў.

Працэс стварэння дзяржаўнасці ва ўсходніх славян пачаўся яшчэ да ўзнікнення адзінай Старажытнарускай дзяржавы. Ён выявіўся ва ўтварэнні племянных княжанняў. Найбольш раннім племянным цэнтрам на беларускіх землях стаў Полацк. У далейшым славяне, якія засялялі тэрыторыю Беларусі, апынуліся ў складзе Старажытнарускай дзяржавы. Яе сталіца знаходзілася ў Кіеве. Некаторы час падпарадкоўваліся Кіеву і палачане, і дрыгавічы. Але ўжо ў другой палове X ст. у галоўным горадзе крывічоў-палачан Полацку з'явіўся ўласны князь — Рагвалод. Поўную незалежнасць Полацкае княства набыло пад уладай унука Рагвалода — Ізяслава.

Найвышэйшай магутнасці Полацк дасягнуў у княжанне Усяслава Брачыславіча. Полацкае княства на роўных выступала супраць кіеўскіх князёў, межы яго пашырыліся. Але пасля смерці князя Усяслава Полацкая зямля была падзелена паміж яго сынамі на асобныя княствы-воласці. Гэта прывяло да аслаблення некалі магутнага Полацкага княства. Значна пазней незалежным стала і Тураўскае княства, якое ўзнікла на землях дрыгавічоў.

У перыяд раздробленасці ў Полацкім і Тураўскім княствах існавалі свае асаблівасці ўнутранага кіравання. У Полацку меў уплыў народны сход — веча, а ў Тураве значная ўлада належала пасадніку.

Міжусобіцы і пастаяннае драбленне княжацкіх уладанняў аслаблялі старажытнарускія землі. Усё цяжэй рабілася адбіваць напады знешніх ворагаў. Нямецкія рыцары-крыжакі ў пачатку XIII ст. заваявалі Усходнюю Прыбалтыку. Неўзабаве паўстала яшчэ больш страшная пагроза — манголы.

У перыяд Высокага сярэднявечча на беларускіх землях з'явілася прыватнае землеўладанне. Так пачалося развіццё феадальных адносін. У той жа час былі пабудаваныя гарады, якія існуюць і сёння.

Найбольш важнай падзеяй у гісторыі беларускіх земель было пашырэнне хрысціянства. Гэта аказала глыбокае ўздзеянне на жыццё людзей. У Высокім сярэднявеччы насельніцтва беларускіх земель стварыла самабытную культуру, якая захоўваецца стагоддзямі.

**Заданне 1.** Раскажыце аб падзеях, якія звязаны з наступнымі датамі: 862, 980, 988, 1019, 1067, 1129.

**Заданне 2.** Знайдзіце на картасхемах вучэбнага дапаможніка на с. 75, 78, 88, 106, 108 або атласа на с. 13, 14:

а) межы Полацкага і Тураўскага княстваў;

б) суседзяў Полацкага і Тураўскага княстваў;

в) найбольш старажытныя гарады на тэрыторыі Беларусі (якія згадваюцца ў IX—XI стст.);

г) водны гандлёвы шлях «з варагаў у грэкі» і яго адгалінаванні.

**Заданне 3.** Вызначце прыкладныя назвы тэм, да якіх могуць адносіцца наступныя гістарычныя паняцці:

а) дзяржава, веча, князь;

б) палюддзе, даніна, смерды, чэлядзь, халопы;

в) раздробленасць, княства-воласць, міжусобныя войны;

г) язычніцтва, хрысціянства, жыціе, ікона, евангелле.

**Заданне 4.** Складзіце ў вуснай форме кароткія паведамленні з выкарыстаннем паняццяў, якія даюцца ў дужках:

а) «Збор даніны ў славян» (князь, дружына, палюддзе, даніна);

б) «Сярэднявечны горад» (дзядзінец, пасад, рамяство, гандаль, сабор, торг);

в) «Прыняцце хрысціянства» (язычніцтва, хрысціянства, сабор, царква, евангелле).

**Заданне 5.** Растлумачце лагічныя ланцужкі:

знешняя небяспека → узмацненне княжацкай улады → узнікненне дзяржавы;

размеркаванне князямі сваіх уладанняў паміж сынамі → палітычная раздробленасць;

аслабленне княжацкай улады → узрастанне ролі веча ў Полацкім княстве;

развіццё рамяства і гандлю → узнікненне гарадоў.

**Заданне 6.** Назавіце імёны найбольш вядомых у Высокім Сярэднявеччы на тэрыторыі Беларусі:

а) князёў;

б) епіскапаў;

в) рэлігійных асветнікаў;
г) мастакоў і дойлідаў.





**Заданне 7.** Раскажыце аб наступных гістарычных падзеях і з'явах:
а) бітва на рацэ Нямізе;
б) узнікненне гарадоў;
в) барацьба з крыжакамі;
г) барацьба з манголамі;
д) прыняцце хрысціянства;
е) з'яўленне рукапісных кніг.

**Заданне 8.** Вызначце прычыны:
а) палітычнай раздробленасці;
б) аслаблення ўлады полацкіх князёў у XII ст.;
в) перамог манголаў падчас нашэсця 1237—1241 гг.

**Заданне 9.** Назавіце імёны князёў, якім адпавядаюць наступныя летапісныя звесткі:

а) «...пришел из заморья, имяше власть свою в Полоцке»;

б) «...от него же и туровцы прозвашася»;

в) «...князь людем судяше, князем грады рядяше, а сам в ночь волком рыскаше: из Кыева дорискаше до кур Тмутороканя, великому Хорсови волкомъ путь прерыскаше»;

г) «...воевал дреговичи и Случеск пожег и не каяшется о сем...».

**Заданне 10.** Зрабіце параўнанне.

| План параўнання | Полацкае княства | Тураўскае княства |
|---|---|---|
| 1. Калі ўзнікла?<br>2. Якую тэрыторыю займала?<br>3. Як называлася сталіца?<br>4. Першыя летапісныя князі.<br>5. Асаблівасці кіравання. | | |
| | Вывад | |



Для замацавання сваіх ведаў рэкамендуем наведаць з настаўнікам ці бацькамі:

- Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь;
- Сафійскі сабор у Полацку;
- Спаса-Праабражэнскую царкву ў Полацку;
- помнік Ефрасінні Полацкай у Полацку;
- турыстычны маршрут «Полацк — калыска беларускай дзяржаўнасці»;
- помнік Кірылу Тураўскаму ў Тураве Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці;
- Каложскую царкву ў Гродне;
- Музей гісторыі горада Мінска;
- Археалагічны музей «Бярэсце»;
- Гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе»;
- Дабравешчанскую царкву ў Віцебску;
- памятны знак у гонар 900-годдзя Пінска;
- Камянецкую вежу;
- помнік князю Уладзіміру Васількавічу і княгіні Вользе Раманаўне ў Кобрыне Брэсцкай вобласці;
- Музей гісторыі Давыд-Гарадка Столінскага раёна Брэсцкай вобласці;
- помнік Давыду Ігаравічу, заснавальніку горада, у Давыд-Гарадку.

## Слоўнік гістарычных паняццяў





**Абра́ды** — спецыяльныя рытуальныя дзеянні, якімі суправаджаліся важныя падзеі ў жыцці людзей.

**Абшчы́на** — калектыў (невялікая група) людзей, якія вялі агульную гаспадарку і сумесна валодалі зямлёй і жывёлай.

**Амуле́т** — прадмет (невялікая рэч), які людзі насілі на целе. Людзі верылі, што ён засцерагае іх ад небяспекі, спрыяе поспеху ў гаспадарчай дзейнасці.

**А́нты** — назва групы славян VI ст.

**Апалчэ́нне** — ваенная сіла, якая складалася з гараджан і сельскага насельніцтва; назва паходзіць ад слова «полк».

**Арцыбі́скуп** — старшы біскуп, адзін з найважнейшых царкоўных чыноў.

**Ба́лты** — плямёны індаеўрапейскага паходжання, продкі сучасных літоўцаў і латышоў. Да прыходу славян засялялі ўсю тэрыторыю Беларусі. Слова паходзіць ад назвы Балтыйскага мора.

**Барана́-сукава́тка** — старажытная сельскагаспадарчая прылада для апрацоўкі зямлі, якая ўяўляла сабой кавалак сукаватага дрэва.

**Бары́савы камяні́** — помнікі XII ст. у Беларусі: сем вялікіх валуноў з крыжамі і надпісамі, зробленымі па загадзе князя Барыса.

**Бая́ры** — нашчадкі родавай знаці ў Кіеўскай Русі, старшыя дружыннікі і буйны́я землеўласнікі. У перыяд раздробленасці — багатыя і ўплывовыя землеўласнікі.

**Берасця́ныя гра́маты** — лісты і дакументы на бяросце, выяўленыя пры раскопках старажытнарускіх гарадоў.

**Бі́скуп** — духоўнае званне ў рымска-каталіцкай царкве.

**Бо́ртніцтва** — збор мёду дзікіх пчол. Борцю ў славян называлася дупло ў дрэве, дзе сяліліся пчолы.

**Валыня́не** — усходнеславянскі саюз плямёнаў, якія жылі на паўднёвым захадзе сучаснай Беларусі.

**Вара́гі** — старажытнаруская назва скандынаўскіх воінаў-вікінгаў.

**Ваяво́да** — княжацкі военачальнік у Старажытнай Русі.

**Вене́ды** — магчымая першапачатковая назва славян, вядомая рымскім гісторыкам I—II стст. н. э.

**Ве́ча** — сход дарослых свабодных мужчын, які склікаўся для вырашэння важных спраў.

**Во́лак** — сухапутная частка воднага шляху гандлёвых зносін, якая ляжыць паміж дзвюма рэкамі. Па ім даводзілася цягнуць караблі.

**Во́ласць** — ва ўсходніх славян у XI—XIII стст. тэрыторыя, падпарадкаваная ўладзе аднаго князя, княжацкае ўладанне.

**Во́рыўнае земляро́бства** — новы, больш дасканалы від земляробства, які прыйшоў на змену матычнаму. Для апрацоўкі зямлі выкарыстоўваліся рала і саха.

**Востракане́чнік** — выраблена з крэменю прылада трохкутнай формы, ababітая па краях. Ёю можна было праколваць або рэзаць шкуры жывёл.

**Вытво́рчая гаспада́рка** — гаспадарка, пры якой людзі самі рабілі тое, што неабходна для жыцця: гадавалі жывёл, вырошчвалі расліны.

**Гарадзі́шча** — умацаванае валамі, равамі і сценамі паселішча.

**Го́сці** — купцы, якія гандлявалі з замежжам, або замежныя купцы.

**Дані́на** — натуральны падатак (футра, мёд і г. д.), які плацілі князю падуладныя яму людзі; пазней — усе дзяржаўныя падаткі.

**Дваяве́рства** — сітуацыя, калі некаторы час пасля прыняцця хрысціянства насельніцтва захоўвала веру ў язычніцкіх багоў ці атаясамлівала іх з хрысціянскімі святымі.

**Двухпо́лле** — сістэма апрацоўкі зямлі, пры якой па чарзе засявалася адна палова поля, а другой давалі адпачынак.

**Дзесяці́на** — дзясятая частка прыбытку вярхоўнай улады (князя), якая аддавалася царкве.

**Дзі́да (кап'ё)** — найстаражытнейшая колючая кідальная зброя.

**Дзядзі́нец** — умацаваны цэнтр сярэднявечнага ўсходнеславянскага горада.

**Дружы́на** — атрад узброеных і спецыяльна падрыхтаваных да ваеннай справы людзей, дарадчыкаў князя. Дружыну ўзначальваў князь.

**Дрыгавічы́** — буйны́ ўсходнеславянскі саюз плямёнаў, які засяляў цэнтральную і паўднёвую часткі сучаснай Беларусі.

**Дырхе́м** — арабская срэбная манета. Акрамя ўсходніх краін у IX — пачатку XI ст. атрымала шырокае распаўсюджанне ва Усходняй і Паўночнай Еўропе.

**Дэкараты́ўна-прыкладно́е маста́цтва** — стварэнне і мастацкае афармленне прадметаў, якія маюць практычнае прызначэнне ў побыце.

**Ева́нгелле** — раннехрысціянскі твор, у якім расказваецца пра жыццё Ісуса Хрыста.

**Епа́рхія** — хрысціянская царкоўна-адміністрацыйная адзінка ў межах пэўнай тэрыторыі (вобласці, зямлі, дзяржавы).

**Епі́скап** (у рымска-каталіцкай царкве — бі́скуп) — духоўнае званне ў хрысціянскай царкве.

**Жыцці́е** — апавяданне пра жыццёвы шлях і дзейнасць служыцеля царквы, рэлігійнага ці дзяржаўнага дзеяча.

**За́купы** — збяднелыя людзі, якія бралі ў феадала грашовую пазыку (ку́пу) і былі абавязаныя яе адпрацоўваць, пакуль не вернуць грошы.

**Залата́я Арда́** — дзяржава, створаная заваёўнікамі-манголамі ў 1220—1240-я гг. на тэрыторыі Паволжа, Паўночнага Каўказа, Паўночнага Прычарнамор'я, Сярэдняй Азіі і Заходняй Сібіры. Пасля мангольскага нашэсця на Русь 1237—1241 гг. падпарадкавала значную частку ўсходнеславянскіх зямель.

**Знаць** — прывілеяваны пласт грамадства.

**Зямля́** — назва буйнога княства Старажытнай Русі, якое падзялялася на воласці.

**І́дал** — вобразная выява бога, якому пакланяліся язычнікі.

**Індаеўрапе́йцы** — плямёны жывёлаводаў-вандроўнікаў, якія рассяліліся на вялікай тэрыторыі, у тым ліку і ў Еўропе. Пасля змешвання іх з мясцовым насельніцтвам утварыліся групы плямёнаў: балты, славяне, германцы і інш.

**Каме́нны век** — найстаражытнейшы гістарычны перыяд у развіцці чалавецтва, калі асноўныя прылады працы і зброя вырабляліся галоўным чынам з каменю.

**Ка́пішча** — свяцілішча (месца, дзе язычнікі ўшаноўвалі сваіх багоў і прыносілі ім ахвяры).

**Князь** — першапачаткова ваенны правадыр племені; пазней — уладар княства.

**Краманьёнец** — ранні прадстаўнік чалавека сучаснага тыпу.

**Крывічы́-палача́не** — буйны́ ўсходнеславянскі саюз плямёнаў, які засяляў паўночную частку сучаснай Беларусі.

**Крыжакі́** — воіны духоўна-рыцарскіх ордэнаў, якія ў мэтах пашырэння хрысціянскай веры ажыццяўлялі заваёўніцкія паходы.

**Кры́ца** — порыстая маса нагрэтай руды, з якой атрымлівалі жалеза.

**Курга́н** — земляны насып над магілай памерлага.

**Ледаві́к** — велізарныя рухомыя масы лёду.

**Ле́тапіс** — пагадовыя запісы гістарычных падзей у Старажытнай Русі.

**Ля́днае (падсе́чна-агнявóе) земляро́бства** — форма земляробства ў лясной паласе, пры якой высякаўся і спальваўся на пэўным участку лес, карчаваліся пні, а попел служыў угнаеннем. Падсекай, ці лядам, называлася ачышчаная ад дрэў лясная дзялянка.

**Мана́х** — член царкоўнай абшчыны, які даваў абяцанне весці строгі лад жыцця з адмаўленнем ад матэрыяльных выгод і жыццёвых уцех.

**Манго́лы** — сярэднеазіяцкі качавы народ, які першапачаткова размяшчаўся на поўнач ад Кітая. У XIII ст. ажыццяўлялі шырокія заваёвы ў Азіі і часткова Еўропе.

**Матычнае земляро́бства** — апрацоўка зямлі з дапамогай матык.

**Міжусо́бная вайна́** — узброеная барацьба паміж асобнымі князямі.

**Мініяцю́ра** — малюнак невялікага памеру, які змяшчаўся ў летапісах і іншых рукапісных кнігах.

**Місіяне́р** — прапаведнік, які пасылаецца царквой для пераканання ў перавагах свайго веравызнання.

**Мітрапалі́т** — адзін з кіраўнікоў хрысціянскай царквы.

**Мітрапо́лія** — царкоўная акруга, падпарадкаваная мітрапаліту.

**Міф** — аповед, у якім людзі перадаюць сваё разуменне навакольнага свету і яго паходжання, месца ў ім чалавека і жыцця багоў і герояў.

**Мнагабо́жжа** — вера ў шматлікіх багоў, галоўная рыса язычніцтва.

**Мурава́нае до́йлідства** — узвядзенне будынкаў з каменю і цэглы, змацаваных вапнавым растворам.

**Натура́льная гаспада́рка** — тып гаспадарання, накіраваны на забеспячэнне ўласных патрэб, а не на продаж.

**Неандэрта́лец** — выкапнёвы від чалавека, які вымер болей за 25 тысяч гадоў таму.

**Паго́ст** — пункт для збору даніны ў старажытнарускі перыяд.

**Паліты́чная раздро́бленасць** — раздрабленне раней адзінай дзяржавы на некалькі самастойных дзяржаўных утварэнняў.

**Палю́ддзе** — збор князем даніны з падуладнага яму насельніцтва; сама сабраная даніна.

**Паса́д** — паселішча рамеснікаў і гандляроў, якое размяшчалася каля ўмацаванага цэнтра горада — дзядзінца.

**Паса́днік** — намеснік князя з ліку буйны́х баяр-дружыннікаў, які па загадзе свайго гаспадара і ад яго імя кіраваў пэўным горадам з сялянскай акругай.

**Патрыярха́льнае (ха́тняе) ра́бства** — першапачатковая форма рабства, пры якой рабы ўспрымаліся як члены сям'і, звычайна жылі пад адным дахам з гаспадаром і выконвалі тую ж працу, што і свабодныя.

**Першабы́тны лад** — найбольш ранні перыяд у развіцці чалавечага грамадства, для якога былі характэрны роўнасць усіх людзей, выкарыстанне прымітыўных прылад працы, адсутнасць дзяржаў.

**Печ-до́мніца** — гліняная печ для атрымання з балотнай руды порыстай масы (крыцы) і крычнага жалеза.

**Пле́мя** — трывалае аб'яднанне некалькіх родаў, звязаных агульнасцю паходжання.

**Племянно́е кня́жанне** — аб'яднанне саюзаў плямёнаў ці асобны саюз плямёнаў, у якіх існавала княжацкая ўлада.

**Правады́р** — кіраўнік племені.

**Прарадзі́ма** — тэрыторыя, якую першапачаткова насяляў той або іншы народ.

**Прыва́тная ўла́снасць** — магчымасць і права неабмежаванага карыстання пэўнай маёмасцю, у тым ліку зямлёй, жывёлай і г. д.

**Прысво́йвальная (спажыве́цкая) гаспада́рка** — від гаспадаркі, пры якім старажытны чалавек браў ад прыроды ўсё неабходнае для жыцця ў гатовым выглядзе.

**Радзі́мічы** — буйны́ ўсходнеславянскі саюз плямёнаў, які засяляў паўднёва-ўсходнюю частку сучаснай Беларусі.

**Разе́ц** — старажытная прылада працы, прызначаная для рэзання.

**Ра́ла** — прылада для апрацоўкі глебы.

**Раме́сная вытво́рчасць** — выраб розных прадметаў, неабходных для жыцця чалавека, ручным спосабам.

**Расслае́нне грама́дства** — узнікненне сярод людзей маёмаснай няроўнасці, у выніку якой адбываецца падзел насельніцтва на пануючыя і залежныя пласты.

**Род** — група людзей, калектыў кроўных родзічаў.

**Ро́давая абшчы́на** — калектыў (невялікая група) старажытных людзей, якія былі звязаны паміж сабой сваёй роднасцю і агульнасцю паходжання, вялі агульную гаспадарку і сумесна валодалі прыладамі працы.

**Родаплемянна́я знаць** — прывілеяваны пласт грамадства, які не ўдзельнічаў у вытворчасці прадуктаў, але валодаў значным багаццем.

**Рэ́чавыя крыні́цы** — створаныя людзьмі матэрыяльныя аб’екты, якія адлюстроўваюць інфармацыю пра мінулае.

**Сабо́р** — галоўная або вялікая царква горада.

**Саве́т старэ́йшын** — орган улады, які складаўся са старэйшын і вырашаў пытанні жыцця роду ці племені.

**Саха́** — сельскагаспадарчая прылада для ўзрыхлення зямлі.

**Свяці́лішча** — месца, дзе язычнікі ўшаноўвалі сваіх багоў і прыносілі ім ахвяры.

**Се́лішча** — неўмацаванае паселішча, у якім жылі ў асноўным земляробы.

**Склаві́ны** — назва адной з груп славян VI ст.

**Скрабо́к** — старажытная прылада працы для апрацоўкі скур.

**Скульпту́ра** — від мастацтва, звязаны са стварэннем аб’ёмнай выявы.

**Славя́не** — плямёны індаеўрапейскага паходжання, продкі сучасных беларусаў, рускіх, украінцаў, палякаў, чэхаў, балгараў, сербаў і інш.

**Славянізáцыя бáлтаў** — паступовы працэс збліжэння балцкага насельніцтва са славянскім, вынікам якога было канчатковае зліццё балтаў са славянамі.

**Смерд** — часткова свабодны земляроб. Меў асабістую свабоду, аднак зямля, на якой ён працаваў, належала князю.

**Старэ́йшына** — кіраўнік роду або племені, самы вопытны і звычайна стары чалавек.

**Стая́нка** — месца пасялення першабытных людзей.

**Сусе́дская абшчы́на** — калектыў людзей, якія жылі асобнымі сем'ямі і займаліся пераважна сельскагаспадарчай працай. У такую абшчыну акрамя родзічаў уваходзіла значная колькасць суседзяў.

**Трохпо́лле** — сістэма апрацоўкі зямлі, пры якой адна частка засявалася яравымі, другая — азімымі, а трэцяя «адпачывала».

**Ту́раўскае ева́нгелле** — самая старажытная рукапісная кніга з беларускіх зямель. Створана ў XI ст.

**Ты́сяцкі** — кіраўнік гарадскога ваеннага апалчэння.

**Фрэ́ска** — жывапіс вадзянымі фарбамі па свежай тынкоўцы.

**Хало́п** — чалавек, які страціў асабістую свабоду і трапіў у поўную залежнасць ад феадала. Па сваім становішчы быў рабом.

**Ціву́н** — службовая асоба пры князю. Выконваў розныя даручэнні князя: вяршыў суд, збіраў даніну і г. д.

**Чэ́лядзь** — першапачаткова рабы, пазней людзі, якія трапілі ў залежнасць ад гаспадара, жылі пры яго двары і па яго загадзе выконвалі розныя гаспадарчыя работы.

**Э́тнас (наро́д)** — група людзей, якая склалася гістарычна, аб'яднана агульным паходжаннем, тэрыторыяй, самасвядомасцю, мовай, бытам і культурай.

**Язы́чніцтва** — вера ў існаванне многіх багоў, што ўвасаблялі сілы прыроды, і пакланенне ім.

## Асноўныя даты па гісторыі Беларусі са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст.

| | |
|---|---|
| **35—100 тыс. гадоў таму — канец 3-га тысячагоддзя да н. э.** | Каменны век на тэрыторыі Беларусі |
| **35—40 тыс. гадоў таму** | З'яўленне ў Еўропе краманьёнца — чалавека сучаснага тыпу |
| **24-е тысячагоддзе да н. э.** | Найбольш старажытная стаянка чалавека ў Беларусі (вёска Юравічы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці) |
| **22—21-е тысячагоддзі да н. э.** | Стаянка чалавека каменнага веку каля вёскі Бердыж Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці |
| **3-е тысячагоддзе да н. э.** | З'яўленне жывёлагадоўлі на тэрыторыі Беларусі |
| **Сярэдзіна 3-га тысячагоддзя да н. э.** | З'яўленне першых індаеўрапейцаў на тэрыторыі Беларусі |
| **Пачатак 2-га тысячагоддзя да н. э. — каля 700 г. да н. э.** | Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі |
| **Каля 700 г. да н. э. — канец V ст. н. э.** | Пачатак жалезнага веку на тэрыторыі Беларусі |
| **VI ст.** | Першыя згадкі славян у пісьмовых крыніцах |
| **VIII—IX стст.** | Утварэнне аб'яднанняў усходніх славян на тэрыторыі Беларусі: крывічоў-палачан, дрыгавічоў, радзімічаў |
| **862 г.** | Першае ўпамінанне пра Полацк у летапісе |
| **980 г.** | Першая згадка Турава ў летапісе |

| | |
|---|---|
| **988 г.** | Хрышчэнне Русі. Пачатак княжання Святаполка ў Тураве. Пачатак кіравання дынастыі Ізяславічаў у Полацку |
| **Каля 992 г.** | Заснаванне епархіі ў Полацку |
| **1003—1044 гг.** | Княжанне Брачыслава Ізяславіча ў Полацку |
| **1005 г.** | Заснаванне епархіі ў Тураве |
| **1019 г.** | Першая згадка Берасця ў летапісе |
| **1044—1101 гг.** | Княжанне Усяслава Брачыславіча ў Полацку |
| **3 сакавіка 1067 г.** | Бітва на Нямізе. Першае ўпамінанне ў летапісе Менска (Мінска) |
| **1101 г.** | Канчатковае раздрабленне Полацкай зямлі |
| **1101—1119 гг.** | Княжанне Глеба Усяславіча ў Менску |
| **1127 г.** | Паход Мсціслава Вялікага ў Полацкую зямлю |
| **1129 г.** | Выгнанне полацкіх князёў у Візантыю |
| **1157 г.** | Беспаспяховая аблога Турава войскамі кіеўскага князя Ізяслава Давыдавіча і яго саюзнікаў |
| **1216 г.** | Падрыхтоўка паходу полацкага князя Уладзіміра супраць нямецкіх рыцараў, раптоўная смерць Уладзіміра |
| **1237—1241 гг.** | Мангольскае нашэсце на Русь |
| **1241 г.** | Уварванне на Берасцейшчыну войска манголаў |

## Раім пачытаць


Аповесць мінулых гадоў: старонкі летапісу. Мінск, 1999.

*Арлоў У.* Таямніцы полацкай гісторыі. Мінск, 2002.

Беларуская міфалогія. Мінск, 2001.

Беларускія летапісы і хронікі. Мінск, 1997.

*Бутрамееў У.* Вялікія і славутыя людзі зямлі Беларускай. Мінск, 2002.

*Бутэвіч А.* Званы Нямігі. Сем цудаў Беларусі. Мінск, 2002.

*Бутэвіч А.* У гасцях у вечнасці. Мінск, 2001.

*Велько А. В.* Православные святые земли Белорусской. Минск, 2015.

*Дайнека Л.* След Ваўкалака: раман. Мінск, 2001.

*Калечыц А. Г.* Першыя людзі на зямлі Беларусі. Мінск, 2007.

*Караткевіч У.* Зямля пад белымі крыламі. Мінск, 1992.

*Лысенко П.* Ф. Открытие Берестья. Минск, 2007.

*Ляўкоў Э. М.* Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Мінск, 1992.

*Марціновіч А.* Златавуст з Турава, альбо Якая яна, старажытная Тураўшчына? Мінск, 2000.

*Марціновіч А.* Святая Еўфрасіння, альбо Адкуль ёсць, пайшла Полацкая зямля. Мінск, 2008.

*Рябцевич В. Н.* О чем рассказывают монеты. Минск, 1978.

Слова пра паход Ігаравы / маст. апрац. у сучас. мову Р. Барадуліна. [Б. м.], 1988.

*Тарасаў К.* Беларусь: гістарычнае падарожжа для дзяцей. Мінск, 2000.

*Тарасаў К.* Памяць пра легенды. Постаці беларускай мінуўшчыны. Мінск, 1990.

*Тарасаў С. В.* Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі. Мінск, 1991.

*Чарняўскі М. М.* Ілюстраваная гісторыя старадаўняй Беларусі: першабытны перыяд. Мінск, 2003.

*Чаропка В.* Імя ў летапісе. Мінск, 2003.

*Черёмин А. А.* Полоцкое княжество (IX—XIV вв.). Минск, 2013.

*Чырвінскі В. С.* Беларусь у войнах. Асобы і падзеі. Мінск, 2016.

*Штыхаў Г. В.* Археолагі дапаўняюць летапісцаў. Мінск, 2009.

# Змест

(Назва ўстановы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Вучэбны год | Імя і прозвішча навучэнца | Клас | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака навучэнцу за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|---|
| 20 / 20 | | | | |
| 20 / 20 | | | | |
| 20 / 20 | | | | |
| 20 / 20 | | | | |
| 20 / 20 | | | | |
| 20 / 20 | | | | |

Вучэбнае выданне

**Бохан** Юрый Мікалаевіч
**Цемушаў** Сцяпан Мікалаевіч

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ СА СТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА КАНЦА XV ст.**

Вучэбны дапаможнік для 6 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

Галоўны рэдактар *Н. Г. Шчарбакова*
Рэдактары *Н. Б. Кучмель, І. В. Летуновіч*
Дызайн вокладкі *Л. І. Мелава*
Картасхемы *В. М. Цемушава*, *С. М. Цемушава*
Тэхнічнае рэдагаванне *І. П. Грышынай*
Камп’ютарная вёрстка *І. П. Грышынай, А. У. Смалюк*
Карэктары *Т. М. Булатава, В. М. Іваноў, А. Ф. Каравай*

Падпісана ў друк 23.08.2016. Фармат 70×90 $^1/_{16}$. Папера афсетная № 1.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 11,99+0,29 форз. Ул.-выд. арк. 5,60+0,40 форз. Тыраж 20 800 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецкі цэнтр Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/159 ад 27.01.2014. Вул. Чырвонаармейская, 6, 220030, Мінск.

Адкрытае акцыянернае таварыства «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа». Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.

# Беларускія землі ў XII ст.



# Беларускія землі ў першай палове XIII ст.




Тэрыторыі, якія ў першай трэці XIII ст. былі захоплены нямецкімі рыцарамі-крыжакамі

Напрамкі нападаў крыжакоў

Напрамкі нападаў манголаў у 1239—1241 гг.

1236 Месцы бітваў з пазначэннем гадоў

Лічбамі на карце пазначаны:
1 — Тэўтонскі ордэн; 2 — Мазавецкае княства (васал Польшчы); 3 — Новагародскае княства; 4 — Менскае княства; 5 — Віцебскае княства; 6 — Таропецкае княства.